Нацыянальны інстытут адукацыі

# Факультатыўныя заняткі

Г. М. Валочка, С. А. Язерская

# Беларуская мова
## 7 клас
# Слова ў тэксце

Дапаможнік для вучняў
устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*Рэкамендавана
Навукова-метадычнай установай
«Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі
Рэспублікі Беларусь*

2-е выданне



Мінск • «Аверсэв» • 2012

УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)
ББК 81.2Беи-922
В15

*Серыя заснавана ў 2010 годзе*

**Валочка, Г. М.**

В15 Беларуская мова. 7 клас. Слова ў тэксце : дапам. для вучняў устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. і рус. мовамі навучання / Г. М. Валочка, С. А. Язерская. — 2-е выд. — Мінск : Аверсэў, 2012. — 108 с. — (Факультатыўныя заняткі).

ISBN 978-985-19-0442-2.

Дапаможнік прызначаны для выкарыстання на факультатыўных занятках у 7 класе. Змешчаны ў кнізе тэарэтычны і практычны матэрыял накіраваны на замацаванне і сістэматызацыю ведаў, удасканаленне ўменняў і навыкаў па адпаведных раздзелах вучэбнай праграмы, развіццё культуры вуснага і пісьмовага маўлення навучэнцаў.

Адрасуецца вучням і настаўнікам беларускай мовы.

**УДК 811.161.3(075.3=161.3=161.1)**
**ББК 81.2Беи-922**

**ISBN 978-985-19-0442-2**

## Прадмова

Тэарэтычны і практычны матэрыял, змешчаны ў дапаможніку, распрацаваны для выкарыстання на факультатыўных занятках па беларускай мове «Слова ў тэксце: 7 клас». Мэта факультатыўных заняткаў і, адпаведна, гэтай кнігі — павысіць увагу вучняў да слова як асноўнай моўнай і маўленчай адзінкі, забяспечыць фарміраванне і ўдасканаленне ўмення асэнсоўваць, як функцыянуе кожная часціна мовы ў тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў. Галоўная ўвага на занятках будзе скіравана на развіццё ўменняў:

а) кваліфікаваць пэўную граматычную з'яву на аснове ўвагі да яе формы, разумення значэння і тэкстаўтваральнай ролі ў маўленні;

б) суадносіць гэтую граматычную з'яву з нормамі сучаснай беларускай літаратурнай мовы і камунікатыўнымі перспектывамі;

в) ствараць уласныя выказванні ў адпаведнасці з маўленчымі задачамі, канкрэтнай жыццёвай сітуацыяй.

Колькасць раздзелаў дадзенага дапаможніка і іх змест вызначаецца структурай і зместам праграмы факультатыўных заняткаў: «Паўтарэнне вывучанага», «Словы-гібрыды (дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе)», «Прыслоўе», «Прыназоўнік», «Злучнік», «Часціца», «Выклічнік», «Літаратура».

Раздзелы дапаможніка ўключаюць наступныя зместавыя блокі:

1. Тэарэтычны матэрыял, неабходны для замацавання ведаў па вызначаных праграмай тэмах. Ён суправаджаецца табліцамі і схемамі, якія падагульняюць і сістэматызуюць

адпаведныя моўныя факты. Лінгвістычныя звесткі падаюцца ў даступнай для вучняў форме, што дазваляе асэнсаваць граматыку мовы як інструмент фарміравання і выражэння думкі.

2. Дыдактычны матэрыял, прызначаны для замацавання марфалагічных паняццяў, засваення граматычных нормаў беларускай мовы, асэнсавання функцый кожнай часціны мовы ў тэксце, развіцця адчування мовы. Заданні практыкаванняў фармулююцца такім чынам, каб можна было асэнсаваць граматычныя з'явы як сістэму ўзаемаабумоўленых і ўзаемазамяняльных формаў, што функцыянуюць у працэсе маўленчых зносін. Гэта будзе садзейнічаць развіццю кагнітыўных здольнасцей вучняў і цікавасці да роднай мовы. У практыкаваннях змешчаны і заданні для спадарожнага паўтарэння лексікі, словаўтварэння, марфалогіі, арфаграфіі і пунктуацыі, што дазволіць арганізаваць заняткі з улікам асаблівасцей працы ў канкрэтным калектыве.

3. Разнастайныя заданні на ўспрыманне, разуменне, перабудову, стварэнне тэкстаў пэўнай кампазіцыйнай будовы, пэўнага стылю і жанру па прапанаванай або самастойна выбранай тэме. Гэтыя заданні распрацаваны для фарміравання маўленчых уменняў і навыкаў.

4. Пытанні і заданні, займальны матэрыял, з дапамогай якіх актывізуецца пазнавальная дзейнасць вучняў, кантралююцца яе вынікі.

З мэтай лепшай арыентацыі на старонках кнігі ўведзена спецыяльная рубрыкацыя зместу: *Успомнім*, *Паведамленне на лінгвістычную тэму*, *Звярніце ўвагу!*, *Запомніце!*, *Паслухаем мовазнаўцаў*, *Паўторым правіла*, *Шукаем памылку*, *Творчая лабараторыя*, *Як сказаць па-беларуску?* і інш. Вучэбны дапаможнік захоўвае асаблівасці афармлення матэрыялу, графічныя абазначэнні, прынятыя ў падручніках для 5–7 класаў.

Выхаваўчыя магчымасці навучальнага працэсу ў дастатковай ступені змогуць рэалізавацца ў час чытання, аналізу, пераказу ўрыўкаў з мовазнаўчых артыкулаў, народных

твораў, мастацкіх, публіцыстычных тэкстаў, якія знаёмяць вучняў з роляй мовы ў жыцці грамадства, вучаць любіць родную краіну і яе мову, выхоўваюць культуру мыслення і маўленчых паводзін.

Такім чынам, засваенне тэарэтычнага матэрыялу і выпрацоўка адпаведных аналітыка-сінтэтычных моўных і маўленчых уменняў, вызначаных праграмай факультатыўных заняткаў, адбываецца на практычным узроўні, што ў пэўнай ступені забяспечыць фарміраванне моўнай, камунікатыўнай і лінгвакультуралагічнай кампетэнцый вучняў.

**Слова**

Слова!
Цуд найвялікшы між цудаў-дзівосаў,
Што здзіўляў у вяках і здзіўляе нанова.
Трапяткое,
жывое,
як промень у росах, —
Несмяротнае, роднае матчына слова!
Слова ў вуснах і ў кнізе, на медзі скрыжаляў,
На харугве святой, на пліце мармуровай.
Слова
крыўды і гневу,
пяшчоты і жалю —
Любай Маці-Радзімы вячыстае слова!
Слова клятвы на вернасць, прысягі суровай.
Слова гонару,
годнасці,
святаў і будняў,
Міру, дружбы, братэрства свабоднае слова!

*Ніл Гілевіч.*

## ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

### Тэкст, яго асноўныя прыметы. Тэма і асноўная думка тэксту. Загаловак. Спосабы і сродкі сувязі сказаў і частак у тэксце

**1.** Прачытайце. Ці з'яўляецца напісанае тэкстам? Абгрунтуйце сваё меркаванне.

Беларусь называюць зямлёй пад белымі крыламі. Сапраўды, наша краіна мае сімвалічны вобраз — белага бусла.

Белы бусел. Можна падумаць, што гэта звычайная птушка. Але, калі паназіраць за ёю, шмат чаго заўважыш.

Вясной, вяртаючыся з далёкіх краін, буслы прылятаюць у роднае гняздо каля даўно знаёмай вёскі. Проста дзівішся, як гэта яны знаходзяць дарогу дадому. Напэўна, гэтыя птушкі вельмі любяць свой край, родную мясціну, дзе яны нарадзіліся.

Улетку з'яўляюцца маленькія буслікі. Тата з мамай стараюцца накарміць сваіх дзяцей, а затым вучаць іх лятаць.

Але з прыходам восені ў буслоў не менш клопату. Яны хвалююцца, каб іх дзеткі добра даляцелі да цёплых краін, каб з імі нічога не здарылася. Адлятаючы, **чырванадзюбыя** птушкі збіраюцца ў чароды, падобныя да кліна, і, развітваючыся, доўга кружаць над родным гняздом. Магчыма, кажуць: «Не сумуй, родная хатка, увесну зноў прыляцім, не забудзем!»

Няхай наша Беларусь заўсёды застанецца зямлёй пад белымі крыламі (*Т. Корбут*).

- Выканайце словаўтваральны разбор выдзеленага слова. Растлумачце яго правапіс.
- Абгрунтуйце пастаноўку знакаў прыпынку ў перадапошнім сказе.

**Успомнім**

Тэкст — гэта запісанае або прамоўленае выказванне, якое складаецца з некалькіх сказаў, аб'яднаных паміж сабой сэнсава і граматычна дзеля раскрыцця пэўнай тэмы.

Асноўныя прыметы тэксту: тэматычнае адзінства, звязнасць, паслядоўнасць, разгорнутасць, завершанасць.

**2.** Прачытайце. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Падбярыце загаловак.

На Поўначы ёсць край доўгай снежнай зімы. Там сцюдзёнае мора б'ецца аб вострыя скалы і берагі.

Гэта Нарвегія — радзіма грозных «людзей заліваў», вікінгаў. Яны былі і воінамі, і падарожнікамі. Смелыя ды бязлітасныя вікінгі не ведалі страху. Цэлыя краіны і народы дрыжалі ад іх моцных нападаў.

Але і самі паўночныя захопнікі гінулі не аднойчы. У далёкай Нарвегіі ёсць поле, усеянае камянямі. На валунах выбітыя старажытныя літары — руны. Распавядаюць

руны пра славу і гонар даўніх часоў, пра паходы ў далёкія землі.

Шмат разоў вікінгі прыходзілі ў Краіну Гарадоў — Гардарыку. Такое імя паўночныя госці надалі Беларусі.

А славяне называлі ваяўнічых «людзей заліваў» варагамі. Доўгі водны шлях, пракладзены імі, стаў шляхам «з варагаў у грэкі» (*А. Бензярук*).

- Вызначце спосаб сувязі сказаў у тэксце. Выпішыце паслядоўна словы, пры дапамозе якіх звязваюцца сказы.
- Запішыце кантэкставыя сінонімы да слова *вікінгі*.

**Успомнім**

Тэма і асноўная думка ў тэксце раскрываюцца пры дапамозе паслядоўнай і паралельнай сувязі.

Пры **паслядоўнай** сувязі думка перадаецца ад аднаго сказа да другога. Сродкі паслядоўнай сувязі: паўторы аднолькавых ці аднакаранёвых слоў, сінанімічныя замены, займеннікі, злучнікі. Яны абазначаюць адно і тое ж у папярэднім і наступным сказах.

Пры **паралельнай** сувязі ўсе сказы раскрываюць, дапаўняюць першы сказ тэксту. Сродкі паралельнай сувязі: аднолькавы парадак слоў, ужыванне дзеясловаў-выказнікаў аднаго трывання і часу, займеннікі, прыслоўі, злучнікі. У тэкстах-апавяданнях часцей выкарыстоўваецца прамы парадак слоў у сказах (вядомае папярэднічае новаму), а ў тэкстах-апісаннях — адваротны (новае папярэднічае вядомаму).

Звычайна паслядоўная сувязь у тэкстах спалучаецца з паралельнай.

**3.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. З дапамогай якіх спосабаў сувязі змест тэксту аб'ядноўваецца ў адно цэлае?

**Крыху пра вечнае**

Сёння мы выбіраем колер адзення і **дэкор** найперш з эстэтычных і практычных меркаванняў. У старадаўнія ж часы колер і арнамент неслі глыбокія сэнсы і надзяляліся магічным уздзеяннем на людзей і прыроду. Самыя распаўсюджаныя колеры ў арнаментыцы беларусаў: белы, чырво-

ны, чорны — вельмі старажытная трыяда, якая сімвалізуе адзінства нараджэння, жыцця і смерці.

Белы надзяляўся значэннем новага свету, новых ведаў, чысціні і першапачатковасці.

Чырвоны — колер жыцця, яркай эмоцыі радасці. Лічыцца, што ён паляпшае **апетыт** і ўвогуле лечыць душэўную немач. Чырвоны абяцае: хутка **надыдзе** ўзыход ці нараджэнне, а таксама гэта колер крыві і ахвяры.

Чорны — сыход старых каштоўнасцей, колер зямлі, у якую ўсё сыходзіць і з якой усё нараджаецца. Колер абяцання: хутка вы даведаецеся пра тое, чаго не ведалі раней.

Ва ўлюбёных арнаментах, што вытыкаліся і вышываліся на палатне — увасабленні чалавечага лёсу — былі зашыфраваныя самыя значныя з'явы ў жыцці насельнікаў нашага краю, іх веды і ўяўленні (*В. Далатоўская*).

- Растлумачце правапіс выдзеленых слоў. Запішыце іншыя прыклады да адпаведных правілаў.
- Падрыхтуйце вуснае паведамленне пра знакі-сімвалы, што вышываюцца або ткуцца на беларускіх узорах.

**4.** Прачытайце. Вызначце, якія тыпы тэксту спалучаюцца ў гэтым выказванні. Назавіце спосабы і сродкі сувязі сказаў.

У лагер вярнуліся з баявога задання партызаны. Яны ішлі, расцягнуўшыся ў доўгую калону, па двое, па трое, па чацвёра. Кулямёты — нашы і нямецкія, вінтоўкі, аўтаматы розных сістэм, у кожнага на поясе дзве-тры гранаты. На шапках, пілотках, папахах — чырвоныя стужкі наўскасяк або зорачкі. Твары ўчарнелыя, змораныя, хада цяжкая, але галасы ў партызан бадзёрыя. Яны перакідваліся жартамі, звонка смяяліся (*Я. Курто*).

- Выканайце графічны разбор па членах сказа перадапошняга сказа тэксту.

**5.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып. Падбярыце загаловак. Назавіце спосабы і сродкі сувязі сказаў у тэксце. Тэкст запішыце, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

Рыгор зачаравана агледзе..ся: у хаце галоўнага распарадчыка (Б, б)елавежскай пушчы быў упершыню, тым болей у вялікім службовым кабіне..е.

На сц..не віселі паляўнічыя тр..феі: галовы аленя ласядзіка. На падлозе ляжала шкура м..д..ведзя. Над уваходнымі дзв..рамі ўзвышалася галава зубра. Паміж паляўнічымі трафеямі віселі карціны са сцэнамі палявання. Каля сцяны стаяў вялікі пісьмовы стол з дуб.., з высокай прыгожай спінкай выраблена крэсла. За крэслам на сцяне вісеў вялікі партрэт найсв..тлейшай асобы ў мундзір.. . Побач стаяла этаж..рка з кнігамі ў тоўстых скураных пер..плётах з пазалочанымі надпіс..мі (*А. Брытун*).

- Як вы думаеце, пра які час ідзе размова ў тэксце? Чый партрэт вісеў у кабінеце галоўнага распарадчыка пушчы?

**6.** Прачытайце сказы. Ці можна іх назваць тэкстам? Якая асноўная прымета тэксту тут не рэалізавана?
Запішыце сказы ў такой паслядоўнасці, каб атрымаўся тэкст. У тэксце тры абзацы.

Арэшнік рос непадалёк ад лагера, на прагалінах між высокіх дубоў і елак. Як і казаў Уладзік, ядры былі поўныя і крамяныя. Пасля абеду Уладзік прапанаваў Якімку схадзіць у арэхі. Спачатку хлопцы рвалі арэхі знізу і тут жа з хрустам раскусвалі шкарлупку. Хлопцы напоўнілі арэхамі сарочкі, набілі кішэні і пайшлі ў лагер. Нядаўна ён ездзіў з адным гаспадарнікам па дровы і знайшоў цэлыя зараснікі арэшніку. Калі сагналі ахвоту, пачалі зрываць гронкі з верхніх галін і складаць іх у кучкі. Тонкія галінкі аж згіналіся пад цяжарам шматлікіх гронак. Прайшло няшмат часу, і кучкі арэхаў выраслі ў цэлыя горкі (*Я. Курто*).

- Падкрэсліце словы, якія забяспечваюць тэматычнае адзінства тэксту.

## Сэнсава-граматычная і тэкстаўтваральная роля іменных часцін мовы і дзеяслова ў тэкстах розных тыпаў, стыляў і жанраў

**7.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго адрасата і мэтанакіраванасць, тып і стыль тэксту.
Вызначце і запішыце назоўнікі і займеннікі, якія забяспечваюць тэматычнае адзінства тэксту, а таксама назоўнікі і займеннікі, якія забяспечваюць шырыню і глыбіню раскрыцця тэмы.

## Дахавік Казік

Недалёка ад цэнтра горада жыве дахавік Казік. Колькі яму гадоў, ён не памятае, бо дахавікі жывуць вельмі-вельмі доўга, а пасведчанняў аб нараджэнні ў старыя часы не выдавалі.

Носіць Казік старамодны капялюш — цыліндр чорнага колеру, чорны сурдут і чырвоныя штонікі. Мода на адзенне ў дахавікоў мяняецца не так часта, як у людзей. Затое мае Казік прыгожыя красоўкі на тоўстай рыфлёнай падэшве і мабільны тэлефончык. У красоўках Казіку вельмі зручна бегаць па коўзкіх дахах, а па тэлефоне дахавік звоніць сваім сябрукам, якія жывуць у горадзе, і нават у іншых краях.

Аднойчы, на пачатку восені, Казік адпачываў на сваім даху. Там у яго паміж комінам і трубамі ацяплення стаіць маленькі ложак. Раптам у адчыненае акно заляцела знясіленае бусляня.

Казік даўно жыў на свеце, а таму паспеў вывучыць шмат моў, у тым ліку і буслінуюю.

— Хто ты такі і што табе спатрэбілася на маім гарышчы? — спытаўся Казік па-буслінаму, шчоўкаючы языком.

— Я Бацік. Я ад сваіх адстаў. Мы ў Афрыку ляцелі зімаваць. Я хацеў жабку злавіць, адстаў і згубіўся. Ы-ы-ы! Што я буду рабіць?! Я дарогі не ведаю!

— Як жа табе, беднаму, дапамагчы? А нумар татавага мабільнага памятаеш?

— Ага. Па-а-амятаю.

Прадыктаваў Бацік нумар. Дазваніўся Казік да Бацікавага таты, распавёў, што сын-шалапут у яго цяпер знаходзіцца. І дамовіліся яны, дзе буслы пачакаюць Баціка (*У. Васькоў*).

- Выпішыце з тэксту прыметнікі (разам з назоўнікамі), якія называюць а) наглядныя, б) ацэначныя і в) інфарматыўныя прыметы прадметаў маўлення, што робіць тэкст больш выразным і дакладным.
- Растлумачце правапіс вялікай літары ў тэксце.
- Назавіце прыметнік, ужыты ў значэнні назоўніка.

8. Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып. Адказ абгрунтуйце. Прыдумайце да тэксту загаловак.

Усё пачалося з таго, што я зразумела: канцэрты і выставы мне больш не цікавыя самі па сабе, а цікавыя як матэрыял для артыкула... У Маскве, калі ўнівер кінула, я сядзела дома і тэлек тупа глядзела два месяцы... А тут, у Піцеры, ужо месяц швэндаюся па флэтах, тусуюся ў пераходах з чувакамі, нішцякі збіраем у двары піцэрыі на Неўскім. У Піцеры пракарміцца і без грошай можна. А заўтра ў Наварасійск з'язджаю. Там мора!.. (*К. Безмацерных*).

- Назавіце займеннік, які скарачае тэкст, замяшчаючы частку тэксту.
- Назавіце словы, якія знаходзяцца па-за межамі літаратурнай мовы. Чым абумоўлена іх ужыванне ў тэксце? Прывядзіце іх літаратурныя адпаведнікі.

**Успомнім**

Асноўная тэкстаўтваральная роля **назоўніка** — забеспячэнне тэматычнага адзінства тэксту. Назоўнікі ў сінтаксічнай ролі дзейніка і дапаўнення ў апавяданні называюць удзельнікаў падзей і непасрэдна звязаны з тэмай тэксту. Назоўнікі дапамагаюць раскрыць шырыню і глыбіню тэмы тэксту, называючы яго падтэмы і мікратэмы.

У тэксце **прыметнікі** ў ролі азначэння называюць наглядныя, ацэначныя, інфарматыўныя прыметы прадметаў маўлення. У ролі выказніка ў тэкстах-апісаннях называюць бачныя прыметы прадметаў або вядомыя прыметы класа прадметаў. Прыметнікі — яркі сродак стварэння эмацыянальнасці, вобразнасці, выразнасці выказвання.

**Займеннікі** ў тэксце ўказваюць на прадметы, іх прыметы і колькасць, забяспечваюць тэматычнае адзінства выказвання. З дапамогай займеннікаў устанаўліваюцца сэнсавыя сувязі паміж сказамі тэксту. Яны замяняюць або папярэджваюць словы са значэннем прадмета, яго прыметы, колькасці прадметаў. Займеннікі скарачаюць тэкст, калі замяшчаюць цэлыя сказы і нават часткі тэксту.

9. Прачытайце тэкст. Вызначце тэму і асноўную думку. Падбярыце загаловак да тэксту. Вызначце тып тэксту, дайце характарыстыку яго будовы.

Пры дапамозе якіх моўных сродкаў раскрываецца задума аўтара?

Сучаснікі Янкі Купалы ў сваіх успамінах стварылі партрэт свайго Песняра. Іх «фарбы» неацэнныя, бо яны сябравалі з паэтам, сустракаліся з ім, бачыліся і гаварылі. Дык якім жа быў у жыцці Янка Купала?

Не вельмі высокі, але вышэй сярэдняга росту. Бялявы, з невялікімі светла-русымі вусікамі. Меў карыя, дапытлівыя, пранікілівыя, разумныя вочы. Усмешка ў яго была чароўная, мяккая, купалаўская. Лёгкай хвалькай бегла ад вачэй да вуснаў. З гадамі гэтая ўсмешка набыла глыбіню з адценнем суму, сталасці і адказнасці. Лоб у яго быў высокі. Твар адухоўлены, велічны. Кажуць, ён быў падобны да сваіх вершаў.

Які ж характар меў наш Янка Купала?

Паводле слоў яго сучаснікаў, ён быў маўклівы і задуменны, душэўны і вясёлы. Любіў жарты і гумар. Умеў быць сур'ёзным і думкі ўмеў таіць у самім сабе. Інтэлігентны ва ўсім: у адзенні, гаворцы, паводзінах. Звонку спакойны, нават сарамлівы, вельмі сціплы. Глыбока ўражлівы. Любіў кнігі, музыку, тэатр. А найбольш любіў людзей: сустракацца з імі, весці размовы, слухаць іх. Сваёй надзвычай тонкай душой умеў прадчуваць падзеі, разгадваць таямніцы быцця, зазіраць у будучыню. Быў чалавекам высакародным, вельмі сумленным, абаяльным, мудрым, даступным. Любіў світанак, імкнуўся прачынацца на ўсходзе сонца (*У. Ліпскі*).

**10.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Сваё меркаванне абгрунтуйце. На якім мастацкім прыёме грунтуецца выказванне аўтара? Падбярыце загаловак.
Выпішыце з тэксту словы, якія забяспечваюць тэматычнае адзінства і звязнасць тэксту.

Усе мы — як лісце на дрэвах... Пакуль вецер часу не адарве нас ад галінкі, праз якую мы злучаны з дрэвам, мы расцём, зелянеем. Мы жывём!.. Варта ж толькі нам адарвацца, пакінуць галінку — мы кружымся, лётаем у паветры, не ведаем, што нам рабіць, дзе падзецца. Потым, у адчаі, так і не сабраўшыся з думкамі, падаем на зямлю. І з той хвіліны перастаём быць самімі сабой. Мы губляемся сярод іншых — такога ж самага лісця, як і мы. І гінем...

Дрэва без лісця хоць і ўсохне, але ўсё ж застаецца дрэвам. Лісце ж без дрэва — тлен, нішто...

Але мы не толькі лісце, мы яшчэ і насенне, мы можам самі стаць дрэвамі. Кім быць — лісцем ці дрэвам — гэта залежыць ад нас саміх (*Б. Сачанка*).

- Выкажыце свае адносіны да зместу тэксту.

**11.** Прачытайце тэкст. Вызначце, якія тыпы тэксту спалучаюцца ў выказванні.

Якая цішыня, векавечная цішыня! Сонца добра прыпякае, ужо горача, хоць яшчэ і раніца. Дзіўна, што не сысыкаюць конікі. Яны там, дзе сушэй. У небе слупамі стаяць, не варухнуцца, высокія аблокі. Трава, высокая і зблытаная, прыгрэтая сонцам, пачынае пахнуць густым лекавым смуродам. Лета, глыбокае спякотнае лета ў рачной даліне Прыпяці.

Раптам данёсся стук дрэва. Так магло стукацца вясло аб дно лодкі. Пайшоў на гук. Так і ёсць — на вадзе, залітай гарачым сонцам, гойдаецца лодка, а на паваленай у ваду вярбіне сядзіць чалавек, апусціў у ваду ногі, трымае вуду, ляскае далонню па шчоках — камароў б'е. З'явілася думка ўкрасці човен, каб самому перабрацца на другі бераг. Але чаго геройстваваць. Патлумачыў, куды яму трэба. Рыбак перавёз Валерку на другі бераг, паказаў, куды ісці. Валерка падзякаваў і шпарка пабег па ледзь бачнай пуцявінцы. Добра, што не балота, а лес.

Вось тут, у гэтым маладняку, Валерка і заўважыў вомільгам **нешта** чырвонае. Глянуў, прыгледзеўся і знерухомеў ад уражання! Стуленая падкурчанымі лістамі папараці расла дзіўная, ніколі не бачаная расліна з надта ж дзіўнай кветкай. Каму, як не пераможцу абласной алімпіяды вызначыць від расліны? Хоць бы запомніць, як яна выглядае, каб потым знайсці па кніжцы...

Што ж гэта за расліна, якая мае кветку з чатырма пялёсткамі ружовага, амаль чырвонага колеру, а пяты пялёстак у выглядзе ўздзьмутай губы? На выгляд уся кветка выглядае як бахілы якія.

«Бахілы? Хм...»

Дык гэта ж — венерыны чаравічкі! Тая самая надзвычай рэдкая, дзівосная расліна, што занесена ў Чырвоныя кнігі ўсёй Еўропы... Бачыў жа на малюнках, а вось зараз і жыўцом. Харошая якая, свежая, бессаромная! (*А. Наварыч*).

- Выпішыце з тэксту дзеясловы, вызначце іх трыванне і час. Як суадносяцца дзеяслоўныя формы з тыпамі тэксту? Якія дзеясловы ўжыты ў апісаннях, а якія ў апавядальнай частцы тэксту?
- Вызначце сэнсавую і тэкстаўтваральную ролю прыметнікаў у тэксце.
- Якую ролю выконвае выдзелены займеннік у тэксце?

**Успомнім**

У тэкстах **дзеясловы закончанага трывання**, якія абазначаюць дзеянні, што змяняюць адно другое, удзельнічаюць у арганізацыі і разгортванні сюжэта ў апавяданні. **Дзеясловы незакончанага трывання**, абазначаючы працяглыя дзеянні, якія адбываюцца адначасова, выкарыстоўваюцца пры апісанні прадметаў маўлення.

**Лічэбнікі** ў тэкстах называюць колькасць удзельнікаў падзей або прадметаў апісання, даюць ім колькасныя характарыстыкі.

**12.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і тып. Якую ролю выконваюць прыметнікі і дзеясловы ў тэксце? Вызначце ролю лічэбнікаў у тэксце. Да якога разраду яны адносяцца?

**Ліпа**

Лістападнае дрэва вышынёй 15—25 метраў (бывае 40 м) у Беларусі расце паўсюль. Глыбока ўкараняецца ў зямлю. Ствол прамы, роўны, галіны ствараюць густую купалападобную крону. Цвіце ў чэрвені — ліпені. Кветкі духмяныя, жаўтавата-белыя. Выдатны меданос. Адна кветачка ўтрымлівае 12 мг нектару. Ад аднаго вялікага дрэва можна атрымаць да 12 кг мёду, амаль столькі, колькі з аднаго гектара грэчневага поля. Драўніна выкарыстоўваецца ў мэблевай прамысловасці, у будаўніцтве, з яе робяць чарцёжныя дошкі, цацкі, лыжкі, шкатулкі. Расце хутка, жыве пад 300—400 гадоў (*Энцыклапедыя*).

# СЛОВЫ–ГІБРЫДЫ (ДЗЕЕПРЫМЕТНІК, ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ)

## Спецыфіка дзеепрыметніка як формы дзеяслова

**1.** Прачытайце тэкст. Выпішыце лінгвістычныя тэрміны, ужытыя ў тэксце, а побач запішыце іх беларускія адпаведнікі.

**Чудесные гибриды**

Старый учёный-языковед служил в морфологическом саду. Он выращивал не фрукты и не ягоды, а звуки, морфемы, части речи и члены предложения и вывел уже несколько новых сортов.

— Может быть, к стволу глагола привить почку прилагательного и наречия, — размышлял как-то учёный-садовник, — только будет ли толк, они так далеки друг от друга?

Но сказано — сделано. Через несколько лет выросли диковинные плоды: не глаголы, не прилагательные, не наречия. Назвали их причастием и деепричастием. Поскольку они росли на стволе глагола, их стали называть особыми глагольными формами (*В. Бурмако*).

- Перакажыце тэкст па-беларуску.

**Паведамленне на лінгвістычную тэму**

**2.** Прачытайце табліцу. Падрыхтуйце вуснае выказванне на тэму «Дзеепрыметнік як асобая форма дзеяслова», выкарыстаўшы матэрыял табліцы.

| | |
|---|---|
| **Прыметнік**<br>абазначае прымету прадмета<br>*поўнае вядро* | **Дзеяслоў**<br>абазначае дзеянне прадмета<br>*вядро напоўнілі* |

**Дзеепрыметнік**
абазначае прымету прадмета паводле дзеяння
*напоўненае вядро* (вядро (*якое?*) якое напоўнілі)

| | |
|---|---|
| 1) пытанне *які?*<br>2) род;<br>3) лік;<br>4) скланенне;<br>5) дапасуецца да назоўніка;<br>6) у сказе можа быць азначэннем і выказнікам | 1) трыванне (закончанае і незакончанае);<br>2) час (цяперашні і прошлы);<br>3) стан (залежны і незалежны);<br>4) у сказе бывае выказнікам |

**3.** Вызначце трэцяе лішняе слова ў кожным радку. На аснове якіх прымет вы гэта зрабілі?

а) Чорны, пачарнелы, счарнелы;
б) сказанае, адказаць, переказаны;
в) роўненькі, выраўнены, падраўняны;
г) пажаўцелы, зжаўцелы, жаўтлявы.

**4.** Знайдзіце дзеепрыметнікі, ахарактарызуйце іх.

I. Ні ў кога, мабыць, няма такой бабкі, як бабка Адарка ў Алёнкі. Добрая, ласкавая, працавітая. І пачаставаць умее. І не купленым у магазіне, а сваімі рукамі вырашчаным, сабраным, прыгатаваным. А што да садавіны, ягад розных, грыбоў, то... І сушаныя, і смажаныя, і вараныя, і квашаныя... Нідзе ў вёсцы на сотках так не родзіць, як у бабкі Адаркі (*Б. Сачанка*).

II. Асабліва многа страў гатавалі нашы продкі з грыбоў. Грыбы бываюць смажаныя, соленыя, сушаныя. Вельмі смачныя бульбяныя клёцкі, начыненыя грыбамі. Яшчэ больш страў гатавалася з бульбы — варанай, печанай, паранай, смажанай, тоўчанай, крышанай. Багата чаго рабілася са свежых, сушаных і вараных ягад (*Паводле Б. Сачанкі*).

**5.** На аснове якіх прымет можна сцвярджаць, што слова *перапілены* з'яўляецца дзеепрыметнікам?

а) Абазначае прымету прадмета;
б) адказвае на пытанне *які?*
в) мае прыстаўку *пера-*;
г) утворана ад дзеяслова *перапіліць*.

**6.** Назавіце, ад якіх дзеясловаў утвораны наступныя дзеепрыметнікі.

Пасвятлелы, захаваны, абуты, адшуканы, знойдзеныя, закрыты, пакінутае, збялелы, падабраны, закрытая, нечапаныя.

**7.** Прачытайце тэкст. Выпішыце (паставіўшы ў пачатковую форму) прыметнікі ў адзін слупок, дзеепрыметнікі — у другі. Абгрунтуйце свой выбар.

Як цудоўна выглядае зімовы лес! Стаяць, нібы ў шлюбным убранні, беластволыя бярозы; казачныя, у снежных, схіленых набок папа́хах прытаіліся нізкарослыя хвойкі. Зіма раздае ўсім аматарам прыгажосці свае аўтографы.

Міжволі залюбуешся хараством прыцярушанага снегам лесу, іерогліфамі звярыных слядоў, штрыхамі застылых кустоў. У снежнай фігуры раптам убачыш грыб-баравік, натапыраную птушку, працавітага бабра ці касалапае медзведзяня.

## Сэнсава-граматычная і стылістычная роля дзеепрыметнікаў

**Успомнім**

Пачатковая форма дзеепрыметніка — форма назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду: *выдуманы*, *разгледжаны*, *вышыты*.

**8.** Прачытайце тэкст. Назавіце ўжытыя ў тэксце дзеепрыметнікі, вызначце іх пачатковую форму.

**Новая хата**

Залатымі іскрамі ў памяці: сонечны дзень, расчыненыя ў двор вароты і цэлы абоз доўгіх вазоў, нагружаных смалістым бярвеннем. Мы будзем ставіць новую хату! Маці мітусіцца, у яе расчырванелы твар і шчаслівыя вочы. Абед для вознікаў яна прыгатавала проста на двары, яшчэ і цяпер ку́рацца залітыя вадой чорныя галавешкі. Бярвенне са звонам ляцяць з вазоў на дол, і вось ужо вялікая іх куча высіцца сярод зялёнага, зарослага травою двара.

Вознікі паселі кругам каля разасланага на зямлі абруса. Бацька разам з імі. Маці вясёлая, прыветлівая, і я вельмі люблю яе такой.

Так мы пачалі будаваць новую хату (*І. Навуменка*).

**Звярніце ўвагу!**

Усе дзеепрыметнікі ўтвараюцца толькі ад дзеясловаў.

Пры гэтым трыванне дзеепрыметніка і дзеяслова, ад якога яно ўтворана, павінна быць адным і тым жа.

**9.** Утварыце і запішыце формы дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу з дапамогай суфікса *-л-* ад наступных дзеясловаў.

Пачырванець, зжаўцець, пабялець, зразумець, засохнуць, замерзці.

**10.** Утварыце і запішыце формы дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу з дапамогай прыведзеных суфіксаў.

1) -н-: намаляваць, паказаць, стрымаць, звязаць, зламаць, згуляць;

2) -ан-: загарадзіць, запрасіць, упрыгожыць, змалаціць;

3) -ен-: пакласці, устанавіць, выдзеліць, забараніць, прынесці;

4) -т-: вымыць, накрыць, апрануць, раскалоць.

**11.** Спішыце, замяняючы дзеясловы неазначальнай формы дзеепрыметнікамі залежнага стану, абазначце суфіксы і канчаткі дзеепрыметнікаў.

I. *(Увагнуць)* люстра збірае светлавую энергію. Калі ўзяць вялікае люстра, то *(сабраць)* энергіі будзе дастаткова, каб падпаліць дрэва. Як гаворыць легенда, гэтую ўласцівасць *(увагнуць)* люстра выкарысталі ў Старажытнай Грэцыі пры абароне горада Сіракузы. *(Адпаліраваць)* металічныя лісты абаронцы горада размясцілі так, што атрымалася *(увагнуць)* люстра. Накіраваўшы *(адбіць)* промні Сонца на варожыя караблі, абаронцы падпалілі іх і выратавалі Сіракузы («*Сусвет*»).

II. Астрова — роўная і гонкая нятоўстая елка, з адным *(абчасаць)*, *(абгладзіць)* бокам, каб яна, астрова, была лягчэйшая. На другім баку яе *(абсекчы)* сукі, яны тырчаць сантыметраў на дзесяць — пятнаццаць. Астрова — бортнікава лесвіца, лёгкая, зручная... (*Ф. Янкоўскі*).

**12.** Замяніце ў прыведзеных выказваннях выдзеленыя дзеепрыметнікі аднакаранёвымі прыметнікамі. Ці змяніўся пры гэтым сэнс выказванняў?

Толькі пачаўся дзень, а там, дзе ў вайну быў партызанскі лагер, а цяпер — **адноўленыя** дзеля памяці некалькі партызанскіх зямлянак, загрукала сякера (*Ф. Янкоўскі*).

Можа, таму восенню з’яўляецца шчымлівы неспакой, што чалавечаму воку трохі нязвыкла бачыць голае, **апусцелае** раптам поле, якое ўсю вясну і ўсё лета напружана працавала (*Я. Сіпакоў*).

У крыніцу ўжо нападала **пажоўклае** лісце. Густа ўслана імі вада — на цёмным фоне яно глядзіцца вельмі ж хараша (*Я. Сіпакоў*).

**13.** Прачытайце апісанне саду. Знайдзіце ў тэксце дзеепрыметнікі, вызначце іх ролю ў тэксце. Які настрой дапамагаюць яны стварыць? Запішыце дзеепрыметнікі, абазначыўшы ў іх суфіксы, і дзеясловы, ад якіх утвораны дзеепрыметнікі.

**Сад маленства**

Дзесьці там, за далёкімі кіламетрамі, за смугою лясоў, павуціннем дарог, рэк, за сцяною дажджоў, сірацее адкрыты для ўсіх вятроў сад, пасаджаны бацькавымі рукамі.

Нізка сцелюцца над зямлёй пакручаныя, з паламанымі галінамі яблыні; стомленымі, зусім старэчымі вачамі дуплаў глядзяць на кожнага, хто забрыдзе сюды, грушы; хапае за плечы вецтем непрарэджаны, змарнелы вішняк.

І ўсё роўна — кожны год, у светлы, імклівы час, калі сонца аж танцуе ў вышыні, тут нараджаюцца самыя белыя, самыя прыгожыя на свеце аблокі, з якімі непрыкметна адплыло ў далячынь маё дзяцінства (*У. Ягоўдзік*).

## Правілы ўжывання дзеепрыметнікаў і дзеепрыметнікавых зваротаў

### Паслухаем мовазнаўцаў

З усіх дзеепрыметнікавых формаў у беларускай літаратурнай мове найчасцей ужываюцца дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу тыпу *высушаны*, *накормлены*, *абсаджаны*, *узнагароджаны*, *створаны*, *выкарыстаны*, *вымыты*, *вышыты*, *разгорнуты*; прычым, як і ў старажытнай агульнаўсходнеславянскай, у беларускай мове гэтыя дзеепрыметнікавыя формы (*агледжаны*, *абтынкаваны*, *забаранаваны*, *прывучаны*) ужываюцца не з *-нн-*, а з *-н-*.

Адносна часта ўжываюцца ў беларускай літаратурнай мове дзеепрыметнікі незалежнага стану тыпу *памаладзелы*, *загарэлы*, *пасвяжэлы*, *пасталелы*, *амярцвелы*, *ап'янелы*; яны, як сведчаць старажытныя беларускія тэксты, не новыя ў нашай літаратурнай мове.

Што ж да дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу, залежнага стану цяперашняга часу, — такіх, як «выходзячы» (чалавек), «крадучыся» (воўк), «крадучаяся» (рысь), «трымаўшаяся» (за руку дзіця), «прачынаючыся» (хлопчык), «прачынаўшыся» (перад усходам сонца лес), «угнойваемая» (зямля), «ламаемыя» (галінкі), то яны ўжо не раз, даўно і нядаўна, атрымалі кваліфікацыю не ўласцівых беларускай мове дзеепрыметнікавых форм (*Ф. Янкоўскі*).

**Звярніце ўвагу!**

Часцей за ўсё сустракаюцца наступныя памылкі ва ўжыванні дзеепрыметнікаў і дзеепрыметнікавых зваротаў:

1. Выкарыстоўваюцца не ўласцівыя беларускай мове формы дзеепрыметнікаў цяперашняга часу незалежнага і залежнага стану: *квітнеючыя сады*, *зацвітаючыя кветкі*, *разглядаемыя малюнкі*, *кіруемыя павадыром*.

2. Паяснёны зваротам назоўнік аказваецца ўнутры дзеепрыметнікавага звароту: *Асветленае лісце апошнімі промнямі залацілася на сонцы* (Правільна: *Асветленае апошнімі промнямі лісце залацілася на сонцы* або *Лісце, асветленае апошнімі промнямі, залацілася на сонцы*).

**Запомніце!**

У сістэме беларускіх дзеепрыметнікаў адсутнічаюць зваротныя формы.

**Выпраўляем памылкі**

**14.** Прачытайце сказы. Знайдзіце недакладнасці ва ўжыванні дзеепрыметнікавых зваротаў. Выпраўце памылкі і запішыце правільныя сказы.

1. Над зарослай лесасекай густым арэшнікам плыло павуцінне бабінага лета. 2. Перапоўнены ён гонарам важна падаўся да сельсавета. 3. Круглая, зарослая паляна кустамі ўся была ўсыпана густым верасам. 4. Разгуляўшаяся дзіця не звяртала ніякай увагі на просьбы бацькоў супакоіцца. 5. Прымаемы на трэці квартал план мерапрыемстваў не выклікаў пярэчанняў у прысутных. 6. Набліжаючаяся світанне мы сустрэлі на беразе возера.

**15.** Утварыце дзеепрыметнікавыя словазлучэнні з прыведзеных слоў. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

**I. У з о р. Лес, асвятліць, сонца. — Лес, асветлены сонцам.**

**1. Карціна, намаляваць, мастак. 2. Касцы, скасіць, трава. 3. Бераг, атуліць, лаза. 4. Неба, усыпаць, зоркі. 5. Стол, заслаць, абрус. 6. Жыта, засеяць, поле. 7. Медаль, узнагародзіць, герой. 8. Вопыт, назапасіць, пакаленне.**

**II. У з о р. Бераг, лаза. — Бераг, атулены лазою.**

**1. Дарога, ліпы. 2. Ягады, дзяўчынкі. 3. Станок, майстар. 4. Хата, талака. 5. Сад, дождж. 6. Верш, вучань. 7. Сад, школьнікі. 8. Раскопкі, экспедыцыя. 9. Рэчы, умельцы.**

- Вызначце стан утвораных дзеепрыметнікаў. Складзіце сказы з дзеепрыметнікавымі зваротамі.

**16.** Да назоўнікаў падбярыце дзеепрыметнікавыя словазлучэнні, пастаўце неабходныя знакі прыпынку.

**У з о р. Веранда. — Веранда, абвітая дзікім вінаградам.**
**Паселішча.**
**Вянок.**
**Вогнішча.**
**Вырабы.**
**Узнагарода.**

- Складзіце і запішыце сказы з ўтворанымі дзеепрыметнікавымі зваротамі.

### Перакладаем

**17.** Перакладзіце сказы на беларускую мову, падабраўшы назоўнікі-адпаведнікі да рускіх слоў *начинающий*, *верующий*, *будущее*, *выступающий*.

**1. Выступающий ответил на все поступившие в президиум вопросы. 2. Открылась новая церковь для верующих жителей микрорайона. 3. Весь педагогический коллектив школы помогал начинающему учителю. 4. Будущее казалось таким неясным и неопределенным.**

**прэзідыум**
**выступоўца**
**пачатковец**
**будучыня**
**вернік**

# Роля дзеепрыметнікаў пры апісанні асоб, прадметаў, з’яў

**Паслухаем мовазнаўцаў**

Па сваіх выяўленчых асаблівасцях дзеепрыметнікі вельмі блізкія да прыметнікаў і ўжываюцца ў розных стылях мовы для характарыстыкі асоб, прадметаў, з’яў. Таму дзеепрыметнікі і дзеепрыметнікавыя словазлучэнні часта спалучаюцца з прыметнікамі ў якасці аднародных членаў з мэтаю больш поўнага і яркага апісання (*Паводле М. Цікоцкага*).

**18.** Прачытайце тэкст. Дакажыце справядлівасць прыведзенага вышэй выказвання.

Над лесасекай, зарослай густымі кустамі арэшніку, плыло павуцінне. Плыло ў бок маладога, абпаленага дзівосным агнём асінніку. Але павуцінне, як бы баючыся згарэць на гэтых агністых лістах, не чаплялася за асіны, а, даляцеўшы туды, раптам узнімалася вышэй іх і ляцела ў ясны блакіт асенняга неба, раставала ў блакітнай сіняве. Сонца нядаўна схілілася з поўдня, але хавалася ўжо за лесам, і на дзялянку падалі доўгія, пераплеценыя па некалькі разоў цені.

Па лясной сцежцы, засланай залатым дыванам лісця, ішлі тры чалавекі. Каля лесасекі самы старэйшы з іх, суровы з выгляду, згорблены, з худым маршчыністым тварам і сівымі вусамі, звярнуў са сцежкі і закрочыў паміж кустамі арэшніку. Мінуўшы лесасеку, ён прайшоў малады асіннік, потым спусціўся ў пойму невялікай рачулкі. Тут раслі вольхі, гонкія, высокія, але кожная са скрыўленым камлём, бо раслі яны на высокіх купінах. Стары, які ведаў і шанаваў кожнае дрэва ў абходзе, не надта любіў гэтыя балотныя вольхі. Вось і зараз, калі ўвесь лес гарыць золатам, у якое яго ўбрала восень, алешнік гэты як бы не прызнае яе законаў і паводзіць сябе дзіўна: угары дзе-нідзе яшчэ зялёны, а ўнізе трава засыпана лісцем, пачарнелым, скручаным, як гарэлая бляха (*Паводле І. Шамякіна*).

- Параўнайце, як падаецца ў тэксце апісанне прыроднай з’явы, прадмета і чалавека. Назавіце азначэнні, прыметнікі і дзеепрыметнікі, якія дапамагаюць ствараць пэўныя вобразы.

**19.** Прачытайце апісанне Фішара ў аповесці «Жураўліны крык» Васіля Быкава. Пакажыце, што апісваецца ва ўрыўку: знешнасць героя ці рысы яго характару. Паназірайце, як падаецца апісанне. Ці ёсць у ім сказы са значэннем ацэнкі?

Яны яшчэ прайшлі далей, Фішар ужо трымаўся побач, і старшына Карпенка разы два зірнуў на яго. Худы, з запалымі грудзьмі, у кароткім, падпяразаным пад хлясцік шынялі, з забінтаванай шыяй і зашчаціненым тварам, баец меў вельмі ніякаваты выгляд. Адны толькі чорныя вочы пад тоўстымі шкельцамі акуляраў цяпер неяк ажылі і свяціліся адбіткам далёкай стрыманай думкі. Старшына падзівіўся тайком з таго, што вось за гэткім несамавітым выглядам хаваецца адукаваны і, здаецца, не благі чалавек. Праўда, Карпенка быў упэўнены, што ў ваеннай справе Фішар не многа варты, але ў глыбіні старшыновай душы нешта ўжо расслабла і падабрэла да гэтага байца.

- Назавіце дзеепрыметнікі, растлумачце іх утварэнне і правапіс.

**Успомнім**

Мастацкае апісанне знешнасці чалавека можа ўключаць і яго ацэнку.

**Творчая лабараторыя**

**20.** Дапоўніце выдзеленыя словы азначэннямі (дзеепрыметнікамі і дзеепрыметнікавымі зваротамі). Параўнайце два варыянты тэксту. Які з іх больш выразны і дакладны?

**Жыццё ў лесе**

У цішы жнівеньскага дня дрэмле палескі лес. Паветра насычана мядовым пахам ліпы і хваёвай **смалы**. Утульна і суцішна ў лесе ў гарачы летні дзень, быццам і жыцця ў ім няма.

Але лес толькі знешне выглядае ціхім і маўклівым. Калі ўважліва прыгледзецца і прыслухацца да гукаў, то заўважыш, што ён жыве сваім асаблівым жыццём. **Птушкі** ўжо адспявалі вясновыя песні. Цяжка ўзнімаецца над дрэвамі **цецярук**. Перад вачыма прамільгне лясны голуб, дзесьці праспявае чорная жаўна, ёй адгукнецца дрозд, дробна застукае аб сухое дрэва дзяцел, закрычыць і зашамаціць у лісці **сава**.

Багатае птушынае царства ў лесе, але не менш і жывёльнае. У густым алешніку на кустах шматкамі павісла поўсць ласяя. Гэта **ён** праімчаўся праз зараснікі з лёгкасцю ветру. Між дрэвамі на **глебе** відаць сляды дзікоў, што жыравалі пад дубамі. Зараз яны недзе спачываюць у густых **зарасніках**.

Не спыняецца, віруе жыццё ў лесе.

**21.** Перакладзіце тэкст на беларускую мову. Прааналізуйце спосабы перадачы на беларускую мову дзеепрыметнікаў.

### Коралловый остров

Над бескрайней океанской гладью едва выступает низкая полоска суши, похожая на кольцо, разорванное в нескольких местах. Это один из бесчисленных коралловых островов. Высокие стволы пальм поднимаются над берегом, ветер шевелит их листья. Меж деревьев кое-где густо разрослись кустарники, усыпанные цветами. В центре острова-кольца расположен внутренний водоём-лагуна.

И остров, и лагуна созданы маленькими существами — коралловыми полипами, обитающими на небольшой глубине в тропических морях.

Коралловые поселения — их часто называют подводными садами — поражают богатством красок. Все цвета радуги — от красного до фиолетового — собраны в этих садах. Некоторые кораллы тянутся правильными параллельными трубками или образуют плоские навесы и карнизы, другие напоминают окаменевшие грибы, огромные шары, покрытые сетью извилин (*По Е. Могилянской*).

### Слоўнік

*Бескрайний* — ***бяскрайні***; ***бязмежны, неабсяжны***;
*гладь* — ***роўнядзь***;
*коралловый полип* — ***каралавы паліп***;
*известь* — ***вапна***;
*щупальца* — ***шчупальцы***;
*поражать* — ***уражваць***; ***здзіўляць***; ***дзівіць***;
*обитающие* — ***якія жывуць***;
*извлекать* — ***здабываць***; ***атрымліваць***.

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што называецца дзеепрыметнікам?
2. Якія граматычныя прыметы дзеяслова і прыметніка мае дзеепрыметнік?
3. Што такое дзеепрыметнікавы зварот? Як ён выдзяляецца ў вусным маўленні і на пісьме?
4. Што маюць агульнага і чым адрозніваюцца поўныя і кароткія дзеепрыметнікі?
5. Раскажыце пра ўтварэнне і ўжыванне дзеепрыметнікаў незалежнага і залежнага стану ў беларускай мове.
6. Якія дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвараюцца з дапамогай суфікса *-н-*, а якія — з дапамогай *-ан-* і *-ен-*. Прывядзіце прыклады.
7. Як пішацца *не* з дзеепрыметнікамі?
8. Раскажыце пра стылістычную ролю дзеепрыметнікаў.

## Спецыфіка дзеепрыслоўя як дзеяслоўнай формы

### Паведамленне на лінгвістычную тэму

**22.** Прачытайце табліцу. Падрыхтуйце вуснае выказванне, выкарыстаўшы матэрыял табліцы.

| **Дзеяслоў**<br>абазначае дзеянне прадмета | **Прыслоўе**<br>абазначае прымету дзеяння, прымету іншай прыметы або прымету прадмета |
|---|---|

| **Дзеепрыслоўе**<br>абазначае дадатковае дзеянне і паясняе дзеяслоў-выказнік |
|---|

| | |
|---|---|
| 1) мае закончанае ці незакончанае трыванне;<br>2) можа быць зваротным ці незваротным;<br>3) захоўвае кіраванне залежнымі словамі;<br>4) мае агульнае лексічнае значэнне з дзеясловамі | 1) не змяняецца (не спрагаецца і не скланяецца);<br>2) з'яўляецца ў сказе акалічнасцю |

**23.** Дайце характарыстыку выдзеленым словам (І. Агульнае значэнне. ІІ. Марфалагічныя прыметы. ІІІ. Сінтаксічная роля).

Бярэзнік над Кур'янаўскімі Садамі доўга не хацеў **жаўцець; пажаўцеўшы**, доўга стаяў **жоўты** і гарэў на сонцы такім агнём, што дух займала — ідзеш і заміраеш (*І. Пташнікаў*).

**24.** Прачытайце тэкст. Выпішыце дзеясловы ў адзін слупок, дзеепрыслоўі — у другі, дзеепрыметнікі — у трэці.

У нядзельку раненька, на ўсходзе сонца, настаўнік са сваімі вучнямі, правёўшы ноч на станцыі, садзіўся ў вагон. Прабілі тры званкі, гучна і адрывіста азваўся паравоз, абуджаючы спакой бясконцых балот, і поезд зрушыў з месца. З шумным шыпеннем выпускаючы пару, усё хутчэй і хутчэй бег паравоз, і ў нейкую своеасаблівую музыку злівалася тухканне цяжкіх ног поезда.

Лабановіч стаяў каля расчыненага акна. Рассыпаючы сноп залатых стрэл, велічна выплывала сонца над прасторамі зялёнага палескага мора.

Лабановіч стаяў і не адводзіў вачэй ад самавітых, простых малюнкаў Палесся, поўных нявыказанага хараства і жыцця... (*Паводле Я. Коласа*).

**25.** Падбярыце з матэрыялу для даведак неабходныя дзеепрыслоўныя звароты. Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і ставячы неабходныя знакі прыпынку.

Дождж пачынаў сціхаць, затое ўзняўся моцны вецер. Калі яны ... выйшлі на адхон, то ўбачылі даволі жудаснае відовішча.

Рака шалела. Парывы ветру ра..калыхалі в..лікія, у рост чалавека, хвалі. Яны кац..ліся супраць плыні ... . Рака таўклася ў берагі ... . Пра.. пляму св..тла на вадзе слізганула яблыня, вымытая з карэ..ем. Дзіўна было бачыць на яе галінках, якія круціліся ... два ці тры з..л..настыя яблыкі (*У. Караткевіч*).

Для даведак: *хочучы вырвацца з іх*; *то знікаючы пад вадой*, *то зноў выплываючы*; *шоргаючы белымі грабянцамі*; *ледзьве перамагаючы яго парывы*.

- Знайдзіце дзеепрыметнікавы зварот і падкрэсліце яго як член сказа. Выдзеліце назоўнік, які паясняецца гэтым зваротам.

**26.** Прачытайце тэкст, ахарактарызуйце яго тып (апавяданне, апісанне ці разважанне, апавяданне з элементамі разважання ці апісання і г. д.). Зачытайце сказы з дзеепрыслоўямі і дзеепрыслоўнымі зваротамі. Пакажыце сэнсавую сувязь дзеепрыслоўя з асобай, што выконвае дзеянне, і дзеясловам-выказнікам.

**Страшнае спатканне**

Неяк папрасіла мяне маці аднесці полудзень дзядзьку на Высокі Бераг.

Я жыва сабраўся, дастаў з пячуры сваю дубінку, бо ў лесе мог налаўчыцца воўк, а, седзячы ў хаце, я ўжо колькі разоў лупцаваў у сваіх думках гэтаю дубінаю ваўка, узяў дзядзькаў полудзень і выйшаў з хаты.

Чым далей падаваўся я ў лес, тым усё болей глушэла. Мне стала маркотна і сцішна. А гэта дубіна, з якою я быў героем на печы, здалася мне проста смяхотнаю.

Мне страшна, але я іду. І толькі наблізіўся я да таго месца, дзе пачыналася дарога на Млянішча, як адразу спыніўся, аслупянеўшы. Валасы на галаве сталі падымацца і расці, шапка насунулася на вочы, а ногі страцілі здольнасць руху. Скура на мне шорхнула, сэрца замлела, і нейкая гарачая хваля, пракаціўшыся па ўсім маім нутры, запаланіла раптам усё цела. Сярод старых бярэзін, нагнутых тоўстымі камлямі над зямлёю і аброслых сівым мохам, стаяў звер!

Звер гэты быў незвычайнай велічыні. Асабліва вялікай была яго галава і наогул увесь перад. Звер стаяў на адным месцы, загарадзіўшы мне дарогу.

Міжволі я пачаў памаленечку адступаць назад, не спускаючы вачэй з яго. Звер нічога — стаіць! Я ступіў назад — яшчэ, яшчэ. Адышоўшыся крокаў дваццаць такім парадкам, я нарэшце павярнуўся і як засмаліў, і як налёг. Азірнуўся толькі тады, калі з лесу пачала выплываць наша хата.

Тыдні праз два давялося мне зноў ісці па гэтай дарозе. Але цяпер я быў не адзін, а са сваім бацькам... (*Паводле Я. Коласа*).

- Як вы думаеце, што так напалохала хлопчыка? Працягніце апавяданне, па магчымасці ўжыўшы дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты.

## Паведамленне на лінгвістычную тэму

**27.** Выкарыстайце прыведзены ніжэй матэрыял для вуснага паведамлення пра ўтварэнне і ўжыванне дзеепрыслоўяў незакончанага і законченага трывання ў беларускай мове.

| *Што рабіць? — Што робячы?* | *Што зрабіць? — Што зрабіўшы?* |
|---|---|
| пісаць — пішучы | напісаць — напісаўшы |
| думаць — думаючы | падумаць — падумаўшы |
| бачыць — бачачы | убачыць — убачыўшы |
| несці — носячы | прынесці — прынёсшы |

- Калі ўжываюцца суфіксы *-учы*, *-ючы*, а калі — *-ачы*, *-ячы*?
- Калі ўжываецца суфікс *-ўшы*, а калі *-шы*?

## Успомнім

**Ад дзеясловаў незаконачанага трывання ўтвараюцца дзеепрыслоўі незаконачанага трывання, а ад дзеясловаў законачанага трывання — дзеепрыслоўі законачанага трывання.**

**28.** Утварыце ад дзеясловаў, што ў дужках, дзеепрыслоўі патрэбнага трывання.

1. Тугія струменьчыкі адзін за адным выбіваліся з нетраў зямлі, кіпелі маленькімі фантанчыкамі, (варушыць) пясчынкі і жвір (*Я. Сіпакоў*). 2. (Прабіцца) з зямлі, (адчуць) волю, вада супакойвалася, ды не спыняла свайго разгону: некалькі метраў бегла вузкім раўчуком і ўлівалася ў безыменную рэчку (*Я. Сіпакоў*). 3. З неба, аж з-пад самых хмар, па́далі на зямлю нечыя крыкі, ні то (заклікаць) чалавека паляцець за сабою, ні то (прасіць) у яго дапамогі (*І. Шамякін*). 4. Птушкі то (гойдацца), пырхаюць з дрэва на дрэва, то вылятаюць у поле, (падняцца) у неба, сваім танюткім і нескончоным звонам заліваюцца жаўранкі (*Я. Скрыган*). 5. Як бы (чакаць) падтрымкі, жанчына нейкі час стаяла нерухома, (азірацца) па баках (*І. Мележ*).

**29.** Замяніце патрэбны дзеяслоў (з тых, што ў дужках) дзеепрыслоўем. Вызначце, якое дзеянне абазначае дзеепрыслоўе: якое адбывалася (адбываецца) адначасова з асноўным дзеяннем, адбылося раней за яго ці пасля яго.
Запішыце, паставіўшы неабходныя знакі прыпынку.

(*Выехаць, выязджаць*) у дазор, Алік Свірскі доўга назіраў за мястэчкам Радашковічы, дзе быў нямецкі гарнізон. А неўзабаве на сваім худаватым і не вельмі зграбным коніку юны разведчык паехаў у той бок. Каля камендатуры стаялі прывязаныя да слупоў два стройныя рысакі-скакуны. (*Прывязваць, прывязаць*) свайго нерысака і нескакуна да слупка разведчык выбраў найпрыгажэйшага з двух і ціхаю ступою выехаў з гарнізона. Пасля расказваў пра свой рэйд (*дэманстраваць, прадэманстраваць*) рахманасць і хуткі бег скакуна (*Паводле Ф. Янкоўскага*).

- Растлумачце значэнне выразу *ціхаю ступою*.
- Знайдзіце дзеепрыметнікавы зварот і падкрэсліце яго як член сказа. Выдзеліце слова, якое паясняецца гэтым зваротам.

## Сэнсава-граматычная і стылістычная роля дзеепрыслоўяў у сказах, тэкстах

**30.** Прачытайце і параўнайце сказы. Прааналізуйце іх сэнс і граматычнае значэнне.

1. За машынамі шчыльнымі радамі ідуць салдаты, схіліўшы долу сцягі (*П. Місько*). — За машынамі шчыльнымі радамі ідуць салдаты са схіленымі долу сцягамі. 2. Сцёпка падняў кепачку і, паглядзеўшы на людзей, зноў апусціў яе на твар (*Я. Брыль*). — Сцёпка падняў кепачку, паглядзеў на людзей і зноў апусціў яе на твар. 3. Кантралёр доўга глядзеў на білет і аддаў назад, нічога не сказаўшы (*Я. Скрыган*). — Кантралёр доўга глядзеў на білет і аддаў назад моўчкі. 4. — Якаў, пакінь прыкідвацца, — нарэшце кажу я рэзка, хочучы спыніць гаворку (*Я. Скрыган*). — ... кажу я рэзка, каб спыніць гаворку.

**31.** Замяніце выдзеленыя дзеепрыслоўныя звароты і дзеепрыслоўі іншымі моўнымі сродкамі. Запішыце сказы парамі. Растлумачце, чым яны адрозніваюцца сэнсава і граматычна.

1. Потым ён доўга ляжаў, **заплюшчыўшы вочы** (*А. Кудравец*). 2. Цяпер, **вярнуўшыся з Масквы,** яна пачала ўспа-

мінаць і іншыя рэчы (*Я. Скрыган*). 3. І Алена, **жывучы праз сенцы,** не ходзіць на бацькаву палавіну (*А. Васілевіч*).

**32.** Прачытайце тэкст, ахарактарызуйце сэнсава-стылістычную ролю ў ім дзеепрыслоўяў. Для гэтага паспрабуйце яшчэ раз прачытаць тэкст, замяняючы дзеепрыслоўі адпаведнымі дзеясловамі, параўнайце два варыянты тэксту.

**У зімовым лесе**

Многа радасці можна зазнаць у зімовым лесе. Асабліва прыгожай бывае палеская пушча ў ціхія марозныя дні, калі нерухома стаіць па-святочнаму ўбраны лес. На кожнай галінцы дыяментамі іскрыцца, пераліваючыся, асветлены сонцам снег. Варта, затаіўшыся, пастаяць адну хвіліну, каб адчуць, якім поўным жыццём жыве палеская пушча. Ціха вакол, не зварухнецца, трымаючы на сабе багатыя дары зімы, ніводная галінка на дрэве. І раптам, сыпануўшы снежным пылам, пераскочыла з дрэва на дрэва вавёрка-непаседа. А вось недзе нябачны ў голлі забубніў дзяцел. Лапатнуў крыламі, сарваўшыся з галіны, цецярук. Дзве казулі выскачылі на палянку, спыніліся, пастаялі нейкі момант: раптам скокнулі, нібы адчуўшы небяспеку, панесліся на сваіх доўгіх нагах, пакінуўшы за сабою толькі воблачка снежнага пылу. І калі воблачка гэтае знікае, нават няма ўпэўненасці, што толькі імгненне назад тут стаялі дзве казулі. Мо гэта толькі здалося… (*Паводле У. Краўчанкі*).

**33.** Спішыце, замяняючы выдзеленыя дзеясловы дзеепрыслоўямі незакончанага трывання. Параўнайце варыянты тэксту. Якія з іх больш выразны? Чаму?

Чым далей адыходзілі настаўнікі ад Панямоння, тым з большай сілаю паддаваліся яны чарам дарогі і яе малюнкаў. Адзін край лугу ўразаўся ў лес, **ахопліваў** луќу і **павялічваў** свае травяністыя прасторы. Срэбнаю стужкаю вывіваўся Нёман, то **падыходзіў** пад самы лес, то **падразаў** карэнне дрэвам, то **бег** сярэдзінаю лугу, то **падступаў** да поля, **апярэз**ваў бліскучым жывым па́скам яго пясчаныя схілы… І малады хвойнік за Нёманам, і лес зліваліся ў адну суцэльную сцяну, **вырысоўвалі** прыгожую вычварную лінію паваротаў, раз-

гортвалі сваё цёмна-зялёнае крыло і ахоплівалі пясчанае поле, дзе раскінуліся маўклівыя пагоркі.

А над усім гэтым ляжала цішыня і спакой раніцы...

**34.** Прачытайце. Выберыце з тэксту і зачытайце сказы з дзеепрыслоўнымі зваротамі. Вызначце трыванне дзеепрыслоўяў, назавіце суфіксы.

**Дзіўная птушка**

Чомга — птушка своеасаблівая не толькі з выгляду. Сваімі дзіўнымі звычкамі яна адрозніваецца ад усіх іншых птушак.

Расказваюць, што малыя дзеці чомгі сядзяць на спіне ў маткі, калі тая плавае на вадзе. У выпадку небяспекі чомга нырае ў ваду разам з імі. Кажуць таксама, што разам з малымі на спіне чомга ўзлятае, калі трэба, у паветра. Такім чынам яна пераносіць птушанят з месца на месца не толькі водным, але і паветраным шляхам.

Ногі ў чомгі настолькі адсунуты назад, што яна амаль не ходзіць і на зямлі можа стаяць, толькі абапіраючыся на кароткі хвост. Каб рухацца па зямлі, чомга павінна паўзці, прыпадаючы грудзьмі і абапіраючыся на крылы. Узняцца з зямлі ў паветра чомга не можа. Яна ўзлятае толькі з вады. Спачатку шпарка плыве, лопаючы крыламі і высунуўшыся напалову з вады, і толькі потым, узяўшы разгон, адрываецца ад вадзяной паверхні.

Затое плавае і нырае чомга надзвычай добра, шпарка і спрытна. Яна можа плысці пад вадою сотні метраў, змяняючы напрамак.

Будовай цела чомга цалкам прыстасавана да жыцця ў вадзе. Нырае яна не галавой наперад, як качкі, а ўсім корпусам, нібы правальваючыся на месцы.

З выраю чомгі вяртаюцца ў красавіку і жывуць на радзіме да лістапада. Восенню, перад адлётам, збіраюцца ў чароды (*Паводле В. Вольскага*).

- Раскажыце пра звычаі птушкі, выкарыстоўваючы дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты.

**35.** Выпішыце спачатку сказы з дзеепрыметнікавымі, а потым — з дзеепрыслоўнымі зваротамі. Растлумачце, як вы іх адрозніваеце. Абазначце межы зваротаў, падкрэсліце іх як члены сказа, пастаў-

це неабходныя знакі прыпынку. Зверху над дзеепрыслоўямі напішыце іх трыванне.

Брыгадзір спыніўся і доўга слухаў перазвон жаўрукоў. Уволю наслухаўшыся ён нарэшце заспяшаўся па дарозе, як раптам адчуў нейкі неспакой.

Азірнуўся і глянуўшы на зарэчанскі лясок раптам зразумеў, што не чуе гудзення трактара, які павінен быў араць за ляском поле.

Хаваючыся за густымі елкамі брыгадзір выйшаў на ўскраек лесу і ўбачыў трактарыста. Той стаяў па калена ў яме і заўзята капаў зямлю.

На ўскраі неўзаранага ўчастка брыгадзір убачыў нахіленую бярозу. Яна неяк дзіўна расла заваліўшыся набок, бо палавіну яе карэння нейкі трактарыст выцягнуў плугамі і кінуў так.

— А... Ну, дык давай удвух.

Праз колькі часу бярэзінка добра абкапаная з усіх бакоў стаяла сярод паляны (*Паводле К. Каліны*).

**Працуем самастойна**

**36.** Дакажыце, што выкарыстанне дзеепрыслоўяў робіць выказванне больш дакладным, дынамічным і выразным. Прывядзіце адпаведныя прыклады.

**37.** Спішыце, выбіраючы з дужак адпаведны дзеяслоў ці дзеепрыслоўе, якое найлепш падыходзіць па сэнсе. Пастаўце неабходныя знакі прыпынку. Абгрунтуйце выбар дзеяслова ці дзеепрыслоўя.

З **прыбярэжнага** вербняку спускаецца да вады вывадак качак. **Качаняты** (выцягнуліся, выцягнуўшыся) доўгім ланцужком, гучна (папіскваюць, папіскваючы) і (імкнуцца, імкнучыся) не адставаць адзін ад аднаго (бягуць, бегучы) за маці. Яна заклапочана (азіраецца, азіраючыся) навокал (спяшаецца, спяшаючыся) хутчэй давесці качанят да выратавальнай вады. Там многа корму і густыя зараснікі, дзе можна (схавацца, схаваўшыся) і **перачакаць** небяспеку (*Паводле А. Курскова*).

- Вызначце спосаб утварэння выдзеленых слоў.

## Правілы ўжывання дзеепрыслоўяў у маўленні

### Лінгвістычны каментарый

Дзеепрыслоўе абазначае д а д а т к о в а е дзеянне, з чаго можна зрабіць наступныя вывады:

1. **Калі ў сказе ёсць дзеепрыслоўе, то трэба каб быў і дзеяслоў-выказнік**, які абазначае а с н о ў н а е дзеянне. Так, ва ўрыўку *Маці не думала, што ўсё так атрымаецца. Ідучы раніцай да брыгадзіравай хаты* другая частка не з'яўляецца сказам, бо ў ім няма граматычнай асновы: дзеепрыслоўе выказнікам не можа быць.

2. **Дзеепрыслоўе абазначае дзеянне той самай асобы ці прадмета, што і выказнік**. Напрыклад, у сказе *Брыгадзір слухаў жанчыну, думаючы пра нешта сваё, аднак сказаў не хваляваца лішне і ісці дадому* брыгадзір слухаў жанчыну, ён жа думаў пра нешта сваё і ён жа сказаў ёй не хвалявацца і ісці. Але калі сказаць, напрыклад, так: *Слухаючы жанчыну, думкі брыгадзіра былі заняты нечым сваім*, то выходзіць, што слухалі жанчыну думкі і яны былі заняты нечым сваім.

3. **Дадатковае дзеянне, выражанае дзеепрыслоўем, сэнсава і граматычна звязваецца з асноўным дзеяннем, выражаным дзеясловам-выказнікам**. Так, нельга сказаць *Слухаючы новую перадачу, я выключыў радыёпрыёмнік*, бо парушана часавая паслядоўнасць дзеянняў (*выключыў, паслухаўшы перадачу*, або *слухаючы перадачу, я ўключыў гук мацней*).

### Шукаем памылку!

**38.** Дакажыце, што дзеепрыслоўныя звароты ўжыты няправільна.

1. Прыйшоўшы ў лес, сонца ўжо ўзышло высока. 2. Праходжваючыся па калідоры, наша размова не перапынялася ні на хвіліну. 3. Вылятаючы з горада, тэмпература была ніжэй за нуль градусаў. 4. Заканчваючы школу, перад выпускнікамі адкрываюцца новыя дарогі. 5. Выпускнікі павінны задумвацца над сваёй будучыняй яшчэ ў школе. Выбіраючы прафесію ў адпаведнасці з уласнымі жаданнямі і магчымасцямі. 6. Паліваючы кветкі, дзеці закончылі працу ў агародзе.

**39.** Паспрабуйце рознымі спосабамі перабудаваць сказы, у якіх дзеепрыслоўныя звароты ўжыты няправільна.

**1. Знаходзячыся ў няволі, сумныя думы агортвалі пісьменніка. 2. Прайшоўшы каля стадыёна, мы зайшлі паглядзець, як трэніруецца наша школьная каманда. 3. Праязджаючы міма станцыі, у мяне зляцеў з галавы капялюш. 4. Гледзячы на тое, як расце і пашыраецца горад, сэрца поўнілася радасцю.**

**У з о р: Чытаючы гэты твор, у мяне ўзнікалі думкі пра будучае галоўных герояў. — 1. Калі я чытаў гэты твор, я думаў пра будучае галоўных герояў. 2. Чытаючы гэты твор, я задумваўся над будучым галоўных герояў. 3. Я чытаў гэты твор і думаў пра будучае галоўных герояў. 4. Я, чытаючы гэты твор, задумваўся над будучым галоўных герояў. 5. Пры чытанні гэтага твора ў мяне ўзнікалі думкі пра будучае галоўных герояў.**

- Якія з варыянтаў, на вашу думку, з'яўляюцца больш удалымі, а якія — менш?
- Ці магчымы іншыя варыянты перабудовы сказаў?

## Прыдумваем памылку!

**40.** Складзіце такія сказы, у якіх з-за няправільна ўжытага дзеепрыслоўнага звароту ўзнікае камічная сітуацыя.

## Творчая лабараторыя

**41.** Адзін з герояў Чарльза Дзікенса вызначаўся своеасаблівым гумарам. Вось адно з яго выказванняў: «Спачатку справа, а потым задавальненні!» — сказаў Рычард III, забіўшы дзядзьку і прымаючыся за пляменнікаў. У перакладзе гумар перадаецца так: дадатковае дзеянне, выражанае дзеепрыслоўем, аказваецца важнейшым за асноўнае, што і надае ўсяму выказванню нечаканы паварот. Паспрабуйце зрабіць нешта падобнае. Дзеяслоў *казаць* замяніце сінонімамі.

**1. «Маладым усюды ў нас дарога!» — (сказаў) Воўк, ... 2. «Люблю козліка!» — (сказала) бабуля, ... 3. «Будзе хлеб, будзе і песня!» — (сказаў) артыст, ... 4. «Возьмем языка!» — (сказалі) разведчыкі, ... (*Т. Служэўская*).**

### Кантрольныя пытанні

1. Што называецца дзеепрыслоўем?

2. Якія агульныя граматычныя прыметы маюць дзеепрыслоўі і дзеясловы, дзеепрыслоўі і прыслоўі?

3. Як пішацца *не* з дзеепрыслоўямі?

4. Як утвараюцца дзеепрыслоўі незакончанага і закончанага трывання?

5. Што называецца дзеепрыслоўным зваротам?

6. Якімі членамі сказа з'яўляюцца дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты?

7. Як выдзяляюцца дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя звароты ў вусным маўленні і на пісьме?

8. Што маюць агульнага і чым адрозніваюцца дзеепрыметнік і дзеепрыслоўе, дзеепрыметнікавы і дзеепрыслоўны звароты?

**Правяраем сябе!**

**1.** Выпішыце з кожнага рада дзеяслоўных формаў дзеепрыслоўі:

а) ісці, ішоўшы, прыйдзе, ідучы;

б) падымаць, падняты, падымаючы, падыму;

в) супакоіўшыся, супакойся, супакоіцца, супакоены, супакойваўся;

г) праполаты, праполваю, прапалолі, праполваючы, прапалоўшы.

**2.** Выпішыце дзеясловы, ад якіх утвараюцца прыведзеныя дзеепрыслоўі і дзеепрыметнікі:

а) апрануўшыся — апрануць, апрануцца, апранацца, апранаць;

б) размываючы — размыць, размываць, размывацца;

в) прыпадняты — прыпадняць, падняць, прыпадняцца;

г) задумаўшыся — задумацца, задумаць, задумвацца.

**3.** Запішыце выразы, у якіх *не* з дзеепрыметнікамі і дзеепрыслоўямі патрэбна пісаць асобна:

а) вельмі (не) выхаваны чалавек;

б) квітанцыя (не) аплачана;

в) (не) засеянае поле;
г) (не) пакоячыся за сяброў;
д) (не) затаптаныя нікім сляды.

**4.** Выпішыце дзеепрыметнікі, ад якіх можна ўтварыць кароткую форму:

а) напісанае сачыненне;
б) аголенае дрэва;
в) пасохлае лісце;
г) выкінутыя рэчы;
д) ссівелыя валасы.

**5.** Выпішыце сказы, у якіх дзеепрыметнікавыя і дзеепрыслоўныя звароты трэба выдзеліць коскамі.

1. Адразу набрынялі буйныя пупышкі старой вярбы, што расла над абрывам схіліўшыся да самай вады (*І. Шамякін*).

2. А глянеш з другога берага — найпершую ўвагу прыцягвае стромкі бярэзнік перамешаны з елкамі і соснамі (*А. Марціновіч*).

3. Зарослая густою травою і blішчастай асакою сцяжынка мякка калыхалася пад нагамі (*В. Крукоўскі*).

4. Маці ўжо гады тры таму назад перабралася з вёскі, але па-ранейшаму не можа сядзець склаўшы рукі (*У. Арлоў*).

5. А праз дарогу пакалыхваючыся цвітуць рамонкі (*Ф. Янкоўскі*).

**6.** У якіх сказах дзеепрыметнік выконвае сінтаксічную ролю выказніка?

1. Днём яшчэ было цёпла, а пад вечар, калі чырвонае сонца сцякала за лес, апусцелая, няласкавая зямля стыла на холадзе (*І. Мележ*).

2. З глыбіні лесу пачуўся шоргат нечых ног па снезе і прыглушаны лускат сухіх галінак пад нагамі (*Я. Колас*).

3. Ты можаш адкласці работу да раніцы, бо ўсё адно ўнутрана падрыхтаваны да яе, а можаш сесці і зараз (*У. Караткевіч*).

4. Лёс паэта цесна звязаны з лёсам беларускага народа, ад якога Панчанка быў неадлучаны на працягу ўсяго свайго жыцця (*М. Стральцоў*).

5. Ад адзінокай хвоі, ад гэтай пахіленай у бок лесу верхавіны павеяла нейкім смуткам... (*Я. Колас*).

**7.** Запішыце дзеясловы, ад якіх можна ўтварыць дзеепрыслоўі закончанага трывання:

а) ісці;
б) зняць;
в) думаць;
г) стрымацца;
д) узяць.

**8.** Выпішыце сказы, у якіх дзеепрыметнікавыя і дзеепрыслоўныя звароты выдзелены коскамі правільна.

1. Не даходзячы да лесу, трэба павярнуць па шляху направа, мінуць невялікі бор, а там і Ліпнякі (*І. Шамякін*).
2. Археалагічныя раскопкі, праведзеныя ў розныя часы ў Тураве, далі надзвычай багаты матэрыял для даследчыкаў гісторыі і культуры (*В. Якавенка*).
3. Маці ўвесь дзень працавала, не пакладаючы рук.
4. Ложак быў зусім блізка ад прыпечку, і я адпіхнуўшыся нагою, лёгка пераскокваў туды (*У. Аляхновіч*).
5. А старыя дубы ў чорных шапках бусліных гнёздаў спакойна стаялі не варушачы ніводным лістом і купалі ў сонцы свае адвечныя шаты (*Я. Колас*).

**9.** Запішыце сказы, у якіх з двух простых сказаў можна скласці адзін, утварыўшы ад аднаго з дзеясловаў дзеепрыслоўе.

1. Загадчык бальніцы накіраваўся дадому. Ён спяшаўся пасля начнога дзяжурства.
2. Лабановіч звярнуў з дарогі ўправа. Яго сэрца поўнілася радасцю.
3. Сонца ўжо памалу хілілася на захад. У паветры было ціха.
4. Іван кінуўся ўбок, да маладой ялінкі. Прыгнуўся, выглянуў між галін.
5. Сёння ўжо кожны скажа, што прыйшла сапраўдная восень. Нават не паглядзіць на наваколле.

**10.** Знайдзіце сказы, у якіх дапушчаны памылкі ва ўжыванні дзеепрыслоўяў. Запішыце гэтыя сказы правільна.

1. Атрымаўшы добрую вестку з рэдакцыі, мой настрой адразу палепшыўся.

2. Пралятаючы над лесам, мы заўважылі ўнізе сігнальныя агні, якія сведчылі, што нас чакаюць.

3. Праходзячы каля стадыёна, унутры было яшчэ цёмна.

4. Прачытаўшы кнігу да канца, я доўга не мог пазбавіцца ад неадчэпнай думкі.

5. Прапалваючы агарод, маці выйшла насустрач сыну.

# ПРЫСЛОЎЕ

## Прыслоўе як самастойная часціна мовы

Граматычны тэрмін ***прыслоўе*** запазычаны з заходнеславянскіх моў, у якіх, у сваю чаргу, ён калькуе лацінскую назву *adverbum* (*ad* — пры, *verbum* — дзеяслоў, слова). Параўнаем: *прислівник* — украінская мова, *наречие* — руская, *przyslowie* — польская, *psislowo* — ніжнелужыцкая, *przyslowek* — верхне-лужыцкая, *prislovi* — чэшская, *prislovie* — славацкая, *prislov* — славенская.

Як бачна, старажытныя рымляне галоўны змест прыслоўя бачылі ў тым, што яно знаходзіцца пры дзеяслове і дае яму разнастайныя характарыстыкі. Але прыслоўе спалучаецца не толькі з дзеясловамі, а і з прыметнікамі, назоўнікамі, прыслоўямі. З назоўнікамі прыслоўі ўжываюцца даволі рэдка, а з прыметнікамі і прыслоўямі спалучаюцца галоўным чынам прыслоўі меры і ступені. Гэта тлумачыцца тым, што прыметнікі абазначаюць прымету (якасць, уласцівасць прадметаў), а слова, што яго азначае, можа ўказваць на меру і ступень гэтай якасці або ўласцівасці (***вельмі*** *прыгожы букет*, ***незвычайна*** *чыстая вада*). *Надзвычай ясная, спакойная раніца выдалася ў гэты дзень* (Я. Колас).

Асноўная функцыя прыслоўя — абазначаць прымету дзеяння, а асноўная роля прыметніка — абазначаць прымету прадмета: *хутка бегчы — хуткі бег, правільна разважаць — правільнае разважанне, прыгожа спяваць — прыгожыя спевы.*

## Адгадайце слова

**1.** Хто хутчэй? Назавіце адным словам — прыслоўем.

1. Падзяліць на дзве роўныя часткі —
2. На блізкай адлегласці —
3. У першы раз —
4. Два дні таму назад —
5. Пераганяючы адзін аднаго —
6. Увесь час, без прыпынкаў —
7. У адзін і той жа час —
8. Вельмі рана —

**2.** Запішыце прыказкі, замест кропак устаўляючы адпаведныя прыслоўі-антонімы. Сэнс прыказак растлумачце.

1. Блізка відаць, ды ... дыбаць. 2. Гаварыць трэба паасобку, а спяваць ... . 3. Высока падляцеў, ды ... упаў. 4. Схлусіш сёння, не павераць і ... . 5. Лёгка пасварыцца, ... памірыцца. 6. Не адкладвай назаўтра, што паспееш зрабіць ... 7. Што аднаму цяжка даецца, тое калектывам ... бярэцца. 8. Заўтра не дагоніш, а ... не вернеш. 9. Калі не будзе ўзімку белена, то не будзе ... зелена.

- Вызначце, да якіх разрадаў па значэнні адносяцца ўжытыя ў прыказках прыслоўі.

## Таямніцы паходжання прыслоўяў

**3.** Раскрыйце таямніцу паходжання наступных прыслоўяў.

Узор. **Вобмацкам** — ‘пры дапамозе дотыку’; ад дзеяслова *абмацаць,* шляхам пераходу назоўніка ў форме творнага склону *вобмацак* (чым? — *вобмацкам*) у прыслоўе. Як і *лістам*, *хорам*, *цудам*, *кулём*.

Услед, памалу, зверху, напярэдадні, вобмацкам, дадому, крыху, урассыпную, навыварат, па-нашаму, двойчы, прарэзліва.

## Хто хутчэй?

**4.** Утварыце па пяць прыслоўяў ад назоўнікаў (*дзень*, *круг*, *страла*, *поўнач*, *хата*), дзеясловаў (*бегчы*, *тырчаць*, *гуляць*, *раўці*, *пляжыць*),

прыметнікаў (*апетытны*, *касы*, *строгі*, *жвавы*, *шпаркі*), лічэбнікаў (*два*, *тры*, *чатыры*, *пяць*, *сем*), займеннікаў (*што*, *чаму*, *калі*, *куды*, *гэты*).

## Загадкі з роднай хаткі

**5.** Запішыце загадкі. Дайце адказы, раскрываючы дужкі. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа.

1. Ішла пані (ў) начы, згубіла ключы, месяц бачыў, сонца ўкрала.
2. Што (ў) ніз вяршыняю расце?
3. (У) пачатку і (ў) канцы яго холад, а цяпло (па) сярэдзіне.
4. (На) гару бягом, а (з ) гары кувырком.
5. Хто над намі (да) гары нагамі?
6. (Па) сярод двара стаіць капна: (с)пераду вілы, (з) заду мятла.
7. (У) восень рассыпаецца, (у) летку збіраецца.
8. Ног многа, а на спіне (да) дому едзе.
9. Стаіць паніч (да) гары нагамі.

**6.** Знайдзіце чацвёртае лішняе слова. Адказ абгрунтуйце.

1. Добра, светла, прыгожы, сёння.
2. Дзе, усюды, таму, тут.
3. Побач, насупраць, паасобку, далёка.
4. (Па) польску, (па) роўну, (па) першае, (па) гаспадарску.
5. (Як) раз, (як) след, (так) сама, (усё) роўна.

## Паслухаем мовазнаўцаў

Шмат увагі аддае «народная лінгвістыка» такім моўным тэмам, якія даследуюць лексікалогія і марфалогія. Як разумееш слова, што бачыш за ім, ці правільна яго ўжываеш? Гэтыя асноўныя пытанні ставяць невядомыя аўтары ў загадках, лічылках, жартах, а то і ў адмысловых лінгвістычных заданнях: ***Пералічыце пяць дзён па парадку, не называючы чыслаў і назваў дзён*** **(А. Каўрус).**

- Ці можаце вы выканаць гэта заданне?

### Шукаем памылку

**7.** Ці можна так сказаць? Адрэдагуйце і запішыце сказы, у якіх парушаны граматычныя нормы.

**1. Алена спяшалася як найбольш хутчэй выканаць дамашняе заданне. 2. Апоўдні сонца становіцца яшчэ больш гарачэй. 3. Крыху найдалей, за агародчыкам, пачынаецца сасновы бор. 4. Раніцай вуліцы нашага горада выглядаюць больш прыгажэй, чым вечарам. 5. Вучні стараліся напісаць сачыненне як мага найлепей. 6. Лес шумеў неяк вельмі нудна. 7. Мацней ад усіх чуўся голас выдатніцы Аксаны.**

### Паслухаем мовазнаўцаў

**Мы сёння скажам, напрыклад: «Чалавек загаварыў галасна». Або можна прачытаць у друку ці пачуць па радыё яшчэ больш нязграбнае і штучнае слова — «услых». У апавяданні Цішкі Гартнага «Дойдзем, сынок» ёсць выраз: «Апошнія думкі Маланка выказала ўчуткі». Сучасныя слоўнікі не даюць слова «ўчуткі» нават у якасці сіноніма, а яно куды лепшае за штучнае «ўслых» (*А. Каўрус*).**

- Ці падзяляеце вы меркаванне лінгвіста?

**8.** Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа, вызначце іх разрад па значэнні.

**1. На лістападаўскіх в..трах душы самотна і прасторна. 2. Чаму люблю, не ведаю, слане..нікаў пажар. 3. Здалёку мес..ц тоненькі, як цацка, з якой гуляе сцішана Сусвет. 4. Мне дзяцінства згадаецца часам, быццам з фарбаў ра..квечаны сон. 5. Я з жыццём застаюся сам-насам, як з дарогай апошні вагон. 6. Ноч..у снег ц..русіў давідна, а пад раніцу вецер заціх… . 7. Калі гл..дзець з аблокаў на зямлю, яна адтуль прыгожая надзіва… . 8. Шпурляе нас дз..вяты вал. То кіне ўніз, то ўверх. Аж кругам ходзіць галава. А карабель плыве (*Н. Гальпяровіч*).**

**9.** Запішыце сказы, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі, падкрэсліце прыслоўі, ужытыя для сувязі частак складанага сказа, як члены сказа.

**1. Пакуль у неба б..юць пад'ёмы і час пружыніць павады, не ведай радасці і стомы, у мітульзе не трачь гады (*В. Зуё-***

*нак*). 2. Нацыя датуль ж..вая, пакуль ж..вуць яе апосталы (*Р. Барадулін*). 3. Ты помніш тыя кр..ніцы, дзе бруіцца песня твая? (*В. Зуёнак*). 4. Знаходзіць маці тыс..чы прычын, чаму так доўга сын яе ў даро..е, чаму не йдзе разгладзіць ёй маршчыны і высушыць на родным твары слёзы (*В. Зуёнак*). 5. Вы не бачылі часамі, як, напіўшыся з кр..ніц, вырастаюць за л..самі горы спелых навальніц? (*В. Зуёнак*). 6. Не сцерці мне з пам..ці дзень той, як выйшаў з маленства ў шлях я (*К. Цвірка*). 7. Вясну маладую з нас кожны хваліць, калі ідзе па сухім асфал..це (*Р. Барадулін*). 8. Адбылося тое ў канцы верасня, калі ўжо зацвілі, як сінія хвалі, на л..сных палянах верасы, калі пасыпалася жо..тае лісце... (*А. Жук*).

## Выкарыстанне прыслоўяў розных сэнсавых груп у апавядальных тэкстах

**Запомніце!**

Прыслоўі розных сэнсавых груп выкарыстоўваюцца ў апавядальных тэкстах мастацкага, публіцыстычнага, навуковага, размоўнага стыляў для дакладнай і выразнай перадачы сэнсу.

**10.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і жанр.

Выпішыце з тэксту прыслоўі і размяркуйце на тры групы: 1) прыслоўі часу, 2) прыслоўі спосабу дзеяння, 3) прэдыкатыўныя прыслоўі. Якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць прыслоўі ў тэксце?

**Пра Бабра і Вужа**

Ціха ноччу. І раптам: ш-ш-у-у-ух! Асіна, што расла каля самай ракі, сваёй зялёнай шапкай у раку ўпала. Гэта Бабёр пастараўся. Робіць плаціну, каб потым каля яе сабе хатку пабудаваць.

— Калі ж ты адпачываеш? — нараніцу дзівіцца з Бабра Вуж, вылезшы пагрэцца на сонейку з хмызняку. — І днём, і ноччу ўсё нешта майструеш, завіхаешся!

— Зімой адпачываю, — адказвае Бабёр, адгрызаючы на паваленай асіне галінкі — сваёй сямейцы на абед. — Зімой марозна, рака замярзае — і хацеў бы, не папрацуеш.

— А што, — яшчэ больш дзівіцца Вуж, — калі б зімой было цёпла, як улетку, ды рака не замярзала, ты б і тады працаваў?

— А як жа, — уздыхае Бабёр, — працаваў бы.

Глядзіць Вуж на Бабра і зразумець яго не можа. А Бабёр Вужа-лайдака не можа зразумець (*А. Бадак*).

- Выпішыце з тэксту дзеепрыслоўныя звароты. З якой мэтай яны ўжыты?

**11.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль і жанр.

Выпішыце з тэксту прыслоўі. Якую сэнсавую ролю выконваюць прыслоўі ў тэксце?

**Ястрабавы хітрыкі**

(Не) далёка і (не) блізка, не за морам-акіянам, а там, дзе пад ласкавым сонцам бруіцца буркатлівая рэчка, між спрадвечных лясоў і бароў жыло старажытнае племя-сямейства. А (не) падалёку вабіла шматрыб'ем загадкавае і чароўнае Герадотава мора.

Ці то ад пранізлівай нябеснай глыбіні, ці то ад валошкавага блакіту і азёрнай сінечы вочы людзей свяціліся бірузой, а спалавелыя на сонцы валасы кучаравіліся залацістым ільном.

Працавітыя былі і цягавітыя, як ніхто (на) вокал. (Ні) колі не сядзелі без справы. І дзяцей да гэтага прывучалі. Таму і мелі ўсё, што душа не пажадае.

За такое старанне спрыяла ім прырода — то дождждык (у) пару пасыплецца, то бура-навальніца іх абміне, то спякотнае сонца закрыецца воблакам ад нясцерпнай гарачыні. А пра мора і гаворкі няма — бралі з яго ўсё, што хацелі, і (ні) колі яно не бяднела.

Але пралятаў (не) як над імі Ястраб... (*А. Бутэвіч*).

- Прыдумайце і запішыце працяг казкі.

**12.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль, адказ абгрунтуйце.

Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі і расстаўляючы неабходныя знакі прыпынку.

Страшна (не) спагадны лёс выпаў нашай роднай беларускай мове! (Не) паўторна пявучай ад свайго раскошнага п(о, а)ўнагалосся (не) вычэрпна багатай лексічна і паслухмяна гнуткай у словазлучэннях (па) зямному (па) хатняму простай і, як свежы бохан, цёплай і духмянай (па) язычніцку першароднай і вобразнай! Мове асвечанай духам высокай старажытнай кніжнасці і дасканала распрацаванай цудоўнымі першакласнымі майстрамі. Мове, якая (на) суперак усім жорсткім выпрабаванням лёс(а, у) свабодна і лёгка дыхае (не) растрачанай дзівоснай жыватворнай сілай! (*Н. Гілевіч*).

- Выпішыце з тэксту словазлучэнні з прыслоўямі. Растлумачце правапіс прыслоўяў і ўмовы пастаноўкі знакаў прыпынку.
- Якую ролю выконваюць прыслоўі ў стварэнні ацэначнасці, эмацыянальнасці выказвання?
- Назавіце іншыя сродкі стварэння выразнасці тэксту.
- Раскажыце, што вы ведаеце пра гісторыю станаўлення і развіцця беларускай мовы.

**Запомніце!**

Прыслоўі месца і часу нярэдка ўжываюцца ў структуры зачыну апавядальнага тэксту.

**13.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып, стыль і жанр.

Назавіце прыслоўі, ужытыя ў тэксце. Вызначце, якую сэнсавую і граматычную ролю яны выконваюць, з якой мэтай ужыты.

### Экалагічныя прыгоды Чырвонай Шапачкі

Аднойчы ўвесну Чырвоная Шапачка адправілася ў госці да бабулі. Яна ішла па дарозе праз вялікі лес. Як добра было ў ім вясной! На дрэвах набухлі пупышкі, на палянах расцвілі першыя вясеннія кветкі — пралескі. Чырвоная Шапачка вырашыла нарваць букецік і падараваць яго мілай бабулі. Яна заспявала песеньку і пачала рваць кветкі. Раптам на паляну выбег Лісяня Шустрык.

— Не рабі гэтага, дзяўчынка! — закрычаў ён.

— Вой, як ты мяне напалохаў, — сказала Чырвоная Шапачка. — Не скнарнічай, калі ласка! Паглядзі навокал,

увесь жа ўзлесак сінім цветам расквітнеў. Я нарву ўсяго адзін букецік!

— А калі так зробяць яшчэ дзесяць або дваццаць чалавек? Што станецца з гэтай прыгажосцю? Усе кветкі будуць сарваныя, пакамечаныя нагамі, — адказаў Шустрык. Хіба ты не ведаеш, што так рабіць нельга? Мы павінны берагчы прыроду, лес і кветкі ў ім. Тым самым мы захаваем біялагічную разнастайнасць. І тады кожную вясну і праз сто, і праз дзвесце гадоў людзі і лясныя звяры, птушкі будуць радавацца кветкам-пралескам і ўсяму жывому (*Т. Булыгіна*).

- Як вы думаеце, пра што мог яшчэ расказаць Чырвонай Шапачцы Ліся-ня Шустрык аб паводзінах дзяцей і дарослых на прыродзе?
- Напішыце на адпаведную тэму невялікае апавяданне. Для дакладнай і выразнай перадачы сэнсу ўжывайце прыслоўі розных лексічных разрадаў, а таксама іншыя сродкі маўленчай выразнасці.

**Запомніце!**

**Прыслоўі выкарыстоўваюцца ў маўленні для перадачы паслядоўнасці змены падзей, цыклічнасці з'яў у прыродзе.**

**14.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль і тып.

Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Падкрэсліце прыслоўі як члены сказа.

1) Назавіце прыслоўі, якія ўжываюцца для перадачы паслядоўнасці дзеянняў і звязваюць тэкст у адно цэлае.

2) Якія прыслоўі выкарыстаны для больш дакладнай і выразнай перадачы сэнсу?

**Парнасць у культуры продкаў і ў нашым жыцці**

Беларускія дз..ўчаты карысталіся такім простым, але вельмі інфарматыўным спосабам пра..казання будучыні. Спачатку яны бралі 41 зерне бобу і адвольна ра..кладвалі на тры кучкі. Затым дакладна падлічвалі колькасць з..рнят у кожнай кучцы (па) асобку. Цотная кучка з..рнят у першай з іх была знакам пал..пшэння дабрабыту, (не) цотная — (не) ўсцешна наракала: будзеш хварэць і ц..рпець шматлікія (не) прыемнасці ад сваіх родных. Далей падлічвалі колькасць з..рнят у другой горцы. Цотная колькасць бабін ус-

**цешвала душу пра..казаннем, што на рабоце і ў вучобе вас чакае поспех, (не) цотная была сведчаннем (не) ўдачы, магчымай змены месца працы. І, нарэшце, трэцяя кучка сімвалізавала гаспадаранне і с..мейны стан. Цот — прадвесце спакою і добрага здаро..я. Няцот — знак магчымых с..мейных спрэчак, лаянак і скасавання шлюбу (*Я. Крук*).**

- Выпішыце тэкставыя сінонімы да слова *знак*, якія выкарыстаў аўтар з мэтай пазбягання таўталогіі і аднастайнасці ў выказванні.
- Вусна перакажыце тэкст. Зрабіце высновы: пра што сведчыць сімволіка цотнасці — няцотнасці ў беларускай народнай культуры?

**15.** Прачытайце верш. Пра які вясельны абрад расказваецца ў творы?

**Каравай**

**Каравай, убраны ў руту-мяту,**
**барадаты сват прынёс у хату.**

**Хай жаніх з нявестаю-красуняй**
**паспытаюць шлюбны пачастунак!**

**Ды спярша паклон-падзяку маці,**
**што снуе, бы сонейка, па хаце.**

**Потым, прад вясельнаю нядзеляй,**
**урачыста каравай падзеляць...**

**Ну а мы, хаўруснікі і госці,**
**маладому шчыра пазайздросцім.**

**Дапазна — пакуль спяваюць зоры,**
**не заснуць нам — весела ў каморы.**

**Заўтра будзем шчасцейка жадаці,**
**падарункі гожыя даваці...**

***М. Федзюковіч.***

- Выпішыце з тэксту прыслоўі. З якой мэтай яны выкарыстоўваюцца ў вершы?

**16.** Прачытайце тэкст, вызначце яго стыль, тэму і асноўную думку. Падбярыце загаловак.

Як вы разумееце выснову гэтага тэксту?

Толькі той, у каго вочы не засланы тэлевізійным туманам, ведае, што стаіць за словам «абрус».

А стаіць за ім наступнае.

Першае: «Сей у гразь — будзеш князь». Гэта пра авёс. І гэта пра лён. Князь — селянін, работнік. Князь — мужык-беларус, пан сахі і касы.

А лён — гэта ж ён, лянок, валакністы, шаўкавісты, купалаўскі...

Другое. Божа мой, як цвіце лён! Усё тыя ж вочы, усё тая ж радасць, усё той жа блакіт.

Далей. Лён трэба вырваць. Пасля яго трэба абабіць. Потым вымачыць пад дажджамі і росамі на поплаве. Пасля высушыць у лазні. Потым перацерці. А потым — адтрапаць. А потым вычасаць. І толькі пасля гэтага спрасці. Потым аснаваць кросны. У колькі нітоў? У чатыры, у шэсць, у восем, у дванаццаць? І выткаць, і выбеліць...

І тады з'явіцца слова «абрус», за якім і радзіны, і хрысціны, і вяселле, і апошняе, развітальнае — памінкі.

Мы — зямныя людзі, мы павінны аддаць Богу Богава.

- Назавіце прыслоўі, якія выкарыстаны для сувязі сказаў і частак тэксту, а таксама для перадачы паслядоўнасці змены дзеянняў.
- Паўтор якога прыслоўя выкарыстоўваецца для ўзмацнення эмацыянальнай выразнасці тэксту?
- Словы якой часціны мовы ўжыты для падзелу тэксту на лагічныя часткі?
- Скажыце, якія творы і якога аўтара згадваюцца ў тэксце?
- Назавіце прыметнік, ужыты ў значэнні іншай часціны мовы.

**Запомніце!**

У мастацкіх, публіцыстычных тэкстах ужываюцца прыслоўі-сінонімы для дакладнага выражэння сэнсу, канкрэтызацыі агульнай прыкметы ці ўласцівасці, выяўлення адметнага, характарыстыкі літаратурнага героя.

Прыслоўі-сінонімы — гэта сродак пазбягання аднастайнасці і дасягнення большай выразнасці выказвання ў тэкстах мастацкага і публіцыстычнага стылю.

**17.** Прачытайце ўрывак з паэмы Якуба Коласа «Новая зямля» (раздзел «Летнім часам»).
Назавіце прыслоўі-сінонімы, ужытыя ў тэксце, пры дапамозе якіх ствараецца наглядная, яркая карціна спякотнага летняга дня.

Гарачы дзень! Эх, спёка, спёка!
А прахладзь вечара далёка.
Замлела ўсё ў жары-тамленні,
зямля гарача і каменні;
А ўсюды ціха, нема, глуха,
І толькі заедзь каля вуха
Гудзе агідна, надаедна,
Бы сама наша доля бедна,
Ды дзіцянё з лубка-калыскі
Заводзіць плачы свае, піскі,
А кучаравыя снапочкі,
Над ім злучыўшы каласочкі,
Стаяць спакойна і маўкліва,
Бы кажуць жнейкам тым жычліва:
Да нас ідзіце, дабрадзейкі!
Пад наш цянёк хавайцесь, жнейкі!

- Назавіце словы з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі. З якой мэтай яны ўжыты ў творы?

**18.** Прачытайце тэксты. Выпішыце прыслоўі-сінонімы. Вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю.

Якія магутныя творцы-мужы,
Якія нязломныя волаты
Пайшлі па той бок векавечнай мяжы
Заўчасна, зарана, замолада!..

*Н. Гілевіч.*

Пан — пыхліва і порстка, — па-панску,
Хан — глумліва і жорстка, — па-ханску,
Хам — паскудна і гідка, — па-хамску.
Сам — падступна і хітра, па-самску.
Ды найгнюсны з усіх — ад Бярэсця да Воршы,
Ад Гародні да Гомля і Глуску —
Чыніць лёкай-халуй — па-халуйску.

*Н. Гілевіч.*

- Абгрунтуйце напісанне прыслоўяў праз дэфіс.

**Запомніце!**

Як мастацкі сродак выразнасці ў вуснай народнай творчасці, мастацкай, публіцыстычнай літаратуры выкарыстоўваюцца прыслоўі-антонімы для апісання супрацьлеглых прымет і ўласцівасцей. Да прыкладу:

*Усё альбо нічога —*
*твой дэвіз,*
*а гэта значыць:*
*ці **ўверх**,*
*ці*
***ўніз**.*
М. Федзюковіч.

**19.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль, сваё меркаване абгрунтуйце.

Назавіце прыслоўі-антонімы, ужытыя ў тэксце. З якой мэтай яны ўжыты з тэксце?

Наша родная зямля ўдоўж і ўпоперак апаясана міжнароднымі магістралямі, знакамітымі гістарычнымі шляхамі, гасцінцамі, прасёлкамі. Аднак галоўная пуцявіна чалавечага жыцця — дарога ад роднага дома да храма (*Я. Крук*).

**20.** Прачытайце верш Пімена Панчанкі. Вызначце яго асноўную думку.

А страціць годнасць — невыносна,
Які б ні быў там дабрадзей...
Глядзіце знізу ўверх на сосны,
На воблакі.
Не на людзей.

А калі вас уздыме слава,
Аб гэтым думайце радзей...
Глядзіце зверху ўніз на травы
Ці на ваду.
Не на людзей.

- Назавіце прыслоўі-антонімы, ужытыя ў тэксце. Якія яшчэ прыслоўі сустракаюцца ў творы? Вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю.

**21.** Прачытайце тэксты. Выпішыце прыслоўі-антонімы. Вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю.

**Днём і ноччу, рана — позна,**
**Думкі цяжка рояцца:**
**Як ад немасці пагрознай**
**Песня абароніцца?**

*Н. Гілевіч.*

**Глядзі і не хавай здзіўлення:**
**учора — глуха, сёння —**
**звонка**
**гартае шэрыя старонкі**
**вясновы вецер абнаўлення.**

*М. Федзюковіч.*

- Паразважайце, чым аб’яднаны выказванні двух аўтараў.
- Складзіце і запішыце невялікае выказванне на тэму «Наша родная песня». Мэтанакіравана ўжывайце прыслоўі для дакладнай і выразнай перадачы сэнсу, узмацнення эмацыянальнасці твора.

**22.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак.

**Дзе б я (ні) быў — у лесе, у полі або на беразе ракі, — (ні) колі не прапушчу без увагі (ні) воднай сустрэтай мною птушкі. Гэта ў звычку ўжо ўвайшло.**

**Неяк поўднем ішоў я светлым узлессем. Крочыў (не) спяшаючыся ды па баках пазіраў. Глядзеў, дзе якая новая кветка распусцілася альбо цікаваяраслінка на свет з’явілася. Дыхаў лясным паветрам, настоеным тонкім водарам духмяных ландышаў і фіялак.**

**(Не) чакана каля самай сцежкі ў зялёным кусце вярбоўніку валасянка-чорнагалоўка заспявала.**

**Валасянкі — мае любімыя птушкі. Іх цудоўную песню я цаню вышэй за салаўіную.**

**Дай, думаю, паназіраю, як гэта птушцы ўдаецца спяваць, што песню яе чуваць то блізка, то раптам далёка-далёка.**

**Падыходжу асцярожна да куста. Зірк — а на галінцы замест чорнагалоўкі саракуш-жулан сядзіць. І так гэты**

птах старанна песеньку валасянкі выводзіць, аж вочы прыплюшчыў.

Я вельмі здзівіўся. Цвёрда быў упэўнены, што спявае валасянка-чорнагалоўка.

А тут раптам саракуш. Як скажуць: Саўка, ды не ў тых санках (*Р. Ігнаценка*).

- Выпішыце з тэксту словы, раскрываючы дужкі. Правапіс слоў з *не, ні* растлумачце.
- Выпішыце словазлучэнні з прыслоўямі. Да якіх лексічных разрадаў яны адносяцца?
- Вызначце сэнсава-стылістычную ролю прыслоўяў у тэксце. Назавіце антанімічную пару прыслоўяў. Якая яе роля ў пабудове тэксту?
- Падрыхтуйце і запішыце невялікае мастацкае сачыненне-апавяданне пра ваш паход у лес або на рэчку, возера. Дарэчна ўжывайце прыслоўі розных сэнсавых груп.

**23.** Прачытайце верш. Каму адрасаваны твор? Вызначце яго асноўную думку.

Апошні тралейбус... Апошні трамвай...
Даўно ім прысвечаны вершы.
І ў песнях уславілі — едзь і спявай!
А першы?.. Вы ехалі першым?

Першы аўтобус, тралейбус, трамвай —
Сядалі на досвітку рана,
Калі яшчэ толькі пачне небакрай
Ледзь-ледзь ружавецца крамяна?

Апошні — нярэдка ваш дзень завяршаў,
Вы бег яго добра спазналі.
А першы — каб першым паспець за варштат
Вы ў думках «хутчэй» падганялі?

Апошнім — з гасцей прыбывалі дамоў,
З гарачых сяброўскіх абдымкаў.
А першым — хоць раз вы да тых жа сяброў
Прыехалі з радай-падтрымкай?

Шчасліва ж вам ездзіць любою парой —
Апоўдні, увечар, уночы.
І — досвіткам, мілыя! З першай зарой!
І з першым народам рабочым.

*Н. Гілевіч.*

- Выпішыце прыслоўі і вызначце іх разрад па значэнні. Растлумачце правапіс.
- Якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць прыслоўі ў тэксце?
- Назавіце іншыя сродкі выяўленчай выразнасці тэксту.

## Вобразна-выяўленчая роля прыслоўяў у тэкстах-апісаннях

**24.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Назавіце прыслоўі, ужытыя ў тэксце для стварэння нагляднай і яркай карціны прыроды. Якія яшчэ вобразна-выяўленчыя сродкі ўжыў аўтар у гэтым апісанні «музыкі маладога лісця»?

### Кучаравае дрэва

Буйна-радасна, сакавіта-музычна шумела маладое лісце на Кучаравым дрэве. У гэтым шуме пераліваліся найдалікатнейшыя тоны тае песні, якую можна было б назваць песняю аднаўлення, бо была вясна, маладая, як пена разводдзя, прыгожая, бы світанне майскай раніцы. А калі раніцою на гэтым Дрэве спыняліся промні сонца, заляцеўшы сюды з недасяжных глыбінь, яны развешвалі на вільготным лісці мнагаструнную арфу. Па ёй прабягала дыханне лёгкага-лёгкага ветрыку, і струны яе дрыгацелі так пяшчотна-квола, што і самае тонкае вуха не магло расслухаць іх дзівоснага звону. І толькі тады, калі хвалі ветру, абуджаныя тымі ж праменнямі сонца, мацней павявалі сваімі лёгкімі крылламі над звонкаструннаю арфаю, голас яе чуўся выразна. У гэтай музыцы было жыццё вольных прастораў, шум пушчы, звон шырокіх лугоў, ціхае задуменне рачных заток, гутарлівае імкненне рачулак і рэчак, бо над усім жа гэтым пралятаў чарадзей-ветрык і адбіваў іх на сваёй арфе. Сама ж песня зялёнага ліс-

**ця агортвалася ў невыказна-прыгожыя чары адвечнай казкі зямлі, тае казкі, што ствараюць прырода і людзі (*Я. Колас*).**

- Назавіце назоўнікі, ужыванне якіх не адпавядае сучаснай граматычнай норме. Адрэдагуйце сказ.

**25.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Назавіце прыслоўі, якія ўжыты для перадачы прасторавых адносін паміж прадметамі.

**Вакол рассцілалася поле, голае, пустое, абабранае. Збоку пацягнуўся луг паабапал Нёмана. Там і сям стаялі парыжэлыя стагі. Далей перад Андрэем пачынаўся лес, праз які ішла дарога. А над усім гэтым вісела хмурнае неба, як кепска зааранае поле (*Я. Колас*).**

**26.** Прачытайце. Да якога тыпу маўлення можна аднесці гэты тэкст? Абгрунтуйце сваё меркаванне.
Выпішыце прыслоўі, якія аўтар ужыў:
а) для перадачы прасторавых адносін паміж прадметамі;
б) для выразнай перадачы сэнсу, нагляднага апісання месца.

**Вёска была досыць вялікая, цягнулася ў адну лінію, і толькі каля цэркаўкі на ўзгорку хаты гуртаваліся гусцей і шырэй. Злева, пры канцы вёскі, стаяў дом валаснога праўлення з двума высокімі чырвонымі комінамі над пачарнелым дахам. Насупраць, на другі бок вуліцы, выглядала школа з белымі аканіцамі і двума ці трыма развіслымі вязамі каля яе. Пры дарозе ў вёску, крыху наводшыбе, маркотна тулілася старэнькая драўляная цэркаўка. Цяпер яна стаяла адзінокая, закінутая, забытая, і толькі богабаязны падарожны, праходзячы каля яе, прыпыняўся і хрысціўся, набожна схіліўшы галаву. Па адзін і па другі бок вёскі стаялі ветракі, як страшыдлы, шырока раскінуўшы свае крыллі. Адны з іх былі ў жывым руху, весела падымалі і апускалі крыллі, а другія — стаялі моўчкі, нерухліва і мелі такі выгляд, як бы яны былі крэпка чымся здзіўлены і пыталіся: «А чаму мы стаім без работы?» (*Я. Колас*).**

- Назавіце прыслоўі-антонімы, ужытыя ў тэксце. Якую сэнсава-стылістычную ролю яны выконваюць у творы?

## Ужыванне прыслоўяў у тэкстах тыпу разважання

**Запомніце!**

Прыслоўі пэўных сэнсавых груп актыўна ўжываюцца ў тэкстах тыпу разважання. Яны выкарыстоўваюцца ў ролі пабочных слоў як сродак каментару сваіх маўленчых дзеянняў, як сродак падзелу ці аб'яднання тэксту, устанаўлення адносін паслядоўнасці паміж часткамі, большай ці меншай значнасці, лагічнай сувязі. Прыслоўі выкарыстоўваюцца таксама для ўказання на спосаб выражэння думкі, сэнсавыя, стылістычныя ці мадальныя адносіны аўтара да выказанай думкі (*нарэшце*, *напрыклад*, *дарэчы*, *па-першае*, *па-другое*, *такім чынам*, *вядома*, *бясспрэчна*, *магчыма*, *сапраўды*, *натуральна*, *напэўна* і інш.).

**27.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Назавіце прыслоўі, ужытыя для сэнсавай арганізацыі тэксту гэтага тыпу.

Hand-made, або рэчы, зробленыя сваімі рукамі, выклікаюць больш павагі, чым машыннае вытворчасці.

Таму што, па-першае, яны ўнікальныя, а па-другое, у іх, бясспрэчна, першапачаткова закладзена энергія — энергія чалавека, які гэта вырабляе (*Р. Ушкевіч. «Бярозка»*).

- Прадоўжыце тэкст. Прывядзіце некалькі прыкладаў для пацвярджання ўласнай думкі і зрабіце адпаведныя высновы.

**28.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып і стыль. Назавіце, з дапамогай якіх прыслоўяў аўтар выказвае свае адносіны да зместу сказанага, устанаўлівае адносіны паслядоўнасці паміж суджэннямі.

Нарыс і замалёўка — розныя формы асэнсавання і адлюстравання рэчаіснасці. Нарыс — жанр мастацка-публіцыстычны, замалёўка — жанр інфармацыйны. Вось з гэтага і неабходна зыходзіць.

Журналіст часта адчувае неабходнасць даць чытачу жывое, нагляднае ўяўленне аб тым, з чым ён сустрэўся падчас свайго безупыннага творчага пошуку. Безумоўна, калі жыццё дало журналісту багаты фактычны матэрыял, з якога паўстае цэлая праблема, альбо ён пазнаёміўся з цікавым чалавекам,

які з’яўляецца тыповым прадстаўніком пэўнага сацыяльнага асяроддзя, пажадана пісаць нарыс. Але, па-першае, не кожны газетны работнік можа быць нарысістам. Па-другое, не кожная сустрэча дае ў рукі аўтара дастатковы фактычны матэрыял для мастацка-публіцыстычных абагульненняў, стварэння паўнакроўнага вобраза. Тут, каб распачаць работу над нарысам, неабходна весці далейшы пошук, вывучаць новы жыццёвы матэрыял. На гэта спатрэбіцца дадатковы час, тыдні, а то і месяцы напружанага аналізу. А газета выходзіць кожны дзень, і чытач побач з аператыўнай інфармацыяй, публікацыямі праблемнага плана шукае матэрыялы, якія б маляўніча, вобразна раскрывалі сутнасць фактаў, з’яў, падзей.

Каб зразумець істотнае адрозненне замалёўкі ад нарыса, бадай, трэба параўнаць творчасць журналіста з творчасцю мастака. Завершаная карціна раскрывае перад гледачом аўтарскую ідэю. Мы ўспрымаем жывапіснае палатно як сінтэз жыццёвых назіранняў. Перад тым як застацца сам-насам з чыстым палатном у сваёй майстэрні, мастак робіць дзясяткі, а то і сотні эцюдаў з натуры. Дык вось, калі праводзіць паралелі, то карцінай для пісьменніка, журналіста з’яўляецца нарыс, а эцюдам — замалёўка. Розніца толькі ў тым, што ў большасці выпадкаў журналіст прапануе чытачу замалёўку як самастойны твор, а не подступ да будучай карціны.

Такім чынам, замалёўка з’яўляецца самастойным інфармацыйным жанрам, у якім падзея, з’ява прыроды, эпізод з жыцця чалавека раскрываецца праз жывы малюнак словам (*Б. Стральцоў*).

- Паспрабуйце напісаць невялікую замалёўку: маляўніча, вобразна расказаць пра якую-небудзь падзею, з’яву прыроды або эпізод з жыцця вашых сяброў, знаёмых.

**29.** Прачытайце тэкст інструкцыі па эксплуатацыі ПЭВМ (персанальнай электроннай вылічальнай машыны). Вызначце стыль тэксту.

Якія прыслоўі ўжыты ў тэксце? Вызначце іх сэнсава-стылістычную ролю.

Для размяшчэння ПЭВМ патрабуецца свабодная паверхня рабочага стала. Паверхня павінна быць роўнай, чыстай

і ўстойлівай. Пры выбары месца для размяшчэння ПЭВМ неабходна ўлічыць наступныя ўмовы:

не размяшчайце ПЭВМ паблізу награвальных прыбораў і пад прамымі сонечнымі промнямі;

ПЭВМ павінна быць размешчана не бліжэй за 1 метр ад крыніц моцных электрамагнітных выпраменьванняў (тэлевізары, трансфарматары і пад.);

крыніцы святла павінны быць размешчаны так, каб не засвечваць экран манітора, не ствараць рэзкіх блікаў на экране і не свяціць з-за манітора ў вочы чалавека, які працуе з ПЭВМ;

не размяшчайце ПЭВМ там, дзе ёсць магчымасць пападання вільгаці на камп'ютар;

пры размяшчэнні ПЭВМ інтэрфейсныя кабелі не павінны быць пад нагамі і перашкаджаць руху людзей;

ПЭВМ і манітор павінны мець не менш за 20 см свабоднай прасторы з тых бакоў, дзе знаходзяцца вентыляцыйныя шчыліны. Не кладзіце на манітор паперу, тканіну і іншае, што можа парушыць вентыляцыю прыбора.

Катэгарычна забараняецца размяшчаць ПЭВМ у невентыліруемыя нішы, а таксама закрываць вентыляцыйныя адтуліны корпуса.

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. З якімі часцінамі мовы спалучаюцца ў словазлучэнні прыслоўі? Ці могуць прыслоўі прымыкаць да назоўнікаў? Прывядзіце прыклады.

2. Якімі членамі сказа могуць быць прыслоўі? Вызначце сінтаксічную ролю прыслоўя ў наступным сказе.

*Найлепшая з нашых дарог — дарога дадому* (П. Панчанка).

3. Вядома, што прыслоўі — нязменныя словы. Якія з іх і ў якіх выпадках усё ж змяняюцца?

4. Раскажыце, як адрозніць форму вышэйшай ступені параўнання прыметніка ад аднакаранёвай формы вышэйшай ступені параўнання прыслоўя.

5. Ад якіх часцін мовы і якімі спосабамі ўтварыліся і ўтвараюцца прыслоўі?

## Правяраем сябе!

**1.** Што абазначае прыслоўе? Выберыце правільны адказ.

а) Прымету прадмета паводле дзеяння;
б) прадмет;
в) прымету дзеяння або прымету іншай прыметы ці прадмета;
г) дзеянне прадмета.

**2.** Адзначце словазлучэнні, у якіх прыслоўе абазначае прымету прадмета.

а) Смяяцца гучна, вельмі светла;
б) незвычайна прыгожы, доўга чакаючы;
в) погляд здалёк, гаворка па-англійску.

**3.** Адзначце сказ, у якім ужыта прэдыкатыўнае прыслоўе.

а) Над светам каляровы дым плыў весела і горка (*Н. Гальпяровіч*).
б) Пуста ў полі і ў лесе, пуста і ўночы і днём... (*Н. Гальпяровіч*).
в) Зноў фарбы восені згарэлі і выпаў першы белы снег... (*Н. Гальпяровіч*).

**4.** Якімі членамі сказа з'яўляюцца прыслоўі? Выберыце правільны адказ.

*Ніколі вяртанне дахаты не было для Геракла такім турботным* (П. Васючэнка).
а) Акалічнасць, азначэнне;
б) выказнік, акалічнасць;
в) акалічнасць, акалічнасць;
г) акалічнасць, у саставе выказніка;
д) выказнік, азначэнне.

**5.** Адзначце прыслоўі мэты.

а) Нанач, увечары, зверху, апоўдні;
б) напаказ, знарок, назло, нездарма;
в) наўсцяж, разам, згарача, злёгку;
г) звонка, добра, радасна, марудна;
д) крыху, залпам, завідна, наўздзіў.

**6.** Адзначце сказы, у якіх ужыты формы ступеней параўнання прыслоўяў.

**а) Чым далей у лес, тым гусцейшыя дрэвы, тым вышэй падымаюцца снегавыя шапкі (*М. Лынькоў*).**

**б) Ён самы дужы ў акіяне, які яму — найлепшым домам (*М. Пазнякоў*).**

**в) Скрушыць заўсёды прасцей, чым што-небудзь пабудаваць (*У. Гаўрыловіч*).**

**г) Леў Талстой найнепасрэдней даў рабочую схему майстэрства пісьменніка (*А. Лойка*).**

**7.** Адзначце прыслоўі, якія пішуцца асобна.

**а) (У) двая;**
**б) (на) ляту;**
**в) (абы) куды;**
**г) (на) шчасце;**
**д) (з) разбегу.**

**8.** Адзначце прыслоўі, якія пішуцца праз дэфіс.

**а) (Абы) дзе;**
**б) (па) двое;**
**в) (калі) нікалі;**
**г) (па) дзіцячы;**
**д) (да) зарэзу.**

**9.** Якім спосабам утвораны прыслоўі? Выберыце правільны адказ.

***Па-нашаму, дадому, знізу, зблізку, па-другому, наверсе.***

**а) Прыставачны;**
**б) суфіксальны;**
**в) прыставачна-суфіксальны;**
**г) словаскладанне;**
**д) постфіксальны.**

**10.** Прачытайце і адрэдагуйце сказ. Запішыце слова, якое трэба ўжыць у сказе.

***Гэта мова, якая ўзрастае з вякоў, даражэй за багацце, паходжанне, кроў* (Н. Гальпяровіч).**

# ПРЫНАЗОЎНІК

## Прыназоўнік як службовая часціна мовы

**Успомнім**

Прыназоўнікі — гэта службовыя словы, з дапамогай якіх выражаюцца адносіны паміж галоўным і залежным словамі ў словазлучэнні. Напрыклад: *Хлопцы ўжо сядзелі каля вогнішча* (А. Кажадуб). Прыназоўнік *каля* выражае прасторавыя адносіны.

Сама назва гэтай службовай часціны мовы быццам падказвае, што прыназоўнік — гэта тое слова, якое стаіць пры назоўніку. Гэта так. Але прыназоўнік можа ўжывацца не толькі пры назоўніку. На месцы назоўніка можа быць займеннік, а таксама любыя субстантываваныя словы і выразы (якія перайшлі ў назоўнікі). Да прыкладу: *Вельмі вялікая да вас просьба, дзеці. Нечакана для сябе я заўсміхаўся.* У гэтых сказах у ролі залежнага слова ў прыназоўнікавых словазлучэннях ужываюцца займеннікі: *просьба* ***да*** *вас*; *нечакана* ***для*** *сябе*; *дзеліцца* ***на*** *два*.

У сказе *Калгас патроху набіраў сілу, ішло на лепшае* (А. Кудравец) залежным словам у прыназоўнікавым словазлучэнні з'яўляецца прыметнік у ролі назоўніка: *ішло* ***на*** *лепшае*.

Прыназоўнікам характэрна высокая частотнасць ужывання ў маўленні: прыблізна 10 % любога тэксту складаюць прыназоўнікі. Такі самы працэнт прыходзіцца і на долю злучнікаў.

**1.** У адпаведнасці з паходжаннем усе прыназоўнікі падзяляюцца на невытворныя і вытворныя. Разгледзьце табліцу і падрыхтуйце вуснае паведамленне на адпаведную тэму.

| | |
|---|---|
| **Невытворныя прыназоўнікі** | *А, аб, ад, без, да, для, дзеля, з* (*са*), *за, каля* (*ля*), *паміж, між, перад, пра, праз, пры, у* (*ва*); *цераз, акрамя, апрача, бліз, замест, звыш, наконт, накшталт, паводле, сярод, паўз* |

| | |
|---|---|
| **Вытворныя прыназоўнікі** | |
| 1. Прыслоўныя | *Абапал, блізка, вакол, воддаль, збоку, зверху, насустрач, пасля, скрозь, услед, усцяж* і інш.<br>*Адначасова з, асобна ад, збоку ад, папалам з, побач з, разам з, следам за, сумесна з, услед за* і інш. |
| 2. Назоўнікавыя | *Шляхам; за выключэннем, за кошт, з боку, з ліку, з мэтай, з дапамогай, з прычыны, з часу, на аснове, пры дапамозе, у напрамку, у час;*<br>*на чале з, па шляху да, у кірунку да, у параўнанні з, у саюзе з, у сувязі з* і інш. |
| 3. Прыметнікавыя | *Адносна, адпаведна, згодна, паралельна, прапарцыянальна, раўналежна* і інш. |
| 4. Дзеепрыслоўныя | *Выключаючы, дзякуючы, канчаючы, не лічачы, уключаючы;*<br>*Нягледзячы на, гледзячы па, пачынаючы ад, пачынаючы з* |

**2.** Паводле будовы прыназоўнікі падзяляюцца на тры групы. Разгледзьце табліцу і раскажыце пра падзел прыназоўнікаў паводле будовы.

| Простыя | Складаныя | Састаўныя |
|---|---|---|
| А, аб, ад, без, для, дзеля, з (са), каля (ля), на, над, перад, паўз і інш. | З-за, з-пад, з-над, па-над, па-за, паміж, з-па-над, з-па-за | Асобна ад, збоку ад, за выключэннем, пры дапамозе, у гонар, у часы, следам за, гледзячы па і інш. |

**3.** Словы аднаго слупка злучыце са словамі другога слупка злучнікамі **ад** або **для**. Якія адносіны выражаюцца пры дапамозе гэтых злучнікаў?

| | |
|---|---|
| Вадкасць | Плямы |
| сродак | пахудзенне |
| каплі | стрэс |
| таблеткі | бяссонніца |
| мазь | загар |
| гімнастыка | умацаванне арганізма |
| лекі | гультайства |
| зёлкі | кашаль |
| напой | апетыт |

**4.** Падбярыце і запішыце прыназоўнік, які падыходзіць па сэнсе.

| Пайшоў | Вярнуўся |
|---|---|
| у школу<br>у лагер<br>у лес<br>на станцыю<br>на заняткі<br>на спаборніцтвы<br>на спеўкі<br>ва ўніверсітэт | ... школы<br>... лагера<br>... лесу<br>... станцыі<br>... заняткаў<br>... спаборніцтваў<br>... спевак<br>... універсітэта |

## Загадкі з роднай хаткі

**5.** Запішыце загадкі, устаўляючы прапушчаная літары і знакі прыпынку. Напішыце адказы.
Вызначце, якія адносіны перадаюцца пры дапамозе прыназоўнікаў і залежных слоў у словазлучэннях.

1) Гарачае лета,
Спеюць суніцы,
А ён — ... травы
У пуховай хусцінцы.

2) Цвітуць і ... лу..е, і ... пол..
Чырвоныя, белыя шапкі
І дораць турботлівым пчолам
Нектар і сало..кі, і пахкі.

3) ... снегу вы..шла,
Расцвіла,
І так,
Што аж зіма ўцякла.

4) Ходзяць волаты ... бары,
Тут жывуць ... сівой пары.
Пушчаў то гаспадары,
Знакамітыя ... .

5) Растуць в..сной
Уніз ... стрэх.
Бацькі іх —
Сонейка і снег.

6) Займеннік упачатку
Ды і канчатак — ён.

А пасярод — ... статка
Прыйшоў маленькі конь.
А разам — назаву я
Краіну астраўную.

*А. Пазнякоў.*

Даведка: у загадках і шарадзе ўжыты прыназоўнікі ***з***, ***са***, ***з-пад***, ***між***, ***на***, ***у***.

**6.** Запішыце фразеалагізмы, устаўляючы прапушчаныя прыназоўнікі. Растлумачце сэнс устойлівых выразаў.
З трыма фразеалагізмамі (на выбар) складзіце і запішыце сказы. Падкрэсліце фразеалагізмы як члены сказа. Дайце поўную пісьмовую характарыстыку аднаго прыназоўніка.

Ад часу ... часу; ад слова ... слова; зваліцца ... неба; пападаць ... зуб; з нагі ... нагу; як гарох ... дарозе; запасці ... вока; ад коркі ... коркі; спачываць ... лаўрах.

Даведка: *вельмі марудна*, *павольна*; *жыць ненадзейна*, *трывожна*, *адзінока, без догляду*; *калі-нікалі*; *дакладна*, *не прапусціўшы нічога*; *выклікаць пачуццё сімпатыі да сябе*; *задаволіўшыся дасягнутым*, *бесклапотна праводзіць час*; *вывучыць цалкам*, *поўнасцю*, *нічога не прапускаючы*; *не разумець таго*, *што ідавочна ўсім*; *станавіцца прадметам чыёй-небудзь увагі*, *крытыкі*, *ганення*.

**7.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму, тып і стыль.

### Праз пяць стагоддзяў

Кніга вядомага беларуса выдадзена ў Італіі. Рарытэтнае выданне паэмы Міколы Гусоўскага «Песня пра зубра» атрымалі Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў і Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей.

Надрукавана кніга на спецыяльнай паперы і амаль уручную прашыта. У яе скураная вокладка. Гэта вялікая сумесная праца беларускага мастака Юрыя Якавенкі, які зрабіў ілюстрацыі да кнігі, і вядомага італьянскага друкара Джуліяна Якамучы.

«Песню пра зубра» беларускі паэт-лацініст эпохі Адраджэння Мікола Гусоўскі стварыў, знаходзячыся ў Італіі.

Папа Леў X хацеў больш даведацца пра зубра і пра паляванне на яго. Увогуле, гэты твор — пра беларусаў, іх заняткі, звычаі, вераванні (*Н. Марадудзіна. «Беларусь»*).

- Выпішыце словазлучэнні з прыназоўнікамі. Якія значэнні перадаюцца ў словазлучэннях пры дапамозе прыназоўнікаў і формаў залежных слоў?
- Выпішыце ўласныя назвы, растлумачце іх правапіс.

**8.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку.

Ну, дык пакрочым на поўнач, у нетры лясныя.
Я, следапыт, павяду вас, бо мне гэта звычна,
Там і сустрэнемся з грозным, магутным асілкам,
Хай ён рыкне, і прарвецца ў радкі мае рэхам.
Тое рыканне — набудзе гармонію песня;
Хай ён бадне ў мой радок, каб маглі мы разгледзець
Гэтае дзіва з абшараў Літоўскага княства.
Волатным целам сваім ён настолькі вялікі,
Што, калі раняць смяротна і ранены ўкленчыць,
Трох паляўнічых садзіцца ў яго між рагамі.
Скажам, калі б наўздагад я пачаў падбіраць параўнанні
З мордай і каркам ягоным, не падабраў бы.
Злямчаны клін барады памялом вытыркае з-пад сківіц,
З позірку зыраць і злосць, і нянавісць, і ярасць;
Грыва калматая шчыльна да самых лапатак
Шыю ўкрывае, звісаючы ўніз па калені.

*М. Гусоўскі. Пераклад Я. Семяжона.*

- Выпішыце словазлучэнні з прыназоўнікамі. Вызначце, якія адносіны перадаюцца ў словазлучэннях з дапамогай прыназоўнікаў.
- У састаў якога члена сказа ўваходзяць прыназоўнікі?
- Назавіце складаны прыназоўнік.
- Растлумачце пастаноўку коскі ў апошнім радку страфы.

**9.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль, сваё меркаванне абгрунтуйце.

Ноч прыйшла да зямлі на спатканне,
Захад скончыў агнём палаць,

I дубы ў малочным тумане
Веліканамі ціха стаяць.
*У. Караткевіч.*

- Выпішыце прыназоўнікавыя словазлучэнні. Вызначце, якія адносіны выражаюцца ў іх пры дапамозе прыназоўнікаў і формы залежнага слова.

**10.** Прачытайце тэкст. Дайце яму загаловак. Вызначце яго стыль і жанр. Выпішыце з тэксту прыназоўнікавыя словазлучэнні, падзяліўшы іх на дзве групы:
а) з невытворнымі прыназоўнікамі;
б) з вытворнымі прыназоўнікамі.

Янка Купала прыйшоў у Маскву. Прыпыніўся на адным з буйнейшых яе праспектаў Кутузаўскім, паміж дамамі 28 і 30. Ва ўтульным скверы, сярод сёлетніх пасадак, між кветак і кустоў на невысокім пагорку стаіць наш пясняр, задуменна падняўшы вочы да неба. Нібыта шукае там зорку Венеру, якая будзе давеку паказваць яму шлях да роднай Беларусі, нагадваць пра свой край.

Непадалёку ад помніка Янку Купалу, па гэтым жа баку вуліцы, знаходзяцца помнікі Баграціёну, Кутузаву, Панарама Барадзінскай бітвы. А наперадзе мемарыял на Паклоннай гары — велічны комплекс у гонар Вялікай Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Дзякуючы рупнасці нашых вядомых скульптараў бацькі і сына Льва і Сяргея Гумілеўскіх бронзавая скульптура Янкі Купалы будзе нагадваць кожнаму масквічу і госцю Масквы пра нашага слыннага песняра (*А. Бутэвіч. «Звязда»*).

- Раскажыце аб правапісе прыназоўніка *у* і яго варыянта *ва*.

**Творчая работа**

- Ці ведаеце вы, дзе ў Беларусі стаяць помнікі Янку Купалу? Раскажыце пісьмова пра адзін з іх.

## Асаблівасці ўжывання некаторых прыназоўнікаў у беларускай мове

### Як сказаць па-беларуску?

**11.** Запішыце беларускія адпаведнікі да рускіх словазлучэнняў. З увагай стаўцеся да выбару неабходнага прыназоўніка і формы залежнага слова.

Вошел в магазин, стоять у дорожки, спросил у товарища, поехал за покупками, бродить по полям и лугам, ушел за хворостом, приехал из Слуцка, разговаривать по телефону, упал с крыши, смеяться над шутками друзей, собираться за грибами, рассказать о событии, приблизиться к клетке с тигром, поступить в университет, написать отзыв о книге, уехать за клюквой.

### Успомнім

Пры дзеясловах *смяяцца*, *жартаваць*, *дзівіцца*, *цешыцца*, *кпіць*, *насміхацца* назоўнікі і займеннікі ўжываюцца ў форме роднага склону з прыназоўнікам ***з***: *смяяцца з кацяняці*, *цешыцца з дачушкі*, *жартаваць з сябра*, *дзівіцца з яго*.

Пры дзеясловах руху для выражэння мэты дзеяння ўжываецца прыназоўнік ***па*** з формай вінавальнага склону назоўніка або займенніка: *паслаць па доктара*, *заехаць па брата*, *спяшацца па дапамогу*, *схадзіць па іх*.

Калі дзеясловы руху спалучаюцца з назоўнікамі *ягады*, *грыбы* і іх назвамі (*чарніцы*, *суніцы*, *журавіны*, *сыраежкі*, *лісічкі*, *баравікі* і інш.), то ўжываюцца прыназоўнікі ***ў*** або ***па***: *паехаць у маліны*, *збірацца ў ягады*, *ісці па брусніцы*, *ехаць па баравікі*.

Прыназоўніку ***по*** з давальным склонам у рускай мове адпавядае ў беларускай мове прыназоўнік ***па*** з формамі меснага склону назоўніка ці займенніка: *петь по нотам — спяваць па нотах*, *бродить по горам — вандраваць па гарах*, *разговаривать по телефону — размаўляць па тэлефоне*.

**12.** Запішыце тэксты, уставіўшы неабходныя прыназоўнікі або канчаткі залежных слоў.

I. Я сумую ... (радзіма),
... яе (лугі) і (нівы),
... (трыпутнік), што гладзіў
Ногі збітыя мае,
... (укроп) на гародзе,
(рэчкі ціхія і лянівыя)
І ... (сопкая белая бульба),
Што на стол яна дае.

*У. Караткевіч.*

II. ... (пясчаныя дарогі), ... (гразкія дарогі),
... (дарогі), якім канца не відаць...
Зверху хмараў чароды.
Знізу — хвалі разлогаў.
Зверху хвошча вада.
Знізу плешча вада.

*У. Караткевіч.*

III. Я смяяўся ... (казка), чутай змалку:
Нібы ... (пушча) ў нас, ... (азярцо),
Водзіцца дзівосная русалка,
Што людзей чаруе ... (сіўцы).

*К. Цвірка.*

**13.** Запішыце словазлучэнні па-беларуску. Што абазначаюць прыназоўнікі разам з залежнымі словамі?

Стоять у стены, находиться около дворца, встретиться возле речки, бежать вокруг болота;

учиться в университете, гулять по улице, выйти из универмага, отойти от остановки;

не спать до утра, зайти после занятий, вернуться через минуту, встретиться через год.

Падказка: у словазлучэннях абазначаецца напрамак руху, месца, час дзеяння.

**Паслухаем мовазнаўцаў**

Механічна ў творным склоне пачынаем ужываць прыназоўнік *за*: паслаў *за* доктарам; паехаў *за* абсталяваннем, калі тут патрэбен прыназоўнік ***па*** з вінавальным склонам: паслаў па доктара, паехаў па абсталяванне. Не *за чым* і *за кім* паслаць, з'ездзіць, схадзіць, а ***па што*** і ***па каго***. Прызнаюся, што нядаўна я прачытаў у газеце: «Навошта ездзіць за экзотыкай на край свету» і не адразу зразумеў, пра што сказана. Памятаючы, што ***за*** — гэта *следам за кім*, *наўздагон за кім*, я так і зразумеў, што *следам за ёю*. І толькі пасля ўжо, дачытаўшы да канца фразу, дзе сказана, што экзотыкі колькі хочаш і дома, пад бокам, здагадаўся, што гэта ***па яе***. Я не жартую і не прыкідваюся: я прывык за словам бачыць той сэнс, які памятаю з матчынай мовы, з дзяцінства. Гэта яшчэ раз гаворыць толькі пра тое, як небяспечна «папраўляць» мову (*Я. Скрыган*).

***

Сёння, відаць, няма патрэбы абараняць канструкцыю «*багаты на што*»: так шырока яна ўжываецца ў літаратурнай мове. Ну хоць бы:

*Уяўленне, ты на параўнанні багатае* (Р. Барадулін). *Аповесць «Бацька ў калаўроце» — твор, багаты на нечаканую выдумку, у ім шмат вясёлага смеху* (Я. Лецка). *На шчасце лёс быў небагаты* (С. Законнікаў). *Мінулае дзесяцігоддзе было... вельмі багатым на ролі* («Звязда»). *Тут* [*у дзіцячым садзе*] *на адкрыцці дзень багаты, тут самы светлы ў свеце люд* (А. Пісьмянкоў).

Дарэчы, гэта канструкцыя ўжываецца і ў рускай мове: *Богато наше время на космические старты. Нынешний год... богат на литературные юбилеи.*

Наяўнасць сінанімічных словазлучэнняў дае мажлівасць вар'іраваць будову сказа, пазбягаць яго канструктыўнай аднастайнасці. Вось сказ: *Спектакль багаты на добрыя акцёрскія работы* («Звязда»). Але ж гэты сказ мог быць і такі: *Спектакль багаты добрымі акцёрскімі работамі* (А. Каўрус).

***

Дарэчы, пра слова *бок*. І ім мы карыстаемся вельмі прыблізна. Мы пішам: «Ён зірнуў у бок бацькі», «Ён пайшоў у бок сяла», «Мы звярнулі ў бок лесу», «Дарога павярнула ў бок поля», «З боку сенажаці пацягнула ветрам». А ці не лепш будзе вось гэтак: «Ён зірнуў на бацьку», «Ён пайшоў пад сяло» (або на сяло, або ў сяло, гледзячы па сэнсе), «Мы звярнулі пад лес» (або да лесу), «Дарога павярнула ў поле» (або на поле), «Ад сенажаці пацягнула ветрам» (або з-пад сенажаці) (*Я. Скрыган*).

***

Прыназоўнік *для*. Яго мы зрабілі надта ўніверсальным. Пішам: ён сумленна жыў *для* навукі; цяпер вядома, *для* чаго ён збіраў лекавыя травы; не астаецца часу *для* заняткаў; яна стала *для* яго за маці; яна спявае *для* вас; *для* свайго часу гэта было прагрэсіўнай з'явай; я купіў *для* цябе кнігу; купіў бочку *для* капусты; *для* чаго і стрэльба, каб з яе страляць; *для* яго гэта пацеха; *для* чаго гэта патрэбна. Усюды мы абышліся адным толькі *для*. А давайце пагледзімо, ці не лепш было б напісаць, як таго патрабуе сама мова: цяпер вядома, *навошта* ён збіраў лекавыя травы; не астаецца часу *на* занятκі; яна стала *мне* за маці; яна спявае *дзеля* вас; *на* свой час гэта было прагрэсіўнай з'явай; я купіў *табе* кнігу; купіў бочку *пад* (або *на*) капусту; *на* тое і стрэльба, каб з яе страляць; усё робіцца *дзеля* карысці справы; *яму* гэта цяжка; *навошта* гэта патрэбна; *каму* гэта патрэбна. Вунь колькі прастору і лёгкасці стала ў гэтых фразах (*Я. Скрыган*).

**Творчая работа**

**14.** Уявіце, што вам неабходна напісаць абвестку:

а) пра адмену заняткаў гуртка;
б) аб пераносе экскурсіі на іншы час;
в) аб пераносе заняткаў спартыўнай секцыі;
г) пра затрымку вылету самалёта;
д) аб спазненні поезда.

- Якія вытворныя прыназоўнікі вы ўжываеце? Чаму?
- Напішыце абвестку. Растлумачце правапіс прыназоўнікаў.

**Шукаем памылку**

**15.** Ці можна так сказаць? Адрэдагуйце сказы і запішыце іх.

1. Хлопчык сказаў, што маленькія дзеці пайшлі ў напрамку возера.
2. Вы павінны развіваць у сябе пачуццё чалавечай годнасці.
3. Дзякуючы хваробе я прапусціла шмат урокаў.
4. Пяцікласнікі насміхаліся над новенькай вучаніцай.
5. Разумна карыстацца мабільнікам можна толькі адпаведна яго прызначэння.
6. Паўз чыгункі цягнуўся бор.
7. Матэматык Іван Паўлавіч пайшоў у настаўніцкую за журналам.
8. У двух кіламетрах ад школы цячэ невялічкая рэчка.
9. Упэўненасць у свае веды дапамагала мне на алімпіядзе па хіміі.

## Шматпрыназоўнікавасць як вобразна-выяўленчы сродак. Ужыванне прыназоўнікава-іменных канструкцый як сродку падзелу тэксту на сэнсавыя часткі

**Запомніце!**

У вуснай народнай творчасці, мастацкай літаратуры, публіцыстыцы нярэдка выкарыстоўваецца як вобразна-выяўленчы сродак шматразовае ўжыванне той самай прыназоўнікава-іменнай канструкцыі на пачатку радка вершаванага твора ці на пачатку сказаў празаічнага твора (анафара) або ў сярэдзіне сказа, што ўзмацняе эмацыянальнасць твора, узвышае яго тон, кампазіцыйна арганізуе, аб’ядноўвае асобныя радкі, дапамагае больш яскрава перадаць змест тэксту.

Да прыкладу. У адной з песень пачатковага этапу абраду Сёмуха гучаць такія словы.

Пойдзем, дзевачкі,
Ва лугі, лужочкі,
Завіваць вяночкі.
Мы заўём вяночкі
На гады добрыя,
На жыта густое,
На ячмень каласісты,
На авёс расісты,
На грэчку чорную,
На капусту белую.

*Беларуская народная песня.*

**16.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго жанр. Раскажыце, калі гучыць гэты твор. Якія мастацкія сродкі ўжыты ў творы?

А ў суботу проці нядзелі
Заснула Ганначка над кудзеляй.
Сасніўся моладзе дзіўненькі сон:
Наляцела галубоў поўненькі двор,
Каля тых галубоў сіза паванька,
Каля той паваньکі ясен сокал,
Каля таго сокала бочачка віна,
Каля той бочачкі залаты замочак.

— Мамачка родная, разгадай мой сон.
— Дачушка Ганулька, сама разгадаеш:
Галубы — сваты твае,
Сіза пава — твая сваццейка,
Ясен сокал — твой Якубка,
Бочка віна — слёзкі твае,
Залаты замочак — твой вяночак.

- Выпішыце спалучэнні з прыназоўнікамі, вызначце, якія адносіны перадаюцца пры дапамозе іх.

**17.** Прачытайце верш. Да чаго заклікае аўтар? Сфармулюйце асноўную думку верша.

Вясна пяе, і свішча, і шчабеча, —
На паплавах, на нівах, у лясах, —

І ўсюды просьба чутна: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў шчаслівых галасах!»

Вясна гудзе, і зумкае, і крэкча —
На доле, у паветры, на вадзе, —
І ўсюды тая ж просьба: «Чалавеча!
Пачуй сябе ў нас! А то — быць бядзе!»

*Н. Гілевіч.*

- Якія мастацкія сродкі ўжыў аўтар у гэтым творы?

**18.** Прачытайце верш. Вызначце яго асноўную думку. Назавіце вобразна-выяўленчыя сродкі, ужытыя ў гэтым творы.

**Каментар да старой эпітафіі**

Некалі, яшчэ ў малым узросце,
Прачытаў я словы на пагосце:
«Падарожны, стой! Падумай міг:
Ты **яшчэ** ў гасцях, а я **ўжо** дома».
Я тады не зразумеў, вядома,
Гэты верш, мудрэйшы мо з усіх,
Што ў вяках прыдумалі паэты.
Чалавек! Ты госць пад небам гэтым!
Ты ў гасцях — у сонца, у вятрыскі,
У дажджоў, у дрэў і траў зялёных,
У дарог, у птушак і звяроў...
Ты ў гасцях — у сваякоў і блізкіх,
У суседзяў, у калег, знаёмых,
У сваіх паплечнікаў-сяброў...
Ты ў гасцях — у мазалёў і ў поту,
У надзей, у ласкі, у пяшчоты,
У трывог-турбот, у весялосці...
Ты ў гасцях! І да цябе як госця
Свет увесь з увагай і з павагай.
Ад цябе ж ён вымагае мала —
Помніць, што казала калісь маці,
Як цябе з сабой у госці брала:
«Ты паводзься так і так трымайся,

Каб пасля, як пойдзем мы дадому,
Не падумалі пра нас нядобра,
Не было каб ганьбы на людзях...»
Вось і ўсё! Гасцюй, брат! Ты ў гасцях!
Ты — з бульдозерам, з пілою, з плугам,
Ты — з прабіркай, з колбай, з цэнтрыфугай,
Ты — з нейтронам, з лазерам пякельным,
Ты — з пяром, або з разцом, ці з пэндзлем.
Энергічны, сіл і планаў поўны,
Ты ў гасцях і помні гэта! Помні —
Словы маці, што табе сказала,
Як цябе з сабою ў госці брала.

*Н. Гілевіч.*

- Дайце марфалагічную характарыстыку выдзеленых слоў. З якой мэтай яны ўжыты ў вершы?
- Напішыце невялікі водгук на гэты твор.

**19.** Прачытайце. Вызначце тып тэксту. Элементы якіх іншых тыпаў прысутнічаюць у тэксце?

**Таямніцы Лысай гары**

У кожнай краіне шмат таямнічых мясцін. І з кожнай з іх звязана вялікая колькасць легенд і паданняў. Мяне зацікавілі аповеды пра Лысую гару, што знаходзіцца на Міншчыне.

Па-першае, гэта адна з самых высокіх кропак нашай краіны, а па-другое, пра гэта месца расказваюць шмат містычных легенд. Лысая гара размясцілася сярод лесу, які абступіў яе з усіх бакоў. Міжволі задумваешся: можа, яна вырашыла схавацца ад кагосьці? Каля падножжа гары цячэ невялічкая рэчка, а з паўднёвага боку ёсць вёсачка з аднайменнай назвай. На вяршыні Лысай гары расце старое дрэва — вяз, узрост якога больш за чатыры стагоддзі.

Побач з гарой знаходзяцца вядомыя літаратурныя мясціны Беларусі, напрыклад, славутыя Акопы, вёска, звязаная з імем Янкі Купалы. Сярод маляўнічага беларускага пейзажу стаяла хата, дзе жыў сусветна вядомы беларускі пясняр. Сёння на тым месцы толькі падмурак, невялікая

адкрытая альтанка, імправізаваны калодзеж і знакаміты валун, да якога любіў прыходзіць Купала. Тут пясняр ствараў свае неўміручыя творы: «Раскіданае гняздо», «Паўлінка» і шматлікія іншыя шэдэўры.

Недалёка ад Лысай гары, на былой сядзібе Ядвігіна Ш., расце вялізны старажытны дуб, узрост якога аж пяцьсот гадоў. Якраз тут, каля магутнага векапомнага дрэва, сустракаліся Янка Купала і Ядвігін Ш. Тут яны размаўлялі, адпачывалі, дзяліліся творчымі планамі і ідэямі.

Вось такая незвычайная Лысая гара і мясціны вакол яе (*А. Саўчык. «Бярозка»*).

- Выпішыце з тэксту прыназоўнікава-іменныя спалучэнні, якія ўжыты для структурнай арганізацыі тэксту і апісання месца размяшчэння аб'ектаў.
- Вусна перакажыце тэкст.
- Падрыхтуйце і запішыце нататку пра адно са знакамітых месцаў каля вашага паселішча. Мэтанакіравана ўжывайце прыназоўнікавыя словазлучэнні.

**20.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тып. Сваё меркаванне абгрунтуйце. Прыдумайце заканчэнне тэксту і запішыце.

На хутары ў гэты час панаваў спакой і парадак.

Пад хлявом сохлі акуратна складзеныя кастрагі дроў.

Пад акапам Грыцук у белай кашулі выпілоўваў планкі для рамак у вуллі. Ля яго ног ляжаў вялізны кудлаты сабака.

Сярод падворка ля бетоннага калодзежа ў лужыну пчолам была насыпана сечка, і над ёй калясіў цэлы рой. На шчыце свірна быў прымацаваны ветрачок. Пад акном вялікай хаты цвілі вяргіні. Дах з ацынкаванай бляхі блішчаў на сонцы, як з серабра.

У чатырохкутніку паміж домам, свірнам, хлявом і гумном увесь падворак парос сакавітым зялёным дыванам з дробнай мазаікай трыпутніку і рамонку.

У агародзе за плотам цвіў мак, буялі буракі, памідоры, гуркі і тычковая фасоля.

За вогненнай ракой маку пад грушамі і яблынямі стаялі радочкі жоўтых, сініх і зялёных вулляў.

- Выпішыце з тэксту прыназоўнікава-іменныя спалучэнні з прасторавым значэннем. Якая іх роля ў тэксце?

## Кантрольныя пытанні і заданні

1. Што называецца прыназоўнікам?

2. Ад чаго залежыць значэнне, якое выражае назоўнік у словазлучэнні?

3. У чым выяўляецца службовая роля прыназоўнікаў?

4. На якія разрады падзяляюцца прыназоўнікі паводле будовы, паходжання, ужывання і значэння? Якія часціны мовы пераходзяць у прыназоўнікі?

5. Як адрозніць вытворныя прыназоўнікі ад прыслоўяў? Пакажыце гэта графічна.

*Бегаць вакол возера*, *бегаць вакол*.

6. Вызначце значэнні, якія выражаюцца ў словазлучэннях пры дапамозе прыназоўнікаў. Як называецца такі прыназоўнік?

*Крэм ад апёкаў*, *адысці ад станцыі*.

7. Якая функцыя прыназоўнікаў у маўленні? Ці могуць прыназоўнікі служыць для сувязі сказаў у тэксце?

**Правяраем сябе!**

1. З якой мэтай ужываюцца прыназоўнікі ў мове? Адзначце правільныя сцвярджэнні.

а) Для сувязі частак складанага сказа;
б) для сувязі слоў у словазлучэннях;
в) для выражэння дадатковых адценняў значэння асобных слоў;
г) для выражэння адносін паміж словамі ў словазлучэнні;
д) для сувязі дзейніка і выказніка.

2. Вызначце ў сказе ўсе прыназоўнікі. Адгадайце загадку. Адзначце правільны варыянт адказа.

*Без яго няма прычыны свет разумным называць. Ён пачаўся ад Скарыны, з ім нам вечна сябраваць* (М. Пазнякоў).

а) Ім, яго, ён. Кніга;
б) без, ад, з. Друк.

**3.** Вызначце, якія сэнсавыя адносіны выражае прыназоўнік у сказе.

*Птушкі — можа некалькі дзясяткаў — кружылі і кружылі над рэчкай і лугам* (І. Карэнда).

а) Часавыя;
б) аб'ектныя;
в) прасторавыя;
г) колькасныя;
д) спосабу дзеяння.

**4.** Вызначце словазлучэнні, у якіх прыназоўнікі выражаюць азначальныя адносіны.

а) Бярог ад бяды;
б) цень ад хмары;
в) гладзіць па галаве;
д) глядзець на зоркі;
г) туфлі на шпільках.

**5.** У якіх стылях маўлення пераважна ўжываюцца вытворныя прыназоўнікі? Адзначце правільныя адказы.

а) Гутарковы;
б) мастацкі;
в) афіцыйны;
г) навуковы;
д) публіцыстычны.

**6.** Дапоўніце фармулёўку, выбраўшы правільны адказ.

*Паводле будовы прыназоўнікі падзяляюцца на ...*

а) невытворныя і вытворныя;
б) адназоўнікавыя, аддзеяслоўныя і адпрыслоўныя;
в) простыя, складаныя і састаўныя.

**7.** Адзначце прыназоўнікі, якія пішуцца асобна.

а) (На) працягу;
б) (у) бок;
в) (па) між;
г) (з) боку;
д) (на) сустрач.

**8.** Як трэба пісаць слова — разам ці асобна?

*Я дзякую ( за ) тое, што ты ёсць. Была...* (В. Шніп).

**9.** Які прыназоўнік неабходна ўставіць у словазлучэнне? Якую форму слова ўжыць? Запішыце.

а) Пабегчы ... (доктар);
б) смяяцца ... (клоўн);
в) ажаніцца ... (прынцэса);
г) паехаць ... (грыбы);
д) гуляць ... (палі і лугі).

**10.** Выпішыце са сказа прыназоўнік, які адпавядае наступным граматычным прыметам:

вытворны, састаўны, ужыты з родным склонам, уваходзіць у састаў акалічнасці часу.

*На пачатку верасня яны сустрэліся на пасяджэнні літаб'яднання ў «Чырвонай змене»* (В. Шніп).

# ЗЛУЧНІК

## Злучнік як службовая часціна мовы

**Запомніце!**

Злучнік — гэта службовая часціна мовы. Сама назва падказвае, што яго задача — злучаць аднародныя члены сказа (*Праца* ***і*** *сіла горы звернуць* (Прыказка) або часткі складанага сказа (*Люты вады падпусціць,* ***а*** *сакавік падбярэ* (Прыказка), а таксама сказы ў тэксце, часткі тэксту (*Так і пралеталі разам Вераніка і хамячкі, пасябравалі.* ***А*** *ў верасні зноў белыя звяркі вярнуліся ў класны куток жывой прыроды* (Я. Хвалей); злучнік *а* злучае сказы ў тэксце. Злучнікі не змяняюцца і не з'яўляюцца галоўнымі або даданымі членамі сказа.

Паводле стылістычнай афарбоўкі злучнікі падзяляюцца на нейтральныя (*і*, *а*, *але*, *каб*, *хоць*, *пакуль*, *як*), кніжныя (*з прычыны таго што*, *нягледзячы на тое што*), размоўныя (*бо*, *абы*, *дарма што*).

**1.** Прачытайце тэкст. Выпішыце злучнікі. Вызначце, якую сінтаксічную ролю яны выконваюць.

Заканчвалася чвэрць, і неабходна было атэставаць кожнага вучня. У Касмылёвай красавалася адна двойка. Таму Александрына Іванаўна ні на хвіліну не сумнявалася, што трэба выклікаць Касмылёву. Дый Антаніна Фёдараўна, класная, прасіла, каб настаўнікі часцей выклікалі Таню.

— Касмылёва, ідзі адказваць урок... — сказала яшчэ раз Александрына Іванаўна.

Але Таня быццам не чула, нават не зварухнулася. І толькі тады, калі яе штурхнуў у бок Каралёў, які сядзеў побач, паўтарыўшы словы настаўніцы, Таня ўсхапілася (*Я. Хвалей*).

- Назавіце прыслоўе, якое служыць для сувязі сказаў у тэксце, вызначце яго сэнсавы разрад.

**Паслухаем мовазнаўцаў**

Злучнікі адыгрываюць важную ролю ў канструяванні простых або складаных сказаў, арганізацыі з іх звязнага тэксту: *Старасць прыгнула яго крэпкі стан* ***і*** *кінула на твар* ***і*** *на высокі лоб цэлую сетку маршчын.* ***Але,*** *што за дока быў дзед Мікіта ў маладыя гады!* ***І*** *не было ў сяле роўнага яму* (Я. Колас). Многія злучнікі павышаюць эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку змешчанага ў тэксце выказвання, разам з інтанацыяй узмацняюць яго напружанасць, робяць дынамічным або статычным: 1. *Вырас засеў небывалы,* ***ды*** *прыгожы,* ***ды*** *прыўдалы* (Я. Колас). 2. *Усе сталі на вуліцы... Глядзелі...* ***І*** *маўчалі* (М. Гарэцкі).

*Л. Бурак.*

**2.** Прачытайце. Назавіце тэму і асноўную думку верша.
Запішыце тэкст, устаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку.

Заўжды прыгажосць і натхняе і радуе:
то сонцам прал..ецца яна то лі..нямі.
Любуемся мы с..міколернай радугай
і а..чуваем сябе шчаслівымі...
Сем фарбаў — сем радасцяў дорыць прырода
яны н..маўля і дарослага вабяць...
О, як прыгожа суквецце народаў,
дзе тыс..чы радуг і тыс..чы фарбаў!

*М. Федзюковіч.*

- Падкрэсліце злучнікі, ужытыя ў тэксце, вызначце іх сінтаксічную ролю.

- Што надае выказванню ўжыванне злучнікаў у тэксце: дынамічнасць або статычнасць?
- Растлумачце ўмовы пастаноўкі знакаў прыпынку ў тэксце.

**3.** Запішыце прыказкі, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары і знакі прыпынку. Растлумачце сэнс народных выслоўяў.

**1. (У) весну лес адзенецца а (ў) восень (не) вядома дзе падзенецца.**
**2. Не тады сабак кормяць як на пал..ванне ехаць.**
**3. Хутка казка каж..цца ды (не) хутка справа роб..цца.**
**4. Не а..кладвай (на) заўтра тое што можна зрабіць сёння.**
**5. Калі мукі поўна скрыня дык і свін..я гаспадыня.**
**6. Пашануй адзен..е (ў) хаце а яно ц..б.. пашануе (ў) людзях.**
**7. Ч..лавек (б..з) сябра што ежа (б..з) солі.**
**8. (Не) зыч ліха другому каб не давялося сам..му.**
**9. Ці бедны ці багаты абы (ні) к..му (не) вінаваты.**
**10. Пажартава.. во..к (з) канём ды (ў) жмені зубы панёс.**

- Выпішыце злучнікі, вызначце іх сэнсавы разрад і групу. Назавіце злучальнае слова.
- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.

**4.** Прачытайце верш. Які мастацкі прыём ужыты ў творы?
Што злучае злучнік *і* ў гэтым тэксце? Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку.
Якую сэнсава-стылістычную ролю выконвае ў тэксце займеннік **усё**?

Далёкае
 і блізкае,
Высокае
 і нізкае,
Спакойнае
 і тлумнае,
Пяшчотнае
 і грубае,
Нялюбае
 і любае...
Усё гадзінай шараю

Злілося і змяшалася:
І шэрае,
        і зорнае,
І белае,
        і чорнае.
                *А. Пісьмянкоў.*

**Паўторым правілы!**

Коскамі аддзяляюцца аднатыпныя пары аднародных членаў сказа, звязаных паміж сабою злучнікам ***і***. (У сярэдзіне пар коска не ставіцца.)

Напрыклад: *Сосны і вязы, дубы і асіны вакол возера вартай пасталі* (Я. Купала).

Коскай аддзяляюцца адзін ад аднаго аднародныя члены сказа, якія звязваюцца пры дапамозе паўторных злучнікаў ***і — і***, ***ды — ды***, ***то — то***, ***ні — ні***, ***не то — не то***, ***ці — ці*** і інш.

Напрыклад: *Я рад і сонцу, і вясне, і дожджыку* (Я. Пушча).

Двукроп'е ставіцца перад пералічэннем аднародных членаў, калі перад імі ёсць абагульняльнае слова (займеннік, прыслоўе, назоўнік) або словы *напрыклад*, *а іменна*.

Напрыклад: *Усе былі апрануты па-святочнаму: чысценька і прыгожа* (Я. Колас).

**5.** Запішыце сказы. Расстаўце знакі прыпынку.

1. Паплавок то спачне то адплыне Свіцязь дрэмле ў зялёных гаях нібы поўная чаша сіняя малахітавая па краях (*У. Караткевіч*). 2. Згубіў цябе. Куды ж пайсці? Ні адраса ні тэлефона (*К. Цвірка*). 3. Мароз трымаў яшчэ ва ўціску раллю і рэкі і бары жучкоў і вожыка ў нары, што ўсё хаваў у поўсці пыску (*К. Цвірка*). 4. І кураслеп і сон і браткі наўкол збіраюцца ў статкі (*К. Цвірка*). 5. Дайце ж круг і размах мне малодачкі: няхай б'юцца ў пух і прах мае лодачкі! (*К. Цвірка*). 6. Каб ярка свяцілася перлінка-слова каб людзям зіхцела — на ўсе бакі яго шліфавалі як след адмыслова найлепшыя ў свеце тачылы — вякі (*К. Цвірка*).

# Ужыванне злучнікаў як сродку сувязі сказаў і частак у тэксце

**Запомніце!**

У выказваннях злучнік *і* нярэдка выкарыстоўваюцца з функцыянальным значэннем працягу падзей. Злучнік *і*, а таксама злучнік *каб* ужываюцца для арганізацыі канцоўкі тэксту, выражэння вычарпанасці, закончанасці думкі, завершанасці тэксту.

**6.** Прачытайце тэксты. Вызначце ролю злучніка **і** ў пабудове мініяцюр.

І. Хлопчыку пяць гадоў. «Як мужчына мужчыну» — бацька расказаў яму, што такое ў сапраўднасці Дзед Мароз. **І** малы паверыў. Аднак, калі яму мама вярнула Дзеда — сказала, што тата пажартаваў, што Дзед прыходзіць, прыносіць пад ёлачку падарункі — хлопчык быў рады яшчэ больш.

Дзецям патрэбна казка. Яна не разбураецца сапраўднасцю (*Я. Брыль*).

ІІ. І дагэтуль люблю пазіраць у вагоннае акно на тое, як цягнік на паваротах выгінаецца вужакай.

Цяпер вось, раніцай другога дарожнага дня, малая светлая дзяўчынка ўбачыла гэтае дзіва ў акне і закрычала з калідора ў купэ:

— Мама, а нас вязе паравоз!

**І** мы, хто быў у калідоры, засмяяліся. Якое мілае адкрыццё! (*Я. Брыль*).

- Якую ролю ў пабудове тэксту выконвае злучнік *аднак*?
- Назавіце прыслоўі, пры дапамозе якіх паведамляецца пра час дзеяння.
- У ролі якой часціны мовы ўжыты ў сказе другога тэксту назоўнік *вужакай*?
- Падбярыце і запішыце некалькі азначэнняў да назоўніка *купэ*.

**7.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Дакажыце, што тэкст адносіцца да публіцыстычнага стылю. Дайце тэксту загаловак.

Несмяротнаму помніку прыгожага пісьменства — «Слову пра паход Ігаравы» — больш за 800 гадоў. Праз пакаленні захоўвалася яно ў людской памяці, шматразова перапісвалася, ажно пакуль не было ўпершыню выдадзена ў 1800 годзе.

Чым жа на працягу гэтулькіх стагоддзяў яно вабіць да сябе, чым палоніць і зачароўвае? Поклічным водарам вечнасці, сваёй таямнічасцю, невычэрпнасцю, спаконвечнай загадкавасцю. Унікальнай здольнасцю заўсёды быць сучасным. Колькі б і хто ні звяртаўся да яго, кожны адкрые нешта сваё, новае, непаўторна-асабістае.

А што дае «Слова» нашаму сучасніку?

Урок спагадлівай дабрыні, адмаўленне панавання сілы. Ухваляе тое першаснае, на чым трымаецца жыццё — каранёвую повязь са сваім народам. Сцвярджае моц веры і духоўнае ўзвышэнне праз тварэнне дабра.

Спрыяе разуменню ратавальнай мудрасці продкаў. Змушае задумацца: кім быць? Сваім сярод чужых або чужым сярод сваіх? Гаспадаром на бацькоўскай зямлі ці прыхаднем-чужынцам на заваяванай у іншых? Што спавядаць: дужасць розуму ці разумнасць сілы?

Чытайце «Слова», якое ўсім сваім ладам, многімі рэаліямі і гістарычнай напоўненасцю цесна знітавана з беларускай зямлёй. Каб не здрадзіць сабе і сваім караням, сваёй маці і людзям, роднай Айчыне-Бацькаўшчыне (*А. Бутэвіч*).

- Выпішыце з тэксту злучнікі. Вызначце іх разрад і групу паводле значэння і сінтаксічную ролю ў тэксце
- Які злучнік звязвае часткі тэксту? Пры дапамозе якога злучніка выражаецца вычарпанасць, закончанасць думкі, завершанасць тэксту?
- Выпішыце прыслоўі, ужытыя ў выказванні для дакладнай і выразнай перадачы сэнсу.
- Назавіце вытворны, састаўны прыназоўнік, ужыты ў тэксце.

**8.** Прачытайце ўрывак са «Слова аб палку Ігаравым» у перакладзе Р. Барадуліна. Хто яшчэ пераклаў гэты твор XII стагоддзя на беларускую мову?
Вызначце сінтаксічную і сэнсава-стылістычную ролю злучнікаў, ужытых у тэксце.

Тут немцы і венецічы,
тут грэкі і маравы
пяюць славу Святаславу,
каюць князя Ігара,
што набыці, а нямала патапіў
на дне Каялы, ракі палавецкай,
рассыпаў золата рускае.
Тут Ігар-князь перасеў з сядла залатога
ў сядло нявольніцкае.
І ад стогну засмуціліся ў гарадоў забралы,
а весялосць маркота забрала.

**9.** Прачытайце верш. Вызначце яго асноўную думку. Назавіце мастацкія сродкі выразнасці, ужытыя ў творы.

Вызначце сэнсава-стылістычную ролю злучніка, які паўтараецца. Да якога разраду паводле значэння ён адносіцца?

У купальскую ноч загадаю,
Каб была ты заўсёды са мной,
Каб над Богам мне дадзеным краем
Гаспадарылі мір і спакой.
Каб не знаў ён навалаў суровых,
Каб трывогі і беды прайшлі,
Каб жыла наша родная мова
І каб кветкі ў полі цвілі.
Каб пад небам асветлена-сінім,
Як пачатак жыцця і выток,
Ціхай цэркаўкаю Еўфрасінні
Блаславіляў мяне родны куток.

*Н. Гальпяровіч.*

- Вывучыце верш на памяць, запішыце.

**Запомніце!**

**Злучнікі *і*, *а*, *але*, *ды*, *аднак* выкарыстоўваюцца для сувязі супрацьлеглых у сэнсавых адносінах частак тэксту мастацкага, навуковага, публіцыстычнага стыляў.**

**10.** Прачытайце пачатак адной з «казак жыцця» Якуба Коласа. Вызначце, з якой мэтай ужываюцца ў тэксце злучнікі *а*, *але*, *і*.

**Камень**

Такіх прыгожых месцаў, як гэты куток, рэдка дзе можна знайсці. Прынамсі, так думаў даўганосы бусел, які меў тут, на старадрэвіне, пышны палац. А бусел усё ж такі трэцца па свеце, і на яго словы можна мець увагу.

Шумлівая рэчка, цёмны лес, поле, луг і гурт старасвецкіх дубоў, дзе асталяваўся бусел з сям'ёй, выглядалі весела, а часамі і шчасліва і гэтым самым як бы пацвярджалі, што тут і сапраўды не кепска. Але бывалі і такія выпадкі, што ўсе тутэйшыя жыхары крыху сумавалі, крыху гаравалі — без гэтага не абыходзіцца ў жыцці. І хто ведае: мажа, чым часцей наведваюцца да нас нягоды, тым глыбей пачуванне цаны жыцця, тым ясней яго светлыя моманты.

Але самым шчаслівым жыхаром быў тут, вядома, камень — так вырашылі і згадзіліся яго суседзі: рэчка, лес і іншыя. І праўда, якія ні моцныя дубы, а ўсё ж іх матлашылі і сушылі вятры, паліла сонца, цяжэрныя хмары мецілася на іх залатымі стрэламі пякучых маланак, а ў час навальніцы па іх каранях тапталіся людзі.

Таксама рэчка пакутавала ад сушы ў сваіх берагах пад косамі гарачага сонца і агаляла пясчанае дно. Яе чыстае лона не раз заносілася смеццем, гразёю і розным брудам няпрошаных гасцей-ручаёў, што выпікалі з ласкі навальніцы. Пра лес і казаць няма чаго. Ой, колькі разоў даводзілася яму перадрыжаць за долю сваіх сынкоў, калі прыходзіў з бліскучай сякерай на плячах бязлітасны чалавек. Бывалі цяжкія часы і для бусла. Не патрапіш **у пару** вярнуцца з выраю, намерзнешся, стоячы на гняздзе, і духі табе падцягне, бо дзе знойдзеш спажытак у такую сцюжу?

**А каменю што? Кажуць жа — моцны, як камень, і маўклівы, як камень.**

- Знайдзіце сказ, у якім ужыванне прыслоўяў не адпавядае сучаснай граматычнай норме. Адрэдагуйце і запішыце гэты сказ.
- Назавіце прыслоўе, ужытае для сувязі частак складанага сказа.
- Выпішыце прыслоўі. Якую сэнсава-стылістычную ролю яны выконваюць у тэксце?
- Напішыце працяг казкі.

**11.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго стыль, абгрунтуйце сваё меркаванне.
Запішыце тэкст, раскрываючы дужкі і ўстаўляючы прапушчаныя літары. Дастаўце неабходныя знакі прыпынку. Лічэбнікі запішыце словамі.

**Лебедзь-шыпун**

Род в..даплаўных птушак. На т..рыторыі Беларусі лебедзь-шыпун у даўнія часы гн..здаваўся ў вялікай колькасці. Пісьмовыя крыніцы дан..слі звесткі пра тыс..чныя леб..дзіныя чароды на азёрах і балотах Палес..я ў Прыдняпроўі і Беларускім Паазер'і.

Аднак у выніку масавага знішчэння леб..дзяў не стала. Зноў рассяляцца грацы..зны птах у рэспубліцы пачаў з другой паловы мінулага стагоддзя. Ужо тады ў нас гн..здавала 45 пар а пазней папуляцыя налічвала 700 асобін. У 1984 годзе лебедзі загнездавалі ў гара..ской рысе Мінска, каля в..дасховішча Дразды. Тут ап..ратыўна быў створаны заказнік рэспубліканскага значэння «Лебядзіны».

Дзякуючы клопатам вучоных і дз..ржавы была ліквідавана пагроза поўнага знікнення лебедзя-шыпуна ў Беларусі (*Малая дзіцячая Чырвоная кніга*).

- Выпішыце з тэксту злучнік, які звязвае супрацьлеглыя ў сэнсавых адносінах часткі выказвання.
- Знайдзіце і выпішыце прыназоўнікава-іменныя спалучэнні з вытворнымі прыназоўнікамі.
- Вусна падрабязна перакажыце тэкст. Дапоўніце тэкст сваімі ўражаннямі і высновамі.

**12.** Прачытайце тэкст. Назавіце твор, з якога ўзяты гэты ўрывак.

Вызначце, якую сінтаксічную і функцыянальную ролю ў тэксце выконваюць злучнікі *і*, *але*.

Сцяпан — чалавек сур'ёзны, хоць яму ўсяго дванаццаць гадкоў. Толькі часамі прарвецца ў ім маладая, бурлівая натура, і тады Сцёпка, як і ўсе людзі яго веку, выкажа гэтую маладую імкненнасць: прабяжыць па вуліцы так, што аж вецер каля вушэй засвішча. І зробіць яшчэ Сцёпка такія выбрыкі ў паветры, што і артыст другі пазайдросціць.

Але гэта ніколечкі не шкодзіла славе яго сур'ёзнасці.

І яшчэ можна было б адмеціць у ім адну рысачку, якая таксама як бы трошку супярэчыць гэтай сур'ёзнасці.

Справа, бачыце, у тым, што тады, калі Сцёпка віхрыцца па вуліцы, яму кожны раз пападзецца на вочы гэтая Аленка, дачка Андрэева. Стаіць яна каля веснічак свайго дворыка. Ясныя, прыветныя вочкі яе глядзяць на Сцёпку, а на губках свеціцца такая лагодненькая ўсмешка! Бегучы, Сцёпка толькі блісне на яе сваімі шэрымі вачыма, прычым бровы яго ссунуцца грозна, але кінуць ёй якое-небудзь слова няма часу — Сцёпка імчыцца далей. Аленка ж стаіць, праводзіць яго сваімі яснымі вочкамі (*Я. Колас*).

- Выпішыце іншыя злучнікі, ужытыя ў тэксце, вызначце іх сінтаксічную ролю.
- Якія сінонімы ўжыў аўтар да дзеяслова *бегчы*? З якой мэтай?
- Пры дапамозе якіх моўных сродкаў аўтар даў характарыстыку Аленцы і выказаў свае адносіны да яе?

## Шматзлучнікавасць як экспрэсіўны граматычны сродак

**Запомніце!**

Надзвычай экспрэсіўным граматычным сродкам стварэння выразнасці тэкстаў гутарковага, мастацкага, публіцыстычнага стыляў з'яўляецца шматразовы паўтор таго самага злучніка — шматзлучнікавасць (полісіндэтон). Паўторы

надаюць мове твора асаблівую эмацыянальнасць, узнёсласць, узвышаюць тон выказвання, запавольваюць тэмп, робяць яго велічна-спакойным.

**13.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго асноўную думку. Вызначце сэнсава-стылістычную ролю злучніка **і** ў творы.

І глухамань,
і запаведны лес,
духмяныя бруснічныя імшары,
і той мураш,
          што мне ў кішэнь залез,
і спёка
        над бязмежнасцю выжарын;
і ночы салаўіныя ў гаях,
і снег,
і прэсны ці салёны вецер,
і рэха навальнічнае ў гарах,
і крохкае крушынавае веццэ;
і той палац кахання,
                    што ўзвялі
мы дзеля ўзаемнае патрэбы, —
усё-усё пачата на зямлі
ад пацалунку сонечнага неба.

*М. Федзюковіч.*

- Растлумачце ўмовы пастаноўкі коскі і працяжніка ў канцы тэксту.
- Якую сэнсавую ролю выконвае ў тэксце ўжыты і паўтораны займеннік *усё*?
- Падбярыце азначэнні да назоўніка *кішэнь*, вызначце яго род.

**14.** Прачытайце тэкст. Вызначце, пры дапамозе якіх моўных сродкаў аўтар узмацняе ўражанне аб увішнасці і працавітасці сялянскай жанчыны.

Марына ж была росту невялічкага, але быстрая, тут ёсць — тут няма. То туды бяжыць, то туды: і карова, і свінні, і прасці, і ткаць, і агарод, і поле — то гуркі, то жыта, то

бульба, то лён... Ні дня, ні хвіліны вольнай, а ўсё рабілася непрыкметна, як само сабой (*А. Кудравец*).

**15.** Прачытайце тэкст. Вызначце тэму і асноўную думку тэксту. Падбярыце загаловак.

Назавіце мастацкія сродкі выразнасці, ужытыя ў творы. Якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць злучнікі ў гэтым тэксце?

Прырода ўмее гаварыць і ствараць і настрой, і лагоду, толькі трэба ўмець яе слухаць. Здаецца, усё адны і тыя ж сосны з чырвонымі гонкімі стваламі, то падлесак з кустамі арэшніку ці чаромхі, а глядзіш і глядзіш, як мінаецца ён, і кожны раз усё нова, і свежа, і хораша. То мільганула палянка, то прыступіў аж да самай дарогі звінючы бор, і ствалы яго доўга прасвечваюць, перабягаюць і хаваюцца адзін за адзін, нібы хочучы перагнаць цябе і зноў выскачыць і стаць там, наперадзе, перад табою. То пні, паточаныя шашалем, з карою, што валяецца тут жа на доле, і па ёй поўзаюць мурашкі; то малады, радкамі пасаджаны хвойнік, з мяккім, сіваватым колерам ігліцы. То голы, усыпаны шышкамі дол, то параснік траў, верасоў, дзеразы, такі ласкавы, што хочацца пайсці пахадзіць па ім (*Я. Скрыган*).

- Растлумачце пастаноўку знакаў прыпынку ў сказах з дзеепрыметнікамі і дзеепрыметнікавымі зваротамі.
- Складзіце і запішыце невялікую мастацкую замалёўку аб прыгажосці беларускай прыроды. Мэтанакіравана ўжывайце мастацкія сродкі выразнасці, у тым ліку *шматзлучнікавасць*.

**16.** Прачытайце тэкст. Вызначце яго тэму і асноўную думку. Да якога тыпу маўлення вы аднеслі б гэты тэкст. Абгрунтуйце сваё меркаванне. Якія моўныя сродкі выразнасці ўжыў Якуб Колас у гэтым творы?

Што ні кажы, а жыццё, ужо само па сабе, ёсць радасць, вялікае шчасце, бясцэнны дар. Ёсць важныя дзве часціны, з якіх складаецца жыццё і яго глыбокі сэнс і хараство — чалавек і прырода. Бо ніколі не страціць для нас цікавасці чалавек, бо праяўленне яго розуму бязмежна, бо дарогі яго не вызначаны, бо формы яго жыцця і яго адносін да іншых людзей

бясконца разнастайныя, канчаткова не выяўлены і ніколі не могуць стаць канчатковымі. А прырода! Колькі вялікага задавальнення дае нам яна! Бо прырода — найцікавейшая кніга, якая разгорнута прад вачамі кожнага з нас. Чытаць гэту кнігу, умець адгадаць яе мнагалучныя напісы — хіба ж гэта не ёсць шчасце? Адно толькі шкада, што наша жыццё несузмерна малое для таго, каб начытацца гэтай кнігі (*Я. Колас*).

- Падрыхтуйце выказванне-разважанне на адну з тэм: «Жыццё — бясцэнны дар» або «Прырода — найцікавейшая кніга». Ужывайце ў тэксце вядомыя вам прыёмы і сродкі стварэння дакладнасці і выразнасці тэксту.

### Кантрольныя пытанні і заданні

1. Чым адрозніваюцца злучнікі ад прыназоўнікаў?
2. Якія злучнікі ўжываюцца ў тэксце:

   а) незалежна ад стылю маўлення;
   б) пераважна ў кніжных стылях;
   в) у гутарковым стылі?

3. Як называецца мастацкі прыём, калі той самы злучнік паўтараецца ў тэксце некалькі разоў?
4. Адкажыце на жартоўныя пытанні.

   Што знаходзіцца паміж тратуарам і дарогай?
   Назва якога дрэва складаецца з двух злучнікаў?
   Назва якой часткі цела складаецца з двух злучнікаў?
   А і Б сядзелі на трубе. А зляцела, Б прапала, што засталося на трубе?

5. Якія злучнікі выкарыстоўваюцца для сувязі супрацьлеглых паводле сэнсу частак?

### Правяраем сябе!

1. З якой мэтай ужываюцца злучнікі ў мове? Адзначце правільныя адказы.

   а) Звязваюць аднародныя члены сказа і часткі складанага сказа;
   б) звязваюць словы ў словазлучэнні;

в) звязваюць сказы і часткі тэксту;

г) паказваюць на адносіны паміж аднароднымі членамі сказа, часткамі складанага сказа, сказамі і часткамі тэксту;

д) указваюць на прадметы, прыметы і дзеянні.

**2.** Як трэба закончыць фармулёўку? Адзначце правільны адказ.

Паводле ўжывання злучнікі падзяляюцца на ...

а) Простыя і састаўныя;

б) адзіночныя, паўторныя і парныя;

в) злучальныя і падпарадкавальныя.

**3.** Адзначце падпарадкавальныя злучнікі.

а) То — то, ці — ці;

б) пакуль, таму што;

в) а, але, ды;

г) калі, абы, раз;

д) не толькі — але і.

**4.** Адзначце сказы, у якіх злучнікі ўдзельнічаюць у афармленні ўступальных адносін.

а) Хоць, вядома, няпроста быць заўсёды ашчадным, найвялікшая просьба: не аглухні, нашчадак! (*В. Стрыжак*).

б) Ноч напаўзла, як чорная навала, ды небакрай гарыць яшчэ зарой (*В. Гадулька*).

в) Красавік яшчэ не надышоў, і ў сівой смузе стаяць бярозы (*В. Гадулька*).

г) Калі мяне не будзе доўга, мой родны дом, заві мяне, пусці слупом высока з коміна дым (*М. Купрэеў*).

д) Хай нам сто разоў не пашчасціла, хай чарнобыльскі ў сэрцах жах, хай разлічана, што ў нядолі нам жыць на гэтай зямлі сто год — у вяках нікім неадолены немагчыма скарыць народ (*В. Гадулька*).

**5.** Які злучнік трэба ўжыць у сказе? Выпішыце яго.

а) Ніхто не трывожыць красуняў лясных (то, ні) спёка, (то, ні) ветру парывы (*Ю. Свірка*).

б) Гады мінаюць, (і, а) мне дагэтуль за ўсіх балюча (*У. Паўлаш*).

в) Хутка снегам лісцё замяцецца (і, але) пад лёдам прыціхне вада (*В. Шніп*).

г) Б'юць ручаі па каляінах — (ці, або) дарога, (ці, або) рака? (*В. Зуёнак*).

д) Навокал ціха: не чуваць (не, ні) ветру, (не, ні) шуму, (не, ні) гоману трывожнага дня (*Я. Колас*).

**6.** Адзначце сказ, у якім выдзеленыя словы з'яўляюцца злучнікамі і пішуцца разам.

а) Мала хто ўжо застаўся з аднавяскоўцаў, і я люблю іх (за) тое, што жывуць (*Т. Супрановіч*).

б) (За) тое вочы ў сонца — нібы крык, яны ляцяць, як гукі роднай мовы (*В. Зуёнак*).

**7.** Адзначце сказы, у якіх трэба ўставіць дзве коскі.

а) Ці куля ці дзяцел? Стукнула тупа (*Р. Барадулін*).

б) Вядома што ў бежанкі ні хлеба ні мешанкі (*Р. Барадулін*).

в) Таго не ведаюць аблокі самі ці ападуць дажджыстымі абломкамі ці праплывуць рагатымі ласямі (*Р. Барадулін*).

г) Род праходзіць і прыходзіць род а зямлі трываліцца навекі (*Р. Барадулін*).

д) Усё падуладнае страху — і меч і серп і кассё (*Р. Барадулін*).

**8.** Адзначце сказы, у якіх дапушчаны пунктуацыйныя памылкі.

а) Ляціць і ляціць шар зямны... (*В. Зуёнак*).

б) Хлапчук маленькі нацянькі бяжыць праз поплаў ад ракі, і маму радасна гукае (*В. Зуёнак*).

в) Сінее інею іґліца, імгліцца сонечны скрылёк, ды ў зябкім голасе сініцы трапеча сіні васілёк (*В. Зуёнак*).

г) Не павярнуць з былога ні лёсаў, ні дарог (*В. Зуёнак*).

д) Праз паўгадзіны я ўжо не чуў ні рук, ні ног (*М. Пянкрат*).

**9.** Колькі косак трэба паставіць у сказе? Адзначце правільны варыянт.

*Мы смяёмся і плачам носім бухты і бітвы а планета нябачна мчыць сваёю арбітай* (К. Цвірка).

а) Адну;
б) дзве;
в) тры;
г) чатыры;
д) ніводнай.

**10.** Вызначце, якую сэнсава-стылістычную ролю выконваюць злучнікі ў наступным тэксце.

Айчына мая залатая,
Як сонца, што па-над зямлёй,
Як храм, што ў душы не знікае
І будзе заўсёды са мной,
Як гэтае неба над намі,
Як гэта над намі зямля,
Дзе плачу тваімі слязамі,
Айчына, Айчына мая,
Па тым, што не вернеш ніколі,
Па тых, што пад травамі ў полі,
Дзе сонца плыве, не сплывае,
Дзе сумны і радасны я,
Бо неба, як вечнасць зямная,
Як попел пад намі зямля,
Айчына мая залатая,
Айчына святая мая...

*В. Шніп.*

а) Пры дапамозе злучніка *як* уводзяцца параўнальныя звароты;

б) шматразовы паўтор злучніка *як* з'яўляецца сродкам выражэння пачуццяў аўтара;

в) дапамагаюць дакладна перадаць сэнс выказвання;

г) пры дапамозе паўтору злучніка *як* перадаецца ўзнёслае пачуццё лірычнага героя да сваёй Радзімы.

# ЧАСЦІЦА

## Спецыфіка часціцы як службовай часціны мовы. Роля часціц у маўленні

**Успомнім**

**1.** Дапоўніце выказванне пра часціцу.

Часціца — ________________________ часціна мовы, якая надае дадатковыя ___________________________ або служыць для ўтварэння ________________________________________.

**2.** Вызначце дадатковыя сэнсавыя адценні часціц.

1. Прыйшоў якраз перад пачаткам сходу.
2. Пачуўся ледзь улоўны гук.
3. Заснула яна толькі пад раніцу.
4. Вось гэты дом.
5. Мне патрэбна бачыць іменна Міхася.
6. Вунь відаць паляна.
7. Хоць бы ты адзін раз паказаўся на вочы.
8. Лес падыходзіў амаль да самай вёскі.

**3.** Спішыце, устаўляючы прапушчаныя літары. Вызначце значэнне часціц.

1. Размову вялі галоўным чынам падлоўчы з настаўнікам, а ўсе іншыя слухалі і тол..кі зр..дку ўстаўлялі сва.. словы (*Я. Колас*). 2. Родная прырода жыве ў кожнай кні..е Петруся Броўкі, амаль у кожным яго вершы (*П. Панчанка*). 3. Хай свята дружбы лепшым святам будзе, хай векам дружбы наш завецца век... (*С. Грахоўскі*). 4. Прысеў наш Яська, закруціўся! Ды як пайшоў, ды як пусціўся! (*Я. Колас*). 5. Калі стамлюс.. некалі праз меру, адчуць бы мне па..трымку рук тваіх (*А. Пысін*). 6. У Карэліцкім раёне, што на Грод..еншчыне, якраз у тых мясцінах, дзе знаходзіцца вёска Рудня, геолагі зна..шлі жалезную руду (*М. Шыманскі*).

**4.** Прачытайце верш, выбіраючы з дужак патрэбны варыянт часціцы. Вызначце асноўную думку верша. Якую ролю ў ім выконваюць формаўтваральныя часціцы?
Выпішыце радкі з формаўтваральнымі часціцамі, растлумачце іх напісанне.

**Чалавек**

Калі (б, бы) заўсёды прабачэння
Прасіў у ручайкоў і рэк,
Што іх змяняецца цячэнне,
Ён быў (б, бы) хілым, чалавек.

Калі (б, бы) не плавіў ён жалеза,
На рэках не сплаўляў плацін, —
Далёка быў (б, бы) ад прагрэсу
Ён, пушчы сын і поля сын.

Калі (б, бы) не адпускаў ён сына
Вучыцца мудрасці людской, —
Не бачыць (б, бы) тых далячыняў,
Што сёння ззяюць сінявой.

Калі (б, бы) ён любаваўся борам,
Схіліўся перад ім адным,
У неба ўзняўся (б, бы) ён не скора,
Здзічэў (б, бы) у лесе векавым.

Калі (б, бы) сядзеў ён ля балота
Драмаў пад шапаценне траў, —
І сёння вышыню палёту
Па соснах (б, бы) і вызначаў.

*Ю. Свірка.*

**Параўнаем!**

**5.** Прачытайце тэкст. Вызначце ролю часціц у ім. Параўнайце тэкст з часціцамі і без іх.

Як прыемна прайсціся аднаму па дарозе і ў добрым настроі! Колькі перадумаеш усяго, як хораша памарыш, паспрачаешся са сваімі нябачнымі праціўнікамі! А колькі варыянтаў новай рэчы — я маю на ўвазе пісьменніка — можа

з’явіцца ў выніку такога роздуму! Ніхто табе не перашкаджае: ты можаш размаўляць са сваімі героямі, гаварыць за іх, прыслухоўвацца да іх галасоў, спяваць, не маючы слыху, складаць вершы, не маючы таленту. Словам, можаш рабіць, што захочаш. У такім свеце быў Пятро (*І. Шамякін*).

**6.** Прачытайце тэкст, дайце яму загаловак, які перадаваў бы асноўную думку тэксту.
Спішыце другі абзац тэксту, падкрэсліце часціцы, вызначце іх ролю ў тэксце.

З ляснічым Уладзімірам Ведзьгуном, пажылым, не дужа гаваркім чалавекам, мы сустрэліся ў глыбіні пушчы, ля ціхай крынічкі з чыстай гаючай вадой. Уладзімір Гаўрылавіч папраўляў вакол яе агароджу, час ад часу любаваўся, як бруіўся сцюдзёны струмень з зямлі. Спыніўшыся на хвіліну, ён прапанаваў напіцца.

— Крынічка б’е з-пад зямлі, і вада ў ёй не замярзае. А летам такая халодная, аж зубы сцінае. Яна наталяе смагу, надае сілы і гоіць нават раны. Паглядзіце, колькі слядоў наўкола! Сюды, да крынічкі, прыходзіць і прылятае ўсё лясное насельніцтва: ласі і ваўкі, лісы і зайцы, дзікі і алені, рысі і дзікія козы, курапаткі і ястрабы, цецерукі і каршуны, глушцы і дробнае птаства. Ніхто нікога не чапае. Тут нібы дзейнічае закон дружбы ў імя захавання жыцця (*Д. Слаўковіч*).

**7.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі.

1. О Беларусь — мой родны край, мой дзень народзін — Першамай, радзіма любая мая, дзе жыць хацеў (б, бы) вечна я! (*А. Лойка*). 2. Удзень крыху пасвятлела, паднялася вышэй каламутная шэрань, але вецер пёк холадам, усё гэтак (жа) калюча (*А. Жук*). 3. Цішка хацеў хутчэй расказаць сябрам пра ўсё пачутае ад дзядзькі Трахіма, каб усе ведалі, што ўсё (такі) была яго праўда (*А. Пальчэўскі*). 4. Хоць (б, бы) мне па жменьцы сонца, я (б, бы) сыпнуў туды, дзе цёмна (*П. Броўка*). 5. Мы, далёка пакінуўшы за сабой вясну свайго жыцця, усё (ж) такі любоўна глядзім на нашу маладосць (*Я. Колас*). 6. Антось доўга маўчаў, а потым (такі) сказаў

праўду (*Я. Колас*). 7. Калі ўрэшце (такі) адчыніліся дзверы вагона, што стаў як (раз) насупраць, ён адразу (ж) згледзеў Соню і пазнаў (*Г. Далідовіч*).

## Ужыванне часціц *не*, *ні*

**8.** Прачытайце схему, устаўце замест пропускаў неабходную часціцу (*не* ці *ні*). На аснове прыведзенага матэрыялу падрыхтуйце выказванне пра тое, як трэба адрозніваць часціцы *не* і *ні*. Дапоўніце адказ прыкладамі.

| НЕ<br>адмаўленне ↓ | НІ<br>узмацненне ↓ |
|---|---|
| Каб праверыць, ***не*** ці ***ні*** трэба пісаць, апусці часціцу. | |
| Калі сэнс сказа змяніўся на супрацьлеглы, пішы ___. | Калі асноўны сэнс сказа не змяніўся, пішы ___. |
| Але | |
| ___ можа мець значэнне ўзмацнення:<br>б) у сказах пытальна-клічнага тыпу | ___ можа мець значэнне адмаўлення ў сказах без дзейніка: |

**9.** Прачытайце тэкст. Растлумачце, з якім значэннем (адмоўным ці сцвярджальным) ужываецца ў сказах часціца *не*.

Красу птушынага голасу я ведаў, перш за ўсё, ад жаваранка і шпака. Не лічачы, вядома, спевакоў ледзь не хатніх — пеўня ці ластаўку, або выпадковых — шчыгла ці чачотку, што не табе, дык суседнім хлапчукам траплялі часамі ў клетку.

Жаваранак і шпак, спяваючы, не хаваліся.

Першага мы змалку бачылі не раз. На зямлі, калі ён — недасягальна мілы, шэранькі — уподбежку шмыгаў па руні, яшчэ не могучы ў ёй схавацца; над зямлёй, калі ён уздымаўся над калоссем — ужо налітым і яшчэ ў коласе —

адразу са срэбраным звонам; у небе, дзе ён бясконца вісеў над табою, бясконца званіў, як вясёлая ручаіна, усё адно і тое ж, і ўсё такое новае, такое шчырае!..

Другі спявак — бліскуча-чорны, гарэзлівы шпачок — наогул нікуды, як быццам, не адлучаўся. Калі не на кіёчку перад акенцам шпакоўні, дык на галінцы дае свой штодзённы, з ранняга ранку да позняга вечара, таксама як і жаваранкаў, канцэрт. І з перапевамі, і сваё, і з кепікамі ўсякімі, з зачэпным посвістам, і ад сапраўднай радасці, з поўнай сардэчнай аддачай (*Я. Брыль*).

**10.** Прачытайце сказы, вызначце ў іх значэнне часціц *не* і *ні*.

1. Дзік не пераборлівы: есць усё, што яму часам кінеш на асфальт, але ж есці пачынае не адразу, як бы саромеецца браць на людзях міласціну (*Г. Марчук*). 2. Галчанё ўзлягцела на стол, прайшлося па ім. Ні газета, ні попельніца яго не зацікавіла (*А. Кудравец*). 3. Сытыя птушкі не баяцца ні моцнага марозу, ні халоднага ветру (*З. Бяспалы*). 4. Куды ні кінь вокам, на ўсім бачыцца след восені (*Я. Колас*). 5. Як бы мы ні ўтойвалі сваё ўлюбёнае месца, маці нашыя ўсё роўна ведалі пра яго (*Б. Пятровіч*). 6. І нідзе ні душы. Толькі светлы палетак і пацямнелая далячынь, як з пясчанага берага глядзіш на цёмнае мора (*А. Жук*). 7. І сёння мы не можам не памятаць гэтага, не раіцца з тымі, хто жыў да нас (*Г. Бураўкін*). 8. На траве, куды ні глянь, бурштынам зіхацяць кроплі расы (*Я. Крамко*). 9. Зімою я з нецярпеннем чакаў вясны, уяўляў, як паганю статак у лес і нікога не буду баяцца — ні ваўкоў, ні зладзеяў (*І. Шамякін*).

**11.** Выпішыце сказы, у якіх часціца *не* ўжываецца са сцвярджальным значэннем.

1. Вочы ў Дзіка злыя, голас рэзкі, але не пісклявы (*Г. Марчук*). 2. Яна думала (да чаго толькі не дадумаецца ў доўгія, бясконцыя ночы маці!), калі прыедзе сюды, дык абавязкова знойдзе сляды свайго сына (*Б. Сачанка*). 3. Тулячыся адно да аднаго, ластавяняты ледзь не валіліся з дроту (*В. Вітка*). 4. Нават ворагі не маглі не дзівіцца мужнасці і гераізму абаронцаў крэпасці (*В. Вольскі*). 5 Хто не ведае,

як б'ецца сэрца, як сціскаецца яно ад хвалявання, калі праз шмат гадоў раптам убачыш мясціны, з якімі звязана тваё жыццё (*А. Зіњкевіч*). 6. Не магу не ўспомніць адзін выпадак (*Д. Бічэль-Загнетава*).

**12.** Выпішыце сказы, у якіх часціца *ні* ўжываецца для ўзмацнення сцвярджэння.

1. Дача стаяла пры саменькім сасновым лесе, якому не было ні канца ні краю (*А. Рыбак*). 2. Сюды больш не прыляталі ні сарокі, ні вароны, бо ім не было чым пажывіцца (*З. Бяспалы*). 3. У які бок ні пойдзеш, усё гамоніць з табою (*П. Броўка*). 4. Прыйшло лета. Куды ні кінь — усюды зелена, усё расце, наліваецца (*Я. Колас*). 5. Дзе б я ні быў, куды б ні закінуў мяне лёс, сэрца заўсёды рвецца дамоў, у родную вёску (*В. Дайліда*). 6. Я ні разу, ні ў дзяцінстве, ні ў юнацтве, ні пазней, у дарослыя гады, — словам, ні разу за ўсё жыццё не чуў спеву салаўя (*Ю. Алеша*).

**13.** Запішыце сказы, выбраўшы з прыведзеных у дужках патрэбную часціцу. Растлумачце значэнне, ужыванне і правапіс часціцы *ні*.

1. Якімі б шляхамі (ні, не) спасцігалі вышынь невядомых — (ні, не) выракаюцца сцежак дадому (*В. Вітка*). 2. Калі па дарогах (не, ні) ходзяць, яны зарастаюць, перастаюць быць дарогамі (*Б. Сачанка*). 3. З той пары Васька як скрозь зямлю праваліўся — (не, ні) слыху (не, ні) дыху (*В. Блакіт*). 4. Куды (не, ні) кінь вокам, на ўсім бачыцца след восені (*Я. Колас*). 5. (Не, ні) трывогі, (не, ні) напружанай прыцішанасці або нервовасці ён (не, ні) адчуў (*В. Хомчанка*). 6. Чорнае белым (не, ні) стане (Прыказка). 7. Цікавы і вясёлы час, калі няма яшчэ (не, ні) цеплыні, (не, ні) сонца, але прырода ўжо адчувае іх подых і цягнецца ім насустрач (*А. Чарнышэвіч*). 8. Дзе б я (не, ні) быў, якія б цуды (не, ні) здзіўлялі, перад маімі вачыма заўсёды ззяла прамяністае святло майго роднага мястэчка, дзе жылі бацькі і бацькі маіх бацькоў... (*М. Федаровіч*). 9. Ціха ўсюды. Вецер (не, ні) скалыхне (не, ні) аднаго лісціка, (не, ні) адной травінкі. Ласкавае неба пазірае на зямлю; нідзе (не, ні) хмурынкі (*Я. Колас*).

## Правапіс *не* (*ня*), *ні* з рознымі часцінамі мовы

### Паведамленне на лінгвістычную тэму

**14.** Выкарыстоўваючы прыведзеныя прыклады, раскажыце пра напісанне *не* (*ня*) з рознымі часцінамі мовы.

I. 1) Непакоіцца, нездаровіцца; няўмека, нястача; непазбежны, няўрымслівы; няйначай, неўзабаве;

2) нецікавы, няласкавы, неспакойна, нявесела, няпраўда;

3) нявыпраўленая памылка, недапітае малако, нечапаныя рэчы; няскошаная трава;

4) нехта, некалі, некаму, нешта, недзе, неяк, нейкі;

5) недабор, недаробка, недаацаніць, недасол.

II. 1) Не чытаў, не падумаў бы, не зрабіўшы;

2) заданне не выканана, падлога не падмецена, сшыткі не правераны, сон не разгаданы;

3) не разгаданая да канца тайна, яшчэ не закончаны эскіз, не зарослая травой сцежка;

4) не трэба, не павінен, не абавязаны, не варта, не супраць;

5) нікому не знаёмы чалавек, зусім не страшны сон, амаль не чутныя словы, нікольні не цяжкая задача.

**15.** Растлумачце правапіс *не* (*ня*), *ні* з рознымі часцінамі мовы.

1. За вялікім, на ўсю сцяну, гумном у густой жаўцізне стаяў кашлаты, таксама на ўсё акно клён, і лісце нячутна сыпалася з яго (*В. Карамазаў*). 2. Ён прыязджае да нас заўсёды неяк нечакана — па дарозе (*Я. Каршукоў*). 3. Што ўвогуле нейкія нязначныя недахопы ў знешнасці чалавека, калі ён мае столькі яўных пераваг! (*Я. Каршукоў*). 4. Але сябрукі і не думалі разыходзіцца (*Я. Каршукоў*). 5. У будні дзень электрычка была паўпустою. На прыпынках амаль ніхто не выходзіў і ніхто не заходзіў (*Б. Пятровіч*). 6. У хаце прыемны халадок, нейкая незвычайная цішыня (*Я. Каршукоў*). 7. І настрой рабіўся лагодны-лагодны, забываліся ўсе непрыемнасці, усе турботы жыцця (*І. Шамякін*). 8. Хмары апускаюцца ўсё ніжэй, ледзь не чапляючыся за высокі гонтавы

дах новай хаты Пашкевічаў на ўскраіне Старога Двара (*В. Коўтун*). 9. Тут, паміж каранёў разложыстых дрэў, выбівалася невялікая рачулка (*Я. Зазека*). 10. Лодка набліжалася да месца, дзе кіпела не затуленае ад ветру мора (*І. Мележ*).

**16.** Запішыце выразы разам ці асобна.

Ні (ў) кога (не) пытаючыся;
(не) прачытаў кнігі;
(не) дапушчальная памылка;
адказваць (не) ўпапад;
(не) прагрэтая сонцам зямля;
(не) дзе прагрымеў гром;
(ні) воднага воблачка на небе;
(ні) дзе (не) атрымаў дапамогі;
(не) па-зімоваму цёпла;
(не) ахайна падпісаны сшытак;
(не) шырокая, а хутчэй вузкая канава;
зусім (не) патрэбныя клопаты;
(ні) да чога не прыводзіць.

**17.** Запішыце выразы, выбіраючы з дужак *не* ці *ні*.

1. Жыццё пражыць — (не, ні) поле перайсці. 2. За што (не, ні) бярэцца — (не, ні) што (не, ні) ўдаецца. 3. (Не, ні) хавайся ад праўды. 4. Майстрам (не, ні) колі (не, ні) хто (не, ні) нараджаецца. 5. (Не, ні) вядомая дарога на канцы языка. 6. (Не, ні) памыляецца той, хто (не, ні) чога (не, ні) робіць. 7. Як ваўка (не, ні) кармі — ён у лес глядзіць. 8. Як ваду (не, ні) гатуй — усё адно вада будзе.

**18.** Спішыце сказы, раскрываючы дужкі. Растлумачце правапіс *не* (*ня*) з дзеепрыметнікамі.

1. «(Не) спраўджанае дагэтуль жаданне...» — падумаў я і вырашыў, што кіну ўсе справы, заўтра ж сяду ў электрычку і паеду ў родную вёску, паеду дадому, паеду... у сваё дзяцінства (*Б. Пятровіч*). 2. Але найбольш гульняў каля дзічкі было ў той кароткі час, калі зжыналі жыта і па ўсім полі стаялі копы саломы, яшчэ (не) сцягнутыя ў сцірты, а само поле (не) было ўзарана (*Б. Пятровіч*). 3. Вось поле —

убранае, але яшчэ (не) ўзаранае, шэра-жоўтае (*Б. Пятровіч*). 4. Завіруха тым часам сціхла. Па (не) кранутым снезе лыжню пракладваў настаўнік, за ім цягнуўся доўгі ланцужок вучняў (*В. Хомчанка*). 5. Прыгожая была гэта вельмі жыццёвая, натуральная прастата, гэтая яшчэ ўсё (не) растрачаная сіла, якую (не) высушылі і (не) прыглушылі дзевяць дзясяткаў больш катаржных, чым радасных гадоў (*Я. Брыль*). 6. Лёгка і мякка слізгаюць палазы, пакідаючы за сабой на (не) кранутай белі дзве раўнюткія паласы (*М. Машара*).

**Каменціраванае спісванне**

**19.** Спішыце, раскрываючы дужкі. Пракаменціруйце правапіс *не* (*ня*), *ні* разам ці асобна.

Груша памірала... А колькі раней радзіла на ёй ігруш — ці (не, ні) паўвёскі прыходзіла ўвосень сюды з кашалямі і мяшкамі. Мы залазілі ў самы вільчык і страсалі жоўценькія грушкі. Якія смачныя яны былі! А гнілкі! (Не, ні) каштавалі мы тады яшчэ (не, ні) бананаў, (не, ні) апельсінаў, і тыя дзічкі-гнілкі былі для нас найсмачнейшым «фруктам». Мне захацелася цяпер знайсці грушку, але (не, ні) на доле, (не, ні) на галінах (не, ні) было відаць ніводнай (*Б. Пятровіч*).

**Выбарачнае спісванне**

**20.** Выпішыце сказы, у якіх *не* пішацца з рознымі часцінамі мовы асобна.

1. Гэта было (не) цяжка: дзяцел сядзеў на дрэве і выстукваў аднастайныя гукі, нібы тэлеграфіст перадаваў тэлеграму (*Я. Колас*). 2. Прабіўшыся з зямлі, адчуўшы волю, вада супакойвалася, ды (не) спыняла свайго разгону. (Не) колькі метраў яна бегла вузкім раўчуком і ўлівалася ў безыменную рэчку (*В. Шымук*). 3. Пакрысе (не) густая летняя цемната рабілася прыцемкам, рэдзенькім, светлым (*А. Жук*). 4. (Не) даляцеўшы да Нёмана, буслы селі на лугавым грудку (*Я. Крамко*). 5. Шышак вакол безліч, а спадчыны сасна (не) пакінула. (Не) патрэсканыя шышкі, сарваныя ветрам,

падаючы на дарогу, заціраюцца ў пясок (*І. Навуменка*). 6. Калодзеж быў (не) глыбокі, дагледжаны, з пясчаным дном (*В. Хліманаў*). 7. Вада такая цёплая, празрыстая. Так весела, так добра плёхаць па ёй босымі нагамі, яшчэ (не) паколатымі ржышчам, так цікава спыніцца ў гэтай незвычайнай лужыне, заціхнуць і глядзець... (*Я. Брыль*). 8. Над сінявата-мяккімі стрэхамі завіс яшчэ (не) змерклы месяц, звонам пустых вёдраў пачаўся новы дзень (*В. Адамчык*). 9. І дзецям (не) трэба было далёка хадзіць па ліст, якім высцілалі под печы, калі пяклі хлеб (*А. Жук*).

**21.** Запішыце фразеалагізмы, устаўляючы прапушчаныя літары.

Н.. свет н.. зара, н.. за што н.. пра што, канца краю н.. відаць, н.. лыкам шыты, з галавы н.. выходзіць, н.. за горамі, н.. браць да галавы, н.. з рукі.

**22.** Спішыце тэкст (на выбар), уставіўшы замест кропак не (ня) ці ні.

I. Мяцеліца гуляла трэці дзень. Выла, дзьмула снег, накруціла харомы, ... табе кроку ступіць, ... табе нагу смела паставіць. Вышэй ... толькі платоў, але і ... высокіх стрэх белыя падушкі харомаў, да калодзежа ... дабярэшся. Ды што да калодзежа — дзвярэй з сянец ... адчыніць, а адчыніш — ... куды ... ткнешся. Пакапалі людзі тунэлі ды ходзяць імі да хлява, да суседа ці да таго ж калодзежа (*А. Казлоў*).

II. Янка і ... думае прасіць прабачэння. Лепей пойдзе зараз да дзеда, ... марудзячы, хоць ужо вечарэе і наперадзе ноч. Яму зараз усё роўна. Янка ... заўважна, ціха, каб ... рыпнулі ... дзверы, ... маснічыны, шмыгнуў на вуліцу... Дарогу ён ведае. Калі яшчэ ... было гэтай Кацькі. Янка з мамай і татам ездзілі ў вёску да дзеда (*Л. Прокша*).

**23.** Спішыце тэкст, ракрыўшы дужкі. Вызначце асноўную думку тэксту. Якім сказам з тэксту можна яе выказаць?

І сапраўды, у кожнага з нас ёсць свой Лермантаў. У кожнага з нас жыве (не) паўторнае пачуццё, нават (па) дзіцячы падсвядома раўнівае: а я люблю яго больш за ўсіх!..

Каму (не, ні) памагаў (не, ні) сумаваць у бара..ьбе яго (не) параўнаны «Ветразь»! У горкія хвіліны каму (не, ні) рабі-

лася ля..чэй, як толькі дакранешся душою да болю ягонага — да песні пра зоркі над ціхай з..млёй, над крамяністым шляхам!.. Каму з нас, літаратараў, (не, ні) даводзілася ў пачатку дарогі да сцішнаты шчаслівa прав..рацъ самога с..бе на суровых радках: «Не верь не верь себе, мечтатель молодой...» Чыё с..рца, няхай с..бе і стомленае ад бара..ьбы і працы, (не, ні) здрыганецца ад радаснага адчування аба-вя..ку пры гуках вечавога голасу яго «Паэта»!..

Я маю шчасце быць мален..кім, сціплым све..кам шчырай любові да в..лікага сына Расіі, той любові, якою жыве да яго і да яе мой (не) зменны ў пачуццях беларускі наро.. (*Я. Брыль*).

# ВЫКЛІЧНІК

## Спецыфіка выклічніка як асобай часціны мовы

**Успомнім**

**1.** Дапоўніце выказванне пра выклічнік.

Выклічнік — гэта ____________, якая ______________, але не называе розныя пачуцці, пабуджэнні.

**2.** Прачытайце сказы. Назавіце выклічнікі, вызначце, якія пачуцці з іх дапамогай перадаюцца.

1. А-я-яй! Гэта ж не ўкладваецца ў памяці — цэлыя суткі ідзе вайна! (*Б. Сачанка*). 2. Ай-яй, такі вы малады, а такі гарачы (*І. Шамякін*). 3. Ах, ах... А я, дурань, толькі чорны ўзяў. Чуеш? Кінь мне кавалачак батона! (*П. Місько*). 4. Спыніўся чалавек, перакінуў ношу з пляча на плячо і лаецца: «Ох, каб на цябе ліха! Яшчэ гэты цяжар насі на сабе!» (*І. Грамовіч*). 5. «Эй, дыверсанты! — крыкнуў Саўка і смалянуў кіем пад стог. — Вылазьце, дагуляліся!» (*М. Зарэмба*). 6. Ой, як добра! З Дзімкам там буду гуляць (*У. Ліпскі*). 7. Ох! І слаўныя ж гэтыя мясціны, летнія ночкі! (*Я. Колас*). 8. Гэй, узвейце сваім крыллем, арляняты... (*Я. Купала*).

9. «Э-эй-й! — закрычаў хлопчык адчайна, наколькі ў яго хапіла духу. — Мой Дружок, мо-о-й! Не чапайце!» (*М. Зарэмба*). 10. Эге, галубок, дык ты можаш і гэтак... (*А. Кудравец*).

### Выбарачнае спісванне

**3.** Знайдзіце і выпішыце спачатку сказы, у якіх розныя выклічнікі перадаюць аднолькавыя эмоцыі, пачуцці, а потым сказы, у якіх розныя выклічнікі перадаюць аднолькавыя эмоцыі, пачуцці.

1. О, ляціце, журавы, ляціце сваёй дарогай, вясёлай і шумнай, як крыгаход! (*М. Стральцоў*). 2. Эх, і пагодка ж стаіць на Палессі! (*Я. Колас*). 3. Эх, Кабзар, каб ты збудзіўся, на Украіну глянуў!.. (*Я. Купала*). 4. «Эх, блазнота! — усміхнуўся дзед. — Прысядзь на купіну, паслухай, што я табе раскажу... (*І. Грамовіч*). 5. О, якое гора напаткала тады мой край і мой народ! (*Я. Колас*). 6. О! Гэта называецца зацягнуў невад (*Я. Колас*). 7. Вясна, вясна! О, колькі ў табе шчасця! (*Я. Купала*). 8. Эх, як прыгожы вы, раніцы мілыя, светлыя мары вясны! (*Я. Колас*). 9. Ой, як жа тут усё цікава (*А. Савіцкі*). 10. «О, глядзі, Антось, — з-за суседскага частаколу высунулася галава Юзіка. — Ці не куры яго [бусла] за зіму лятаць навучылі?» (*А. Камароўскі*). 11. «Ой, бабуся, — Юрка шмыгнуў ёй пад руку, — хіба ты не бачыла: там нейкай цётцы стольکі рэчаў згрузілі, а яна адна з малым...» (*С. Міхальчук*). 12. Эх, каб знаць-дазнацца, што за лесам-гаем (*М. Танк*). 13. Ой, няшчасна Бандароўна, адпачні часіну (*Я. Купала*).

**4.** Спішыце сказы, падкрэсліце выклічнікі і гукапераймальныя словы як члены сказа.

1. Што ты ведаеш пра нас — ні гу-гу! (*Я. Колас*). 2. У канцы вуліцы прагрымела дружнае «ўра» (*М. Лынькоў*). 3. Іду. У квецені лугі і вербы над ракою... «Кі-гі!.. Кі-гі!..» — за мною, нада мною (*А. Лойка*). 4. А гадзіннік усё дзын-дзын-дзын... 5. Чыстая вада, прытым у вялікай колькасці, нам ой-ой як патрэбна! (*В. Вольскі*). 6. З неба зляцеў на зямлю роспачна-абрывісты гук: «Курл!.. Курл!.. Курл!..» (*В. Быкаў*).

**5.** Спішыце сказы, паставіўшы знакі прыпынку пры выклічніках. Растлумачце іх пастаноўку.

1. «Эй вы слухайце! — крыкнуў Янка Тукала, звяртаючыся да сяброў і стараючыся перакрычаць іх. — Давайце заспяваем песню!» (*Я. Колас*). 2. «Эх ты разумніца мая ах ты залатая!» — цалавала Наташка Гешу ў чырвоную дзюбу (*А. Васілевіч*). 3. «Ах гэта вы! — прамовіла бабуля. — А я ўжо думаю: хто ўзняў на гары такі гармідар?» (*П. Васючэнка*). 4. «Ах ты мая маленькая няўцямніца!» — маці прытуліла дачку і пачала чытаць ёй кніжку пра коціка... (*А. Рыбак*). 5. «Ах Пятруша не дакучай. Хачу падумаць у цішы», — мякка прыпыняла папугая гаспадыня (*Г. Марчук*). 6. Э э Змітрок Не хітры, ты ўжо такога лінька паклаў сабе (*В. Гардзей*). 7. Ой вы гусі Паняслі вы за сабою лета (*Я. Колас*). 8. Гэ гэй — так заўсёды гукаў Ірчын тата, калі адыходзіў ад дому, так гукала і Ірка (*І. Пташнікаў*).

# ЛІТАРАТУРА


1. Беларуская мова ў табліцах і схемах : для вучняў старэйшых класаў сярэдняй школы / аўт.-склад. Г. М. Валочка [і інш.]. — Мінск : Юнипресс, 2007. — 186 с.

2. Беларуская мова : усе правілы ў табліцах / аўт.-склад. Ю. М. Лембіеўскі. — 4-е выд. — Мінск : Современная школа ; Кузьма, 2009. — 256 с.

3. Валочка, Г. М. Тэсты па беларускай мове : 7 клас : дапам. для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з 11-гадовым тэрмінам навучання / Г. М. Валочка, С. А. Язерская. — Мінск : Сэр-Віт, 2003. — 159 с.

4. Красней, В. П. Беларуская мова : Поўны школьны курс : тэорыя : дапам. для вучняў старшых класаў / В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль. — Мінск : Аверсэв, 2009. — 267 с.

5. Сердзюкова, С. Р. Тэставы кантроль па беларускай мове. 7—10 класы : дапам. для настаўнікаў / С. Р. Сердзюкова. — Мінск : Аверсэв, 2006. — 237 с.

6. Сіўковіч, В. М. Беларуская мова ў пытаннях і адказах : дапам. для вучняў / В. М. Сіўковіч. — 6-е выд., дапрац. — Мінск : УніверсалПрэс, 2008. — 599 с.

7. Сіўковіч, В. М. Беларуская мова : кароткі даведнік / В. М. Сіўковіч. — Мінск : Аверсэв, 2011. — 140 с.

8. Цыбульская, С. І. Беларуская мова : інтэнсіўны курс падрыхтоўкі да тэсціравання і экзамену / С. І. Цыбульская. — 7-е выд. — Мінск : ТетраСистемс, 2009. — 335 с.

9. Цыбульская, С. І. Беларуская мова : 5—11 класы : кантрольныя работы : дапам. для настаўнікаў / С. І. Цыбульская. — 4-е выд., перапрац. — Мінск : Сэр-Віт, 2009. — 191 с.

# ЗМЕСТ

**Прадмова** ........................................................ 3
**Паўтарэнне вывучанага** ........................................ 6
Тэкст, яго асноўныя прыметы.
Тэма і асноўная думка тэксту. Загаловак.
Спосабы і сродкі сувязі сказаў і частак у тэксце.......... 6
Сэнсава-граматычная і тэкстаўтваральная роля
іменных часцін мовы і дзеяслова ў тэкстах
розных тыпаў, стыляў і жанраў ................................10
**Словы-гібрыды (дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе)** ...............16
Спецыфіка дзеепрыметніка як формы дзеяслова ........16
Сэнсава-граматычная і стылістычная роля
дзеепрыметнікаў ........................................................18
Правілы ўжывання дзеепрыметнікаў
і дзеепрыметнікавых зваротаў .....................................20
Роля дзеепрыметнікаў пры апісанні асоб,
прадметаў, з'яў ...........................................................23
Спецыфіка дзеепрыслоўя як дзеяслоўнай формы .......26
Сэнсава-граматычная і стылістычная роля
дзеепрыслоўяў у сказах, тэкстах .................................30
Правілы ўжывання дзеепрыслоўяў у маўленні............34
**Прыслоўе** ...................................................................39
Прыслоўе як самастойная часціна мовы .....................39
Выкарыстанне прыслоўяў розных сэнсавых груп
у апавядальных тэкстах...............................................43
Вобразна-выяўленчая роля прыслоўяў
у тэкстах-апісаннях ....................................................53
Ужыванне прыслоўяў у тэкстах
тыпу разважання.........................................................55
**Прыназоўнік** ...............................................................60
Прыназоўнік як службовая часціна мовы....................60
Асаблівасці ўжывання некаторых прыназоўнікаў
у беларускай мове .......................................................66
Шматпрыназоўнікавасць як вобразна-выяўленчы
сродак. Ужыванне прыназоўнікава-іменных
канструкцый як сродку падзелу тэксту на сэнсавыя
часткі...........................................................................70

**Злучнік** .................................................. 77
Злучнік як службовая часціна мовы ..................... 77
Ужыванне злучнікаў як сродку сувязі сказаў і частак у тэксце .................................. 81
Шматзлучнікавасць як экспрэсіўны граматычны сродак .................................... 86
**Часціца** .................................................. 93
Спецыфіка часціцы як службовай часціны мовы. Роля часціц у маўленні ................................ 93
Ужыванне часціц *не*, *ні* ................................ 96
Правапіс *не* (*ня*), *ні* з рознымі часцінамі мовы ........... 99
**Выклічнік** .............................................. 103
Спецыфіка выклічніка як асобай часціны мовы ....... 103
**Літаратура** ............................................ 106

*Вучэбнае выданне*

ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ЗАНЯТКІ

**Валочка** Ганна Міхайлаўна
**Язерская** Святлана Анатольеўна

**БЕЛАРУСКАЯ МОВА. 7 КЛАС**
**Слова ў тэксце**

Дапаможнік для вучняў устаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай і рускай мовамі навучання

*2-е выданне*

Адказны за выпуск *Д. Л. Дзямбоўскі*

Падпісана ў друк 17.09.2012. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 6,51. Ул.-выд. арк. 4,31. Тыраж 1100 экз. Заказ

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Аверсэў».
ЛИ № 02330/0003944 ад 03.02.2009. Вул. М. Олешава, 1, офіс 309, 220090, Мінск.
**E-mail: info@aversev.by; www.aversev.by**
Кантактныя тэлефоны: (017) 268-09-79, 268-08-78.
Для пісьмаў: а/с 3, 220090, Мінск.

УПП «Віцебская абласная друкарня».
ЛП № 02330/0494165 ад 03.04.2009.
Вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4, 210015, Віцебск.